ПРОЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# КОМУНІСТЫЧНАЕ ВЫХАВАННЕ

ОРГАН
АРКАМАСВЕТЫ
І ЦП САЮЗА
РАЦАСВЕТЫ
БССР

ЖНІВЕНЬ

№ 8

1933

ДЗЯРЖАЎНАЕ
ВЫДАВЕЦТВА
БЕЛАРУСІ

*Баршчэўская*

# Аб новых праграмах

У пастанове ад 25/VIII ЦК канстатаваў, што ў апошнія гады ...а школах РСФСР адбыліся значныя зрухі; аднак яшчэ да ...нца не знішчаны карэнны недахоп школы, які заключаецца ... тым, што яна не дае выстарчальнага аб'ёма агульна-асветных ...даў і нездавальняюча вырашае задачы падрыхтоўкі для тэх...кумаў і для вышэйшай школы зусім пісьменных людзей, якія ...обра ўладаюць асновамі навук.

Як падкрэслівае пастанова ЦК УсеКП(б) пераход да сістэма...тычнага засваення навук на аснове пэўных навучальных планаў, праграм і раскладаў, прывёў да некаторага зруху. Снежанскі пленум ЦК КП(б)Б таксама адзначыў, што новыя навучальныя праграмы сталі некалькі вышэй па аб'ёму ведаў і больш сістэ...матычнымі па размеркаванню навучальнага матар'яла ў параў...нні з мінулымі годамі.

Аднак, праграмы, выданыя ў 1932 годзе, мелі яшчэ цэлы шэ...г істотных недахопаў. Асноўнымі недахопамі праграм з'яў...яецца:

а) перагрузка праграм вучэбным матар'ялам, якая прыво...іла да таго, што шэраг дысцыплін праводзіўся ў школ... наспех, а веды і навыкі дзецьмі цвёрда не засвайваліся і ... замацоўваліся.

б) Невыстарчальнасць і нават адсутнасць сувязі ... паасобнымі праграмамі, у асаблівасці паміж праграмай ... матыцы і чарчэнню, а таксама паміж праграмамі ... тыцы, фізіцы, хіміі, прыродазнаўству, працы і г. ...

в) Наяўнасць прынцыповых памылак па шэр... ўпрашчэнска-вульгарызатарскі падыход да ... арыентыроўкі на карту ў курсе геаграфіі, па... ныя памылкі ў курсе грамадазнаўства, гістор...

г) Невыстарчальнасць гістарычнага па... па грамадскіх прадметах, якая выяўляецц... надзвычай слаба даецца ўяўленне аб ... народаў і краін, аб развіцці чалавечага ...

У адпаведнасці з гэтым ЦК УсеК... ЦК КП(б)Б прапанавалі Наркамасв... грамы для пачатковай і сярэдняй ш...

бяспечыць сапраўднае, добрае і сістэматычнае ўсваенне вучня асноў навук, веданне фактаў і навыкі правільнай гутаркі, ... санне сістэматычных практыкаванняў і інш.

У гэтай пастанове ЦК дае зусім яскравыя ўстаноўкі да перапрацоўкі кожнай праграмы паасобку.

Не гледзячы на гэтыя зусім яскравыя ўстаноўкі, дадзены пастановамі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б да складання праграм, у апошніх, выдадзеных НКА БССР у 1932 г. маецца шэраг гр... бых палітычна-шкодных памылак, пратасквання трацкісцк... кантрабанды, незабяспечана выхаванне прынцыпаў пралетар... скага інтэрнацыяналізма, а ў некаторых праграмах маецца пр... мое патуранне буржуазнаму нацыяналізму (мова, літаратур... грамадазнаўства, гісторыя, геаграфія).

«Страта класавай пільнасці, гніла-ліберальныя адносіны ... класава-варожых праяў, механістычнае правядзенне нацыяна... най палітыкі, а часамі прамое патуранне буржуазна-нацыяна... стычным тэндэнцыям» (з пастановы ЦК КП(б)Б аб рабоце Н... камасветы)—усё гэта надзвычайна яскрава адбілася ў праграм...

Акрамя гэтых грубейшых палітычных памылак і скажэн... праграмы па размяшчэнню матар'яла не забяспечвалі даклад... акрэсленага аб'ёма ведаў, не адпавядалі тым паказанням, ... былі дадзены пастановай ЦК аб праграмах і рэжыме.

Трэці канцэнтр школы быў разлічан не на 3 гады н... чання (у складзе 8, 9, 10 груп), а толькі на 2 гады (8, 9), ар... таваліся на 9-годку, замест 10-годкі.

Такім чынам пераразмяркоўваючы праграмны мата... 7-годкі, улічваючы III-ці канцэнтр, не разгрузілі цалкам праг...

Не выканалі паказанняў ЦК партыі ў адносінах да асоб... ...ам (геаграфія, мова, грамадазнаўства).

...рамы па геаграфіі не забяспечвалі ведаў па карц... ...х геаграфічных назваў, якія вучні павінны ведаць, ...валі гістарызму ў курсе геаграфіі, а шэраг тэм па ...аліся на чыста грамадазнаўчыя тэмы, не даючы ...чнага.

... гісторыі, акрамя грубейшых палітычных памы... ...валі фактычных ведаў па гісторыі, яны яшчэ ...ылі абстрактна-соцыялагізаванымі.

...ададзнаўству была палітычна-непісьменным ... ступені не забяспечыла паказання ЦК ... гістарызмам.

...ым было тое, што праграмы грамада... ... разлічаны толькі на адзін 5-ты год, ...ама з'яўляецца надзвычай перагру... ...эуковай форме знаёмства з сучас...

...кі датычыцца і праграм грама... ...цэнтру. Паясняльная запіска да ...а палітычна-шкодным даку-

мантам, дзе засталіся яшчэ сляды «левацкага» пражэкцёрства ў пытаннях метадаў работы.

Пералічваючы ўсё прыёмы работы, выкладчыкам зусім абыходзіцца прамая дырэктыва ЦК партыі аб тым, што настаўнік абавязан сістэматычна, паслядоўна выкладаць сваю дысцыпліну, усямерна прывучаючы дзяцей да работы над падручнікам і над кнігай, да рознага роду самастойных пісьмовых работ, да работы ў габінеце, лабараторыі і г. д.

У гэтай-жа запісцы роля настаўніка зводзіцца да таго, што ён павінен адабраць матар'ял для самастойнай прапрацоўкі вучняў.

Самыя праграмы не давалі акрэсленага аб'ёма ведаў, а ў значнай ступені паўтаралі на працягу некалькіх год адны і тыя-ж тэмы. Не было нарастання ў складанасці матар'яла. У гэтых пытаннях не быў забяспечан гістарызм. Яны не забяспечылі выхавання прынцыпаў пралетарскага інтэрнацыяналізма.

Самымі абураючымі былі праграмы па мове.

Акрамя грубых палітычна-шкодных памылак ва ўстаноўках і палажэннях, якія меліся ў паясняльных запісках, самі праграмы, як па І, так і па ІІ канцэнтру, не забяспечвалі прамых паказанняў, даных пастановай ЦК ад 25/VIII аб праграмах і рэжыме ў школе. Яны не давалі сістэматычнага і дакладна акрэсленага кола ведаў, а таксама добрых навыкаў правільнага чытання, пісання і вуснай мовы.

Зусім адсутнічала ў І-м канцэнтры праграма па літаратуры. Праграма па літаратуры для сярэдняй школы не давала ведаў у галіне спецыфікі літаратуры. Пяты год навучання з'яўляўся тэматычным і цалкам падпарадкаваў літаратуру з яе спецыфікай вывучаемай грамадазнаўчай тэме.

У праграме адсутнічаў гістарызм, не было вывучэння літаратуры народаў СССР і Захаду.

Астатнія праграмы па дакладных дысцыплінах былі надзвычай перагружаны. (IV-ты год матэматыка—геаметрычны матар'ял, VII-мы год—раздзел алгебры).

Праграма па прыродазнаўству ўсю батаніку вывучала ў адзін год, а таксама адзін год адводзіла на вывучэнне заалогіі і ў VII-й групе прапрацоўвала анатомію і фізіалогію. Такая перагрузка вучэбнага матар'яла не давала магчымасці добраякаснага засваення. Вывучэнне фізікі пачыналася з VI-й групы і вучні, канчаючы 7-годку, не ведалі электрычнасці.

Усё гэта паставіла перад НКА задачу даць новыя праграмы па ўсіх дысцыплінах.

Згодна рашэння Калегіі НКА прыняты праграмы, зацверджаныя Наркамасветы РСФСР, і дадзен мясцовы матар'ял да тых праграм, дзе гэта патрэбна (грамадазнаўства, геаграфія).

Распрацаваны праграмы па белмове, літаратуры, гісторыі Беларусі.

Прынцыпы праграм вельмі яскрава вызначаны пастановай ЦК партыі аб пачатковай і сярэдняй школе ад 5/IX-31 г. «Арганізаваць навукова-марксісцкую прапрацоўку праграм, забяспечыўшы ў іх дакладна-вызначаны круг сістэматычных ведаў (родная мова, матэматыка, фізіка, хімія, геаграфія, гісторыя), каб уся грамадска-вытворчая работа вучняў была падпарадкавана вучэбным і выхаваўчым мэтам школы. Адсюль асноўныя прынцыпы:

1) сістэматычнасць у распалажэнні праграмнага матар'яла па кожнаму прадмету паасобку.

2) Строгая паступовасць у нарастанні аб'ёма ведаў, улічваючы ўзрасныя асаблівасці вучняў.

3) Устанаўленне сувязі выкладання асобных дысцыплін з практыкай соцыялістычнага будаўніцтва.

4) Сувязь паасобных дысцыплін паміж сабой.

5) Забеспячэнне гістарызма ў праграмах.

6) Забеспячэнне выхавання прынцыпаў пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Перад намі стаяла задача пабудаваць праграму так, каб сапраўды забяспечыць гэтыя прынцыпы.

Новыя праграмы выходзяць асобнымі зборнікамі, І-шы канцэнтр змешчан у 2-х зборніках і асобнымі зборнікамі праграмы II-га канцэнтра.

Да праграм маюцца паясняльныя запіскі, якія вызначаюць асноўныя задачы кожнай паасобку дысцыпліны і даюць матэматычныя паказанні настаўнікаў, як працаваць па таму ці іншаму прадмету.

Матэматыка ў пачатковай школе ставіць задачу даць вучням за чатыры гады:

1) цвёрдыя веды і навыкі ў выкананні 4-х арыфметычных дзеянняў з цэлымі лікамі любой велічыні.

2) Цвёрдыя веды метрычнай сістэмы мер (лінейных, квадратных, кубічных і цвёрдыя практычныя навыкі ў карыстанні гэтымі мерамі пры вымярэнні).

3) Першапачатковыя веды аб пачатковых і звычайных дробах.

4) Самыя элементарныя звесткі ў галіне нагляднай геаметрыі, звязваючы іх з працай, з вымярэннем і чарчэннем.

5) Уменне развязваць задачы з цэлымі і дробавымі лікамі.

Такім чынам цэнтральнае месца ва ўсіх гадах навучання ў пачатковай школе павінна займаць арыфметыка цэлых лікаў.

Веды і навыкі вучняў у гэтай галіне павінны быць асабліва грунтоўнымі і свядомымі, а ў пэўнай ступені і закончанымі з тым, каб сярэдняя школа, грунтуючыся на цвёрда-засвоеных ведах, якія дае пачатковая школа, магла сканцэнтраваць сваю ўвагу на арыфметыцы дробных лікаў.

Задача праграмы па прыродазнаўству:

1) Раскрыць перад вучнямі самыя простыя законамернасці развіцця ў прыродзе ў даступнай і зразумелай дзецям форме, на базе канкрэтнага матар'яла.

2) Паказаць карціну аўладання стыхійнымі сіламі прыроды ў працэсе соцыялістычнага будаўніцтва.

3) Абудзіць у дзяцей інтарэс да вывучэння прыроды і ўзброіць іх элементарнымі навыкамі даследвання прыродных з'яў.

4) Выходзячы з уяўленняў дзяцей, якія ў іх маюцца аб прыродзе, трэба ўдасканаліць гэтыя ўяўленні, весці барацьбу з рознымі рэлігійнымі і абывацельскімі тлумачэннямі з'яў прыроды на гэтай аснове, пашырыць светапогляд вучняў ведамі новых фактаў з жывой і неарганічнай прыроды.

У пачатковай школе пачынаецца толькі першае азнаямленне з асновамі навук аб прыродзе. Пры гэтым не павінна быць сузіральнага падыходу да яе. Баявы характар работы па прыродазнаўству, ускрыццё фактаў уздзеяння на прыроду, пераробка яе ў інтарэсах працоўных—вось асаблівасці работы па прыродазнаўству ў совецкай школе.

Прыродазнаўства павінна стаць агульнай зброяй выхавання мільёнаў дзяцей, як ваяўнічых бязбожнікаў, як будучых работнікаў соцыялістычнай гаспадаркі, здольных аўладаць тэхнікай і навукай у наступных звеннях навучання.

Праграма па геаграфіі ў пачатковай школе ставіць сваёй асноўнай мэтай даць вучням веданне карт, асабліва БССР і СССР, элементарныя веды па краязнаўству, элементарныя паняцці фізічнай геаграфіі, асноўныя моманты фізічнай геаграфіі СССР, важнейшыя веды, якія датычацца развіцця культуры нацыянальнай па форме і соцыялістычнай па зместу БССР і народаў СССР, элементарныя веды па геаграфіі капіталістычных краін.

Выходзячы з гэтых асноўных установак і пабудавана праграма.

Праграма па грамадазнаўству ставіць сваёй задачай даць вучням на канкрэтным фактычным матар'яле веды аб нашым соцыялістычным будаўніцтве, кіруючай ролі партыі, паказаць у гістарычным разрэзе, як рабочыя і сяляне пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі прышлі да ўстанаўлення дыктатуры пралетарыята, да велізарных перамог у галіне соцыялістычнага будаўніцтва.

Праграма таксама знаёміць вучняў у даступнай форме з развалам гаспадаркі, з крызісам у капіталістычных краінах.

Гэта праграма насычана элементамі пролетарскага інтэрнацыяналізма, выпячвае поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў рэспубліках былых прыгнечаных нацыянальнасцяй. Паказвае поспехі соцыялістычнага будаўніцтва ў нас, у БССР, дзякуючы няўхільнаму правядзенню ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Гістарызм з'яўляецца асноўнай неад'емлемай часткай гэтай праграмы. Пачынаючы ўжо з II-й групы, кожная тэма праграмы вывучаецца ў гістарычным аспекце (раней і цяпер). Гэты прынцып праходзіць па ўсёй праграме.

Дзякуючы ўсім гэтым прынцыпам, гэта праграма выгадна адрозніваецца ад усіх раней існуючых праграм. Пасля кожнай тэмы паказаны метады і формы работы для настаўніка.

Праграма па беларускай мове ставіць сваей мэтай даць вучням вызначаны круг сістэматычных ведаў па роднай мове, якія-б забяспечылі ў пачатковай школе засваенне сталых навыкаў правільнага чытання, пісьма і вуснай мовы.

Растлумачэнне вучням у даступнай форме класавай прыроды мовы, яе ролі, як зброі класавай барацьбы—дапамога вучням усвядоміць сутнасць і значэнне ленінскай нацыянальнай палітыкі.

Праграма па рускай мове пабудавана па тых-жа самых прынцыпах, у ёй увесь час праводзяцца параўнанні з беларускай мовай. У праграме для пачатковай школы даецца таксама спіс літаратурных твораў як для класавага, таксама і для пазашкольнага чытання. Паказана роля мастацкай літаратуры ў комуністычным выхаванні дзяцей. Вось асноўныя рысы праграмы І-га канцэнтра.

Задачы праграмы біалогіі сярэдняй школы наступныя:

а) даць вучням веды фактаў з марфалогіі, анатоміі, фізіялогіі і сістэматыкі раслін і жывёл, неабходныя для разумення асноўных законамернасцяй развіцця арганізма і для наступнага асваення асноў фізіалогіі чалавека і тэорыі развіцця арганічнага света.

б) Ускрыць перад вучнямі матэрыяльнасць працэсаў у жыцці жывёл і раслінных арганізмаў. Канкрэтна паказаць сувязь будовы воргана з функцыяй арганізма, з абкружаючым асяроддзем.

Паказаць своеасаблівасць жывога, даць паняцце аб клетцы ў клеткавай будове арганізма.

Даць элементарнае ўяўленне аб гістарычным развіцці арганічнага света. Гэтым самым даецца матэрыял, неабходны да вядзення непрымірымай барацьбы з рэлігійнымі забабонамі і прадрассудкамі.

в) Паказаць, як чалавек уздзейнічае на расліну і жывёлу, якія велізарныя перспектывы адчыняюцца на шляху кіравання арганізмамі.

г) Навучыць правільна ўжываць свае біалагічныя веды ў практыцы сельскагаспадарчай працы.

Курс біалогіі пачынаецца з батанікі. Батаніка распрацоўваецца на працягу V-га і чверці VI-га (да снежня месяца) годоў навучання.

За батанікай ідзе курс заалогіі, які займае астатнюю частку часа VI-й групы і ўвесь 7-мы год навучання.

Курс анатоміі і фізіалогіі чалавека аднесен на 8-мы год навучання.

Тым самым праграма значна разгружана ў параўнанні з мінулагодняй, што дае магчымасць лепш, больш стала прапрацаваць гэты матар'ял.

На 9-м годзе навучання прапрацоўваецца курс эвалюцыйнага вучэння, на 10-м—геалогія, мінералогія.

Курс хіміі пачынаецца з 6-га года навучання. Асноўная задача курса даць чоткія веды ў галіне асноўных хімічных законаў, знаёмства з хімічнымі элементамі, вучэнне аб атамнамалекулярнай тэорыі, аб валентнасці, аб задачах хіміі ў соцыялістычным будаўніцтве ў хімізацыі нашай краіны і інш.

Праграма па гісторыі ставіць сваей задачай даць вучням сістэматычныя веды па гісторыі класавай барацьбы. Гэта праграма павінна раскрыць перад вучнямі на канкрэтным матар'яле, што гісторыя класавага грамадства ёсць гісторыя класавай барацьбы.

5-ты год прапрацоўвае гісторыю дакласавага грамадства і Ўсход. 6-ты год—феадальнае грамадства на Захадзе і ў Расіі. 7-мы год—прамысловы капіталізм на Захадзе і ў Расіі. 8-мы год канчаецца рабочым рухам у Расіі і Парыжскай комунай на Захадзе.

Праграма дае багаты фактычны матар'ял, яна значна разгружана ў параўнанні з праграмамі мінулага года.

Асобна распрацавана гісторыя класавай барацьбы на Беларусі, яна павінна прапрацоўвацца не адарвана ад агульнай праграмы па гісторыі, а як неад'емная яе частка. Яна будзе выдзена асобна.

Праграмы па мове для сярэдняй школы, у адпаведнасці рашэннямі ЦК, ставяць сваей мэтай забяспечыць засваенне сапраўды сістэматычнага кола ведаў, а таксама цвёрдых навыкаў, правільнага чытання, пісьма, вуснай мовы і значнага ўмацавання элементаў гістарызма.

Выконваючы гэтую важнейшую задачу, праграма па мове павінна быць падпарадкавана справе комуністычнага выхавання вучняў, выхавання ў іх марксісцка-ленінскага светапогляду.

Дана чоткая і яскравая ўстаноўка па пытаннях граматыкі: пры вывучэнні граматыкі (марфалогіі, сінтакса) трэба ў процілегласць існаваўшым раней у школах лагічнай і фармальнай граматыкі, якія адрываюць форму слова ад яго сэнсу, браць гэтыя два бакі слова ў іх дыялектычным адзінстве, выходзячы з сэнсавага значэння як вядучага.

Па гэткаму-ж прынцыпу складзена праграма па рускай мове.

Праграма па геаграфіі ставіць сваёй мэтай забяспечыць веданне карты, у асаблівасці БССР і СССР, асноўныя паняцці фізічнай геаграфіі, асноўныя элементы фізічнай, прыроднай і эканамічнай геаграфіі, таксама даныя па геаграфіі капіталістычных краін.

На 5-м годзе прапрацоўваецца фізічная геаграфія, пры чым даны асобныя тэмы па кожнаму матар'ялу.

6-ты год навучання—палову года адводзіць кароткаму агляду геаграфіі важнейшых капіталістычных краін. Пасля гэтага пачынаецца геаграфія СССР, якая працягваецца і ў 7-м годзе навучання.

На 7-м годзе навучання вывучаецца спецыяльна БССР.

Праграма 8-га года вывучае народную гаспадарку СССР цалкам (атраслёвы раздзел).

Грамадазнаўства ў сярэдняй школе вывучаецца на працягу двух гадоў—у 5-м і 6-м гадах навучання. 5-ты год вывучае такія тэмы: Маркс, Энгельс, Ленін, Сталін як правадыры сусветнага пралетарыята; іх жыццё і барацьба. 6-ты год навучання дае барацьбу двух мiроў, двух сістэм.

Праграма па матэматыцы сярэдняй школы ставіць сваей задачай забяспечыць веды ў галіне тэорыі матэматыкі і набыць навыкі па пэўных раздзелах матэматыкі: арыентыроўку ў прасторавых і колькасных адносінах, развіць матэматычнае мысленне і ауладанне прымянення матэматычнага мэтада ў розных галінах ведаў і ў пытаннях практыкі.

Праграма па арыфметыцы ставіць сваей задачай прывесці ў сістэму веды вучняў, набытыя імі ў пачатковай школе, і закончыць вывучанне арыфметыкі.

Асобныя задачы алгебры ў 6-й—7-й групах навучыць вучняў уладаць метадам складання і рашэння ўраўненняў.

Сістэматычны курс геаметрыі пачынаецца з 6-га года навучання. Курс планіметрыі пачынаецца на 8-м годзе.

Курс фізікі ў тэтым годзе пачынаецца з 5-га года навучання акім чынам, у курс 7-годкі ўключаецца электрычнасць. 8-мы і разгорнута вывучае курс механікі.

Праграма па літаратуры пабудавана так, што яна ўключае ускую і беларускую літаратуру. Курс літаратуры павінен даць а 5-м годзе навучання неабходны запас фактычных ведаў па мастацкай літаратуры, навучыць правільнаму гістарычнаму і класаваму разуменню мастацкага твору і развіць інтарэс да самастойнага чытання. 5-ты год у адносінах навучання мастацкай літаратуры з'яўляецца курсам прапедэўтычным.

Спачатку разбіраюцца творы сучасных пісьменнікаў, якія даюць матар'ял, блізкі і знаёмы вучням. Пасля сучасных пісьменнікаў праграма дае шэраг твораў пісьменнікаў мінулага. Разбор класікаў рускай літаратуры і пісьменнікаў мінулага беларускай літаратуры з'яўляецца асабліва цяжкім у сувязі з тым, што ў шэрагу выпадкаў тэматыка і ідэёвая накіраванасць твораў могуць быць чуждымі ў большай або меншай ступені вучням совецкай школы. Тут праграма і настаўнік павінны падыйсці да гэтых пісьменнікаў на аснове ленінскіх паказанняў аб значэнні культурнай спадчыны, улічваючы прагрэсіўныя моманты ў іх творчасці.

Праграма ставіць перад сабой задачу забяспечыць набыццё вучнямі элементарных ведаў аб гістарычным шляху развіцця літа-

ратуры. Для гэтага ў праграму 5-га года ў другім паўгоддзі ўведзены ў гістарычным парадку шэраг твораў дваранскай і буржуазна-дэмакратычнай рускай і беларускай літаратуры. Разбор гэтых твораў павінен давацца настаўнікам на канкрэтнай гістарычнай базе.

У межах сістэматычнага замацавання, умення правільна зразумець і разабраць мастацкі твор, праграма паступова ўводзіць даступнае вучням тэарытычнае асмысленне некаторых літаратурных твораў. На 5-м годзе навучання праграма дае разуменне:

а) што літаратура з'яўляецца зброяй класавай барацьбы і класавага выхавання чалавека.

б) Знаёміць з спецыфікай мастацкай літаратуры. Уводзяцца літаратуразнаўчыя паняцці: тэмы твору, сюжэт, паняцце эпітэту, параўнанняў і метафараў.

6-ты год навучання на аснове прапрацоўкі пройдзенага курса 5-га года дае больш сістэматычны курс вывучэння дарэвалюцыйнай літаратуры.

7-мы год навучання—знаёміць больш падрабязна, сістэматычна з совецкай літаратурай. У праграму па літаратуры ўведзена літаратура народаў БССР, СССР і Заходняя літаратура.

Тут ускрыты асноўныя рысы прынцыпаў задач новых праграм. Перад настаўнікам стаіць задача прааналізаваць праграмы, засвоіць іх, ауладаць лепшымі прыёмамі для паднясення праграм вучням.

# АЎЛАДАЕМ ТЭХнікай
## ПЕДАГАГІЧНАГА ПРАЦЭСА

*Ц. Барودзіч*

## Стан ведаў па граматыцы і правапісу у 4-ай, 5-ай і 7-ай групах*)

Новыя праграмы, распрацаваныя ў адпаведнасці з пастановамі ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе, у першую чаргу ставяць сваёй задачай ліквідацыю «карэннага недахопа» школы. Гэты недахоп заключаецца ў тым, што навучанне ў школе не давала дастатковага аб'ёма і сістэмы агульнаадукацыйных ведаў.

У ліку прадметаў пачатковай і сярэдняй школы, якія маюць першачарговае агульнаадукцыйнае значэнне,—граматыка, правапіс і наогул родная мова займае досыць важнае месца. Ранейшыя праграмы па мове, якія па сутнасці трымаліся прынцыпа «граматыка для граматыкі», зніжалі сапраўдную ролю мовы.

Граматыка—як прадмет вывучэння і даследвання—павінна быць навуковай, але яна, безумоўна, будзе адрозніваццa на розных ступенях навучання ў школе. У сярэдняй школе нельга даць граматыку ва ўсёй яе складанасці, гэта вучням будзе не падсілу. Выкладанне граматыкі ў семігадовай школе павінна забяспечыць падрыхтоўку адукаваных людзей, якія-б уладалі асновамі навукі па мове.

Каб быць пісьменным, правільна напісаць слова, або цэлы сказ, патрэбна як тэарэтычна, так і практычна засвоіць належныя правілы граматыкі і правапіса, якія даюцца ў праграме для адпаведнай групы вучняў.

Патрэбна дакладна вызначыць ролю граматыкі ў справе навучання правапіса. Вывучэнне граматыкі аблягчае і дапамагае набыццю навыкаў пісьма і зрока. У школе павінна існаваць цесная сувязь граматыкі і правапіса, бо цэлы рад арфаграфічных навыкаў, асабліва марфалогічных, абгрунтоўваецца граматычнымі правіламі.

Асноўныя прынцыпы новай праграмы па граматыцы для семігадовай школы зводзяцца да наступнага: а) сучасная праграма па граматыцы кладзе ў аснову—барацьбу з лагічнай і фармальнай установкамі;

*) З матэрыялаў абследвання НДІ Комвыхавання.

б) асноўнае ў мове—гэта яе пазнавальная, сэнсавая функцыя, а не адрыў формы ад зместа, што з'яўлялася тыповым для старой граматыкі. У аснову праграмы пакладзен прынцып адзінства зместа і формы, пры чым у гэтым адзінстве вядучым з'яўляецца змест;

в) асноўны шлях у рабоце па мове,—сказ, як закончаная сэнсавая адзінка мовы, часціна сказа і мовы (слова), часткі слова—склады, часткі складоў, гукі і літары.

## Задачы даследвання

У нашай рабоце асноўнай задачай даследвання з'яўлялася праверка засваення праграмы па граматыцы і правапісу вучнямі 4, 5 і 7 груп. Апроч таго мы ставілі сабе мэтай выявіць, якімі метадамі і прыёмамі карыстаўся настаўнік у рабоце па мове.

У якасці эксперыментуемых навыкаў па граматыцы і правапісу ад Навукова-Даследчага Інстытута Комвыхавання былі даны наступныя тэксты пад дыктоўку:

а) па чацвертай групе:

«Снег сышоў з палёў. Пацяклі шумлівыя раўчакі вады. Уся прырода пачала абуджацца. Калгаснікі падрыхтавалі сельскагаспадарчыя прылады: плугі, бароны, пружыноўкі і іншы патрэбны інвентар. Яны зацікаўлены ў павышэнні ўраджайнасці. З вялікай увагай кожная брыгада абгаварыла выпрацаваны вытворчы план.

Чым-жа школа дапамагае калгасу?

Яна арганізавала збор попелу, сабрала патрэбную літаратуру і паставіла спектакль для калгаснікаў.

Перадавыя калгасы выехалі ў поле з лозунгамі: «Няхай жыве комуністычная партыя».

б) па пятай групе:

«Навучальны год падыходзіць к канцу. Усе вучні ўпарта змагаюцца за якасную здачу праходзімых прадметаў. Групы і паасобныя вучні заключылі паміж сабой соцспаборніцтва і ўдарнымі тэмпамі выконваюць узятыя абавязкі. Вучні склалі дыяграмы выканання заданняў па матэматыцы, мове, літаратуры, фізіцы, хіміі, гісторыі і геаграфіі.

Зацверджаныя пункты ўдарніцтва вучні выконваюць добраякасна і акуратна. Як вучні падрыхтаваліся да рэволюцыйнага свята?—Яны правяраюць выкананне соцумовы, рыхтуюць спектакль і сустрэнуць свята з лозунгам: «Няхай жыве першае мая».

в) па сёмай групе:

«Прафесар Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта прачытаў лекцыю па палітэканоміі. Дзелавод перадаў машыністцы надрукаваць канцтарыс. Супрацоўнік атрымаў двухтыднёвы водпуск. Па нашым заводзе няма ніводнага непісьменнага. На чарговым

пасяджэнні было разгледжана пытанне аб землеўпарадкаванні. Пачарнеў на полі снег, і на ўзгорках сталі паказвацца чорныя лапінкі. Ідзе наш дзядзька і па бруку адзін за дзесяць робіць груку (Я. Колас). Дожджык закапаў, маланка бліснула чырвоным агнём і гром загрымеў цяжка і сярдзіта».

Для даследвання стана ведаў па граматыцы і правапісу, у парадку заданняў была дадзена вучням у адпаведнасці з праграмай работа над прыведзенымі тэкстамі, якая складалася з наступнага:

а) Па чацвертай групе:

1. Абазначыць часціны сказа—дзейнік, выказнік, дапаўненне і азначэнне;
2. Падкрэсліць назоўнікі і абазначыць склон і род;
3. Падкрэсліць дзеясловы і абазначыць часы і асобы;
4. «ў»—у пачатку, сярэдзіне і канцы слова;
5. «дз», «дж»—у сярэдзіне слова;
6. Правапіс зацвярдзелых зычных;
7. Самастойная расстаноўка знакаў прыпынку: коска, двукроп'е, двукоссе, пытальнік, клічнік.

б) Па пятай групе:

1. Абазначыць часціны сказа—дзейнік, выказнік, азначэнне і дапаўненне;
2. Падкрэсліць назоўнікі і абазначыць склон, род і лік;
3. Падкрэсліць дзеясловы, абазначыць лад і спражэнне;
4. Правапіс падвойных зычных;
5. Правапіс падвойнага «цц» у лічэбніках;
6. Канчаткі меснага склона назоўнікаў адзіночнага ліка;
7. Канчаткі назоўнага склона прыметнікаў множнага ліка;
8. Самастойная расстаноўка знакаў прыпынка; коска пры пералічэнні, двукроп'е перад пералічэннем, двукоссе, пытальнік і клічнік.

в) Па сёмай групе:

1. Падкрэсліць усе часціны сказа і абазначыць, якімі часцінамі мовы яны выражаны;
2. Падкрэсліць дзеяслоў і абазначыць лад, час, спражэнне і трыванне;
3. Правапіс падвойных зычных;
4. Галосныя пасля Ф, Т, С у іншамоўных словах.
5. Канчаткі меснага склона назоўнікаў адзіночнага ліка.
6. Самастойная расстаноўка коскі ў складаных сказах;
7. Граматычны склад слова—падкрэсліць корань, суфікс, канчаткі і прыстаўку.

Усе гэтыя навыкі падкрэсліваюцца ў праграме для вучняў адзначаных груп.

Прыведзены вышэй тэкст (дыктоўка) для даследвання, па свайму лексічнаму складу цікавы тым, што ў ім ёсць характэрныя асаблівасці напісання асобных слоў, як напрыклад:

Па чацвертай групе:—«абуджацца», «разгледжана», «падрыхтавалі», «сельскагаспадарчыя», «пружыноўкі», «інвентар», «зацікаўлены», «павышэннем ураджайнасці», «зацвердзіла», «спектакль», «лозунгам», «комуністычная».

Па пятай групе: «падыходзіць», «змагаюцца», «праходзімых», «соцспаборніцтва», «дыяграмы», «матэматыцы», «зацверджаныя», «рэволюцыйнага», «спектакль», «лозунгам».

Па сёмай групе: «прафесар», «універсітэта», «палітэканоміі», «машыністцы», «каштарыс, двухтыднёвы», «непісьменнага», «пасяджэнні», «разгледжана», «землеўпарадкаванні», «дзядзька», «дождж ык», «сярдзіта».

Падбор у тэксце адзначаных слоў дае магчымасць праверыць, як вучні ў практычнай рабоце змогуць скарыстаць свае тэарэтычныя веды па правапісу. Па меры паступовай падрыхтаванасці вучняў (4, 5, 7 груп) падбор тэкста з належнымі словамі даваўся ў адпаведнай складанасці—чацвертай групе больш проста, а сёмай—больш складана.

Для даследвання ведаў, характэрным момантам з'яўляецца яшчэ ўменне расстаўляць адпаведныя знакі прыпынку па сэнсу і інтанацыі. Прыведзеныя тэксты па ўсіх групах маюць усе адпаведныя сказы, напрыклад, па чацвертай групе: сказ з пералічэннем, пытальны, клічны; а таксама маюцца і такія знакі, як чужаслоўе і двукроп'е. Большасць сказаў па свайму сэнсу маюць апавядальны характар, дзе вучні павінны ўмець паставіць кропку. З такімі-ж знакамі прыпынку маюцца сказы ў тэксце, які даецца для пятай групы.

Па сёмай групе прыводзяцца складаныя сказы. Расстаноўка адпаведных знакаў у складаных сказах патрабуе ад вучняў належнай падрыхтоўкі, але гэта зусім пасільна для сёмай групы і не супярэчыць праграмнай ўстаноўцы.

Правільнае напісанне прыведзеных тэкстаў, а таксама азначэнне асобных часцін сказа і мовы, адпаведна праграмнаму матэрыялу, можа ў асноўным характарызаваць стан ведаў вучняў па граматыцы, пунктуацыі і арфаграфіі. Характарыстыка стана ведаў можа лічыцца правільнай, калі данае заданне выконваецца самастойна кожным вучнем.

Такім чынам, наша работа па даследванню граматыкі і арфаграфіі складалася з наступных асноўных момантаў:

1. Аналіз усяго працэса развіцця арфаграфічнай пісьменнасці вучняў, выходзячы з праграмных запатрабаванняў і адпаведнай метадычнай работы ў групе выкладчыка.

2. Аналіз уяўлення вучнямі пауз, інтанацый і ўмення расстаноўкі належных знакаў прыпынку.

3. Аналіз засваення тэарэтычнага курса граматыкі,—члены сказа, часціны мовы, скланенне, спражэнне і граматычны падзел слова (сёмая група).

## Методыка даследвання

Прыёмам выяўлення вучнёўскіх ведаў была дыктоўка. Не гледзячы на некаторыя адмоўныя моманты дыктанта, усё-ж вывады, зробленыя на ім, з'яўляюцца досыць характэрнымі.

З псіхафізіалагічнага пункта гледжання акт дыктавання складаецца з наступных момантаў: а) слухавы аналіз даваемага для дыктоўкі тэксту, звязаны са зрокавымі рэакцыямі вучняў пры напісанні; б) асазнанне сэнсавага значэння даваемых сказаў; і в) перавод аналізуючых слухавых вобразаў у маторна-графічныя.

Калі аналізаваць гэты акт пісьма з пункта гледжання параўнаўчага ўдзела тых ці іншых аналізатараў, то тут найбольшае значэнне маюць маторнаграфічны і слухавы. Зрокавы аналізатар мае толькі другаступеннае значэнне як саўдзельнік са слухавым і маторнаграфічным у форме напісання дыктуемага тэксту вучнямі. Для замацавання некаторых арфаграфічных навыкаў мае адпаведнае значэнне і дыктовачны тэкст, які заўсёды павінен быць знаёмы вучням і падавацца ў выглядзе звязанага цэлага.

Такім чынам асноўнымі момантамі дыктоўкі з'яўляюцца: а) слухавы аналіз слова; б) асазнанне сэнсавага значэння і в) перавод вобраза слова ў маторна-графічны. Адсутнасць якоганебудзь з гэтых момантаў уносіць вялікія карэнныя змены ў даны прыём арфаграфіі. Напрыклад, пры адсутнасці момантa асазнання як цэлага вобраза слова, так і сэнсавага значэння яго мы маем зусім іншы акт пісьма, а іменна—механічны дыктант.

У пастаноўцы свайго даследвання мы выходзілі з індывідуальнай работы кожнага вучня ў класна-групавой абстаноўцы. Пры гэтым ўсе прысутныя на занятках вучні самастойна прымалі ўдзел у данай рабоце.

Прыведзены вышэй тэкст па ўсіх групах патрабаваў для яго напісання і патрэбнага аналіза—адну акадэмічную гадзіну—45 мінут. Пры практычным правядзенні патрабавалася дадаць 10—15 мінут па пятай групе.

Перад пачаткам дыктоўкі ў кожнай групе праводзілася сціслая гутарка (3—4 мінуты) пра характар работы і методыку яе выканання. Тэкст вызначаны для дыктоўкі падаваўся асобнымі закончанымі сказамі. Пасля напісання ўсяго тэкста давалася заданне яго прааналізаваць. Заданне давалася асобнымі пытаннямі, напрыклад, абазначыць у першых чатырох сказах іх члены, далей—пасля выканання гэтага, патрабавалася падкрэсліць назоўнікі і абазначыць склон і лік ды інш.

Пры такім парадку пастаноўкі пытанняў вучні звяртаюць максімум увагі на адно пытанне, пазбягаюць раскіданасці. Пераход ад аднаго пытання да другога адбываўся тады, калі абсалютная большасць вучняў выканала папярэдняе пытанне. Паколькі данае

даследванне праводзілася пасля прапрацоўкі адпаведнага курса праграмы, вынікі па арфаграфіі і пунктуацыі з'яўляюцца большменш характэрнымі і па іх можна ў асноўным меркаваць аб арфаграфічнай пісьменнасці.

Не зусім удалым быў тэкст для сёмай групы, дзе мы маем адрывістыя, лагічна-разрозненыя сказы. Тут мелася на ўвазе падабраць словы, больш складаныя для напісання, каб атрымаць дакладнае ўяўленне аб засваенні праграмы па арфаграфіі.

Даследванне было праведзена ў наступных школах і групах:

1. Менская 2 ФЗС—4-а, 5-а і 7-а групы;
2. Менская 3 ФЗС—4-а, 5-а і 7-а групы;
3. Менская 19 ФЗС—4-а, 5 групы;
4. Менская 39 ФЗС—4-а, 4-в, 5-а, 7-а групы;
5. Заслаўская ШКМ—4-а, 5, 7 групы;
6. Новасёлкаўская (Пухавіцкі раён) ШКМ—4, 5 і 7 групы;
7. Слуцкая 1 ФЗС—4-а, 5-а і 7-а групы;
8. Урэцкая ШКМ (Слуцкі раён)—4, 5 і 7 групы;
9. Васілінкаўская школа (Слуцкі раён) 4, 5 групы;
10. Казловіцкая (Слуцкі раён)—4, 5 групы.

Такім чынам мы ахапілі 28 груп з агульнай колькасцю 771 вучняў.

## Спосабы апрацоўкі матэрыяла

Досыць важным пытаннем з'явілася самая апрацоўка матэрыяла. Ясна, што задаволіцца аднымі голымі лічбамі, якія паказваюць, што тая ці іншая група мацней па сваёй пісьменнасці за другую, было нельга. Часта бывае, што ў адной групе ёсць асобныя вучні з добрымі акадэмічнымі паказчыкамі і наадварот, і пры складанні вынікаў, апошнія выраўніваюцца.

Для сталай характарыстыкі ведаў вучняў, здабыты матэрыял быў разбіт на асобныя пытанні,—члены сказа, часціны мовы, правапіс, пунктуацыя,—якія ў сваю чаргу яшчэ падзяляліся на больш дробныя, як напрыклад: дзейнік, выказнік, род, склон, спражэнні і т. д. Для ілюстрацыі вынікаў данай разбіўкі прыводзім табліцы па групах, у процантных адносінах засваення. Прыведзеныя ніжэй лічбовыя даныя атрыманы наступным чынам: быў падлічан лік дзейнікаў, выказнікаў, назоўнікаў, прыметнікаў ды іншых знакаў прыпынку і пунктаў правапіса, потым рабіўся падлік падкрэсленых або адзначаных членаў сказа ці часцін мовы. Агульны лік дзейнікаў,—скажам, 4,—браўся за 100 проц. і падкрэсліванне вучнем 2-х з іх дае 50 проц.,* падкрэсліванне 3-х—75 проц., і аднаго дае засваенне на 25 проц. Атрыманыя процантныя лічбы ў кожнага вучня складаліся, потым дзяліліся на лік вучняў і атрыманая лічба бралася за сярэдні процантны паказчык групы.

*Табліца № 1*

**Група IV.**

| Назва школы | Лік вучняў | Члены сказа | Часціны мовы | Правапіс | Пунктуацыя | Агульны сярэдн. % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новасёлк. Пух. р-на | 32 | 60 | 18,8 | 81,9 | 40 | 50,8 |
| Урэцкая . . . . | 27 | 73,8 | 36,2 | 84,5 | 64,7 | 64,6 |
| Менская 2 ФЗС . | 35 | 54,5 | 58,9 | 95,5 | 62,7 | 68,6 |
| " 3 ФЗС . | 29 | 33,6 | 21,6 | 81,8 | 54,2 | 49,6 |
| " 19 ФЗС . | 18 | 52,8 | 33,7 | 87,6 | 63,4 | 58,9 |
| " 39 ФЗС . | 30 | 46,8 | 47,0 | 83,2 | 66,8 | 63,3 |
| " 39 ФЗС . | 34 | 58,1 | 72,3 | 94,3 | 63,1 | 70,1 |
| Слуцкая 1 ФЗС. . | 33 | 55,8 | 27,8 | 91,6 | 62,4 | 59,2 |
| Васілінкаўская ШКМ Слуцкага раёна . | 25 | — | 19,9 | 84,3 | 39,1 | 36,8 |
| Казловіцкая ШКМ Слуцкага раёна . | 26 | 85,6 | 72 | 91,7 | 57,7 | 76,7 |
| Заслаўская ШКМ . | 25 | 43,1 | 26,6 | 80,5 | 45,2 | 49 |
| Разам | 314 | 56,4 | 39,5 | 87,1 | 56,3 | 58,8 |

*Табліца № 2.*

**Група V.**

| Назва школы | Лік вучняў | Члены сказа | Часціны мовы | Правапіс | Пунктуацыя | Агульны сярэдн. % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новасёлкаўская Пухавіцкага раёна . | 15 | 49,9 | 43,7 | 83,7 | 44 | 55 |
| Урэцкая школа Слуцкага раёна . | 34 | 44,8 | 42,4 | 85,4 | 59 | 57,4 |
| Менская 2 ФЗС . . | 30 | 32 | 40,5 | 77 | 59 | 52 |
| Менская 3 ФЗС . | 34 | 54,2 | 49,7 | 87,9 | 51,7 | 60,8 |
| Менская 19 ФЗС . | 19 | 29,3 | 48,5 | 81,9 | 45,2 | 51,2 |
| Менская 39 ФЗС . | 33 | 56,1 | 47,3 | 93,4 | 56,8 | 63,3 |
| Заслаўская ШКМ . | 21 | 33,9 | 35,2 | 66,4 | 42,3 | 44,5 |
| Агульны лік | 186 | 43,9 | 43,1 | 83,4 | 52,7 | 56,2 |

*Табліца № 3.*

**Група VII.**

| Назва школы | Лік вучняў | Члены сказа | Часціны мовы | Правапіс | Пунктуацыя | Агульны сярэдн. % |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Новасёлкаўская Пухавіцкага раёна | 22 | 72,1 | 39,6 | 70,8 | 43,8 | 66,1 |
| Урэцкая Слуцкага раёна | 33 | 42,2 | 55,5 | 78,7 | 61,7 | 57,1 |
| Менская 2 ФЗС | 29 | 78,4 | 68,2 | 90,9 | 45,2 | 66,6 |
| Менская 3 ФЗС | 39 | 56,5 | 70,6 | 88,9 | 56,5 | 56,3 |
| Менская 39 ФЗС | 21 | 88,3 | 87,1 | 94,4 | 71,6 | 82,4 |
| Заслаўская | 19 | 62,5 | 54,1 | 89 | 49,2 | 62,2 |
| Агульны лік | 163 | 64,4 | 63,1 | 85,4 | 54,1 | 65,2 |

З прыведзеных табліц бачым, што цяжэй за ўсё вучням даецца засваенне членаў сказа і пунктуацыі, па якіх ні па аднэй групе агульны процант не перавышае 55.

Прыблізна так праводзілася даследванне ведаў па мове і ў першым паўгоддзі. Пры параўнанні здабытых вынікаў можна яскрава ўбачыць, што школа стала на шлях ліквідацыі «карэннага недахопа» ў галіне мовы. Праўда, яшчэ ёсць вялікі процант непаспяховасці, але мінулы 1932/33 навучальны год стаў пераломным у справе рэалізацыі гістарычнай пастановы ЦК УсеКП(б) аб пачатковай і сярэдняй школе.

Для нагляднай характарыстыкі падаем параўнаўчую табліцу з процантнымі лічбамі па даследванню паспяховасці ў першым і другім паўгоддзі.

*Табліца № 4.*

**а) Па чацвертых групах.**

| Назва школы | Часціны мовы | | Правапіс | | Пунктуацыя | | Агульн. сярэдн. % | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. |
| Менская 2 ФЗС | 58 | 58,9 | 81 | 95,5 | 50 | 62,7 | 66,6 | 68,6 |
| Менская 39 ФЗС | 53 | 72,2 | 80 | 94,7 | 32 | 63,1 | 49,7 | 70,1 |
| Заслаўская | 11,5 | 26,6 | 71 | 80,5 | 36 | 45,2 | 44 | 49 |

**б) Па пятых групах.**

| Назва школы | Часціны мовы | | Правапіс | | Пунктуацыя | | Агульны сяр. % | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. |
| Менская 2 ФЗС . . | 35,5 | 40,5 | 78 | 77 | 31 | 59 | 45 | 52,1 |
| Менская 19 ФЗС . . | 38 | 48,5 | 76 | 81,9 | 25 | 45,2 | 44 | 51,2 |
| Менская 3 ФЗС . . | 29 | 49,7 | 86 | 87,9 | 30 | 51,7 | 44 | 60,8 |

**в) Па сёмых групах**

| Назва школы | Часціны сказа | | Правапіс | | Пунктуацыя | | Агульны сяр. % | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. | 1 паўг. | 2 паўг. |
| Менская 2 ФЗС . . | 40 | 78,4 | 86 | 90,9 | 41 | 45,2 | 61 | 66,6 |
| Менская 3 ФЗС . . | 20 | 56,5 | 84 | 88,9 | 36 | 56,5 | 50,6 | 56,3 |
| Менская 39 ФЗС . . | 78 | 88,3 | 95 | 95 | 48 | 71,6 | 78 | 82,4 |

Праўда ёсць асобныя групы, дзе процант паспяховасці па асобных раздзелах знізіўся ў другім паўгоддзі, але ўсё-ж агульны сярэдні процант значна вышэй параўнаўча з першым паўгоддзем.

## Вынікі апрацоўкі

З папярэдніх табліц відаць, што найбольш слабым месцам у ведах дзяцей па граматыцы з'яўляецца засваенне часцін мовы і расстаноўка знакаў прыпынку. Але нельга сказаць, што іншыя раздзелы граматыкі добра засвоены дзецьмі па розных групах. Для канчатковага знішчэння «карэннага недахопа» настаўнікам трэба яшчэ шмат папрацаваць.

Выкладчыкі мовы яшчэ не дабіліся таго, каб вучні маглі самастойна разбірацца ў радзе пытанняў. Пры правядзенні даследчай работы можна было заўважыць, што словы, ужываемыя ў практычным жыцці, як напрыклад «прафесар», «каштарыс», «універсітэт», «спектакль» і інш., успрымаліся вучнямі

нават сёмых груп, як зусім новыя і незнаёмыя. Гэта сведчыць аб тым, што ў школе дрэнна пастаўлена работа па абагачэнню слоўніка вучня.

Разам з гэтым трэба падкрэсліць, што настаўнікі рэдка паўтараюць раней пройдзены матэрыял і пры сустрэчы з пытаннем, якое распрацоўвалася раней, вучні часам разглядваюць і ўспрымаюць яго як новае. Пры даследванні ў 7-й групе, пытанне аб граматычным падзеле слова было самым цяжкім і вучні не здолелі яго канчаткова вырашыць. Згодна праграмы, гэты раздзел павінен прапрацоўвацца ў 4-й групе, але ён закранаецца і ў 7-й, пры разглядзе пытання аб утварэнні новых слоў у мове.

а) Засваенне членаў сказа (у проц.).

*Табліца № 5*

| Назва часціны сказа | IV група | V група | VII група |
|---|---|---|---|
| 1. Дзейнік . . . . . . | 68,8 | 49,4 | 84,9 |
| 2. Выказнік . . . . . . | 69,6 | 57,2 | 87,3 |
| 3. Дапаўненне . . . . . . | — | 29,9 | 50 |
| 4. Азначэнне . . . . . . | — | 30,7 | 54,1 |

З прыведзенай табліцы бачым, што параўнаўча з другімі групамі найбольш слабое засваенне па 5-х групах. Меншы процант засваення данага раздзела ў 5-х групах тлумачыцца тым, што асноўны праграмны матэрыял там,—гэта марфалогія. Настаўнікі, распрацоўваючы марфалагічны матэрыял па граматыцы, мала звяртаюць увагі на ролю кожнай часціны мовы ў сказе, не звязваюць марфалагічны матэрыял з сінтаксічным, пройдзенага з праходзімым.

Не гледзячы на тое, што па праграме ў 7-й групе распрацоўваецца сінтакс, апошні не дакладна засвоен вучнямі.

Вучні 5-х і нават 7-х груп недастаткова разумеюць розніцу паміж дапаўненнем і акалічнасцю і часта дапаўненне змешваюць з дзейнікам. У даследваных работах заўважаліся факты змешвання дапаўнення з азначэннем. Наогул падзел другаступенных членаў сказа на дапаўненне, азначэнне і акалічнасці, не даваў магчымасці вучням адрозніваць іх ад асноўных членаў—дзейніка і выказніка. Пры гэтым трэба падкрэсліць, што ўжываўшыяся да гэтага часу падручнікі граматыкі з лагічным і фармальным азначэннем членаў сказа ўнеслі поўную блытаніну і часам сам настаўнік блытаўся пры азначэнні асобных членаў сказа. Напрыклад, возьмем сказ—«Дзеці былі ў лесе». Па лагічнай граматыцы

словы «у лесе» будуць акалічнасцю месца, а па формальнай— дапаўненнем.

Вось чаму трэба вітаць новы падзел часцін сказа, які выкладзены ў стабільных праграмах і падручніках па мове: дзейнік, выказнік і паясняльныя словы. Кожны другаступенны член сказа, раней—дапаўненне, азначэнне і акалічнасць—грае аднолькавую паясняльную ролю ў сказе.

З вышэй пададзенай табліцы відаць, што падзел другаступенных членаў сказа на дапаўненне, азначэнне і акалічнасці значна зніжаў процант засваення праграмнага матэрыяла па данаму пытанню.

Калі па 5-х групах дзейнік засвоен на 49,4 проц., а выказнік на 57,2 проц., то дапаўненне толькі на 29,9 проц., а азначэнне на 30,7 проц. і, у агульнай складанасці, сярэдні процант значна паніжаецца.

Тое самае мы бачылі і па 7-х групах; калі дзейнік засвоен на 84,9 проц., і выказнік—на 87,3 проц., то дапаўненне толькі на 50 проц., а азначэнне на 54,1 проц. Як і па 5-х групах пры агульным складанні, сярэдні процант тут значна зніжаецца.

б. Засваенне часцін мовы

Азнаямленне вучняў з часцінамі мовы павінна ісці на падставе сінтаксічных ведаў, інакш кажучы, на падставе аналіза цэльнай скончанай думкі. На практыцы-ж ў школе даны парадак не ажыццяўляўся. Як ужо гаварылася вышэй, вучні не могуць звязаць членаў сказа з часцінамі мовы. Гэта тлумачыцца тым, што ў большасці настаўнікі разглядаюць асобныя словы, без належнай сувязі з кантэкстам. З нашых доследаў відаць, што ў тых выпадках, калі тое або іншае слова стаіць у сувязі з цэлым сказам, то вучні затрудняюцца падкрэсліць ці вызначыць тую або іншую часціну мовы і т. д.

Заняткі па мове пры вылучэнні форм той або іншай часціны яе праходзяць без усякай увязкі з чытаннем і развіццём моўных навыкаў. Вучні не прывучаюцца да аналіза любога тэкста, любых сінтаксічных канструкцый; калі прыклады з граматыкі яны фармальна разумеюць і могуць аналізаваць, то пры сустрэчы з тэкстам іншай пабудовы становяцца ў тупік.

Для характарыстыкі засваення вучнямі часцін мовы і асобных форм іх змен падаем параўнаўчую табліцу па 4, 5 і 7 групах, з процантнымі лічбамі выканання асобных пытанняў (гл. табл. № 6, стар. 23).

Як бачым, засваенне часцін мовы стаіць не на належнай вышыні.

Досыць важным момантам у рабоце па мове з'яўляецца граматычны разбор, які складаецца з пэўнага вызначэння тых або іншых форм часцін мовы, склона, часа, рода, ліка, асобы, адшукання сувязі паміж сказамі і т. д.

*Табліца № 6.*

**Часціны мовы (у проц.).**

| Назва часцін мовы і паасобных пытанняў | IV група | V група | VII група |
|---|---|---|---|
| Азначэнне н а з о ў н і к а . . . | 57,8 | 58,6 | 63,1 |
| Склон . . . . . . . | 32,2 | 26.5 | — |
| Род . . . . . . . | 38,8 | 39,4 | — |
| Лік . . . . . . . | — | 42,2 | — |
| Азначэнне д з е я с л о в а . . . | 45,6 | 61,4 | 79,9 |
| Асоба . . . . . . . | 20,2 | — | — |
| Час . . . . . . . | 33,1 | — | 61,3 |
| Лад . . . . . . . | — | 30,7 | 62,6 |
| Спражэнне. . . . . . . | — | 36,7 | 48,1 |
| Трыванне . . . . . . | — | — | 48,8 |
| Азначэнне п р ы м е т н і к а . . | — | — | 55 |

Разбор можа быць як вусным, так і пісьмовым, прычым у апошнім выпадку граматычныя памяцці можна адзначаць, з мэтай спрашчэння работы па пісьму, умоўнымі знакамі, напрыклад, назоўнік—«н», дзеяслоў—«дз» і т. д.

Даследваемы матэрыял сведчыць, што на практыцы ў школе граматычным разборам займаліся мала. Асабліва гэта адчуваецца ў пісьмовым разборы, вучні нават 7-х груп патрабавалі грунтоўнага растлумачэння тэхнікі пісьмовага разбора.

Каб забяспечыць вучням большы поспех у выкананні граматычнага разбора, трэба, пасля таго, як будзе пройдзена група граматычных правіл, скласці з вучнямі так званую табліцу разбора, інакш кажучы, выпрацаваць пытанні, якія трэба ставіць, разглядаючы тэкст з боку пройдзеных граматычных правіл. Напрыклад, пасля прахаджэння назоўніка, калі сустрэліся словы.—«ля ракі», вучні адказваюць,—якая гэта часціна мовы слова «ракі», яе род, лік і склон? Ад якога слова залежыць слова «ракі»? Калі разбіраецца, напрыклад, складаны сказ і ад вучняў патрабуецца вызначыць узаемасувязь слоў, то яны павінны запісаць у сваю таблічку наступныя пытанні: які гэта сказ, просты або складаны? Калі складаны, то якія асобныя словазлучэнні ў яго ўваходзяць? Дзе маецца цэнтральнае словазлучэнне, да якога адносяцца астатнія? Вызначыць сувязь паміж імі. Якое слова-

злучэнне непасрэдна звязана з цэнтральным? У якім парадку адзін з другім і галоўным звязаны астатнія словазлучэнні? Пры дапамозе такіх табліц дзеці самастойна дома або ў класе выконваюць даныя ім заданні.

Разбор тэкста і пісьмовыя работы служаць, галоўным чынам, для выпрацоўкі вучнямі ўмення карыстацца здабытымі ведамі на практыцы.

Вельмі часта можна заўважыць, што вучань ведае якое-небудзь правіла, але прыстасаваць яго да выканання задачы, або пры напісанні слова не можа; помніць рад асобных правіл і законаў, але прыстасаваць іх да асобнага выпадка не ўмее. Вось чаму настаўнік заўсёды павінен даваць вучням такую работу, на якой яны прывучаліся-б прыстасоўваць атрыманыя веды на практыцы. Разбор тэкста і адпаведная вывучанаму матэрыялу пісьмовая работа і павінна служыць гэтай мэце.

Праводзячы з вучнямі работу па вывучэнню часцін мовы, можна параіць наступную схему: 1) арганізацыя матэрыяла для наглядання; 2) вывучэнне слоў адпаведнай часціны мовы; 3) аналіз вылучаных слоў у залежнасці ад зместа і сэнса; 4) вывад, які вядзе да азначэння часціны мовы з боку зместа; 5) аналіз вылучанай часціны мовы з боку формы і залежнасць рознай сувязі слоў у сказе; 6) вывад, які вядзе да азначэння часцін мовы з боку формы; 7) больш падрабязны аналіз вылучаных слоў і абагульняючы вывад з боку зместа і формы.

Работа ў такім парадку будзе прывучаць вучняў да аналіза адпаведных слоў або сказа ў сувязі з другімі словамі або тэкстам.

Падбор адпаведнага матэрыяла для вывучэння той або іншай часціны мовы з'яўляецца надзвычай важным момантам у рабоце па граматыцы. Трэба, каб падабраны матэрыял быў насычан словамі адпаведнай часціны мовы, але ні ў якім выпадку не простым наборам тых або іншых часцін мовы. Лепш за ўсё, калі настаўнік сам падбярэ адпаведны матэрыял для аналіза, але гэта не значыць, што прыклады, даныя вучнямі, не трэба скарыстоўваць. Матэрыял, як правіла, павінен быць зразумелым, даступным і насычан адпаведнымі словамі.

Паколькі ўсе заняткі па роднай мове маюць на мэце азнаёміць вучняў з багаццем мовы, то матэрыял, над якім яны працуюць, павінен брацца ў асноўным з літаратурных твораў; не трэба карыстацца штучна складзенымі прыкладамі, звычайна беднымі зместам і неяснымі па лексічнаму складу.

## Засваенне правапіса

Навучанне арфаграфіі заўсёды лічылася адной з цяжкіх задач школы. Пры значнай затраце сіл на засваенне правапіса, поспехі атрымліваліся малыя,—вучні рабілі шмат памылак. Ступень

арфаграфічнай пісьменнасці часта не адпавядае затрачанай на яе дасягненне энергіі і вымушае жадаць лепшага.

Такое становішча залежыла ад розных прычын: а) ранейшы правапіс прадстаўляў вялікія цяжкасці для засваення; б) вымаўленне слова часта не адпавядала яго напісанню і в) нездавальняючай пастаноўкі прыёмаў і метадаў навучання правапісу. Навучыць вучня выкладаць на паперы свае думкі правільна, без скажэння сэнса перадаваемага,—і складае задачу навучання правапісу.

Мінулы 1932-33 навучальны год даў некаторыя зрухі, але яшчэ шмат трэба папрацаваць для ліквідацыі «карэннага недахопа» у галіне пісьменнасці.

Для ілюстрацыі гэтага пытання падамо табліцу засваення асобных правіл правапіса вучнямі 4, 5, 7 груп.

*Табліца № 7.*

**Засваенне правапіса**
(у %)

| Назва асобных правіл правапіса | IV група | V група | VII група |
|---|---|---|---|
| Ужыванне „ў" . . . . . . . . . . . . | 85,5 | — | — |
| Ужыванне „дз", „дж" . . . . . . . . | 73,8 | — | — |
| Напісанне галосных пасля зацвярдзелых р, ж, ч, ц, ш. . . . . . . | 95,5 | — | — |
| Правапіс падвойных зычных . . . . . | — | 88,2 | 97,3 |
| Правапіс лічэбнікаў з падвойным „цц" . | — | 46,5 | — |
| Канчаткі меснага склона назоўнікаў адзіночнага ліка . . . . . . . . . . | — | 88,4 | 76,9 |
| Канчаткі назоўнага склона прыметнікаў множнага ліка . . . . . . . . . . | — | 91,4 | — |
| Правапіс галосных пасля ф, т, с у іншамоўных словах . . . . . . . . . . | — | — | 76 |

З прыведзенай табліцы відаць, што не толькі 4-я група, але і вучні 7 груп памылак не пазбавіліся. Данае даследванне праводзілася ў канцы красавіка і пачатку мая, калі фактычна поўны курс па мове быў закончан. Адсюль відаць, што выпускнікі семігодкі робяць шмат памылак і асабліва на тых правілах, якія ў праграме досыць яскрава выпукляюцца; напрыклад канчаткі назоўніка меснага склона даюць—толькі 76,9 проц. засваення, правапіс іншамоўных слоў—76,1 проц. і т. д.

Гэтыя вучні трапляюць у тэхнікумы і 8-я групы, дзе прыходзіцца траціць час на ліквідацыю агульнай непісьменнасці. Вось чаму часта выкладчыкі тэхнікума не без падставы наракаюць, што ім прыходзіцца выконваць праграму 7-гадовай школы і атрымліваецца прарыў у рабоце. Для большай характарыстыкі гэтага пытання прыводзіцца лік памылак па кожнай дасследванай школе і групе.

*Табліца № 8.*

| Назва школы | IV група: Лік памылак на 1 вучня (тэкст налічваў 57 слоў) | V група: Лік памылак на 1 вучня (тэкст налічваў 62 словы) | VII група: Лік памылак на 1 вучня (тэкст налічваў 53 словы) |
|---|---|---|---|
| Навасёлкаўская . . . . | 16 | 5 | 5 |
| Урэцкая . . . . . . . | 13 | 4 | 5 |
| Менская 2 ФЗС . . . . | 8 | 4 | 4 |
| Заслаўская . . . . . . | 18 | 6 | 4 |
| Менская 3 ФЗС . . . . | 9 | 3 | 4 |
| Менская 19 ФЗС . . . | 9 | 6 | — |
| Менская 39 ФЗС . . . | 9 | 4 | 2 |
| Васілінкаўская ШКМ . | 16 | — | — |
| Слуцкая 1 ФЗС . . . . | 8 | — | — |
| Казловіцкая ШКМ . . . | 13 | — | — |
| Сярэдні лік па групах. | 12 | 4 | 4 |

Дрэнна абстаіць справа з правапісам у 4-й групе, асабліва па Навасёлкаўскай, Урэцкай, Заслаўскай, Васілінкаўскай і Казловіцкай школах, дзе на кожныя 3—4 словы сустракаецца памылка. Пры гэтым трэба адзначыць, што даваемы тэкст быў надзвычайна лёгкі. Амаль усе школы, за выключэннем Васілінкаўскай і Казлоўскай, з'яўляюцца поўнымі семігодкамі, існуюць ужо шмат гадоў, маюць кваліфікаваны педагагічны склад з вялікім вопытам і падрыхтоўкай.

Адсюль можна зрабіць лагічны вывад, што ў іншых школах, дзе педперсанал слаба падрыхтаваны і мае малы вопыт работы, пісьменнасць вучняў стаіць яшчэ на ніжэйшай ступені.

Намі заўважана, што вучні больш-менш пісьменныя ў каліграфічных адносінах у той-жа час выяўляюць найбольшыя веды і

па арфаграфіі і, наадварот, вучні, почарк у якіх брудны, неразборлівы, у большасці выпадкаў адрозніваюцца і сваёй арфаграфічнай непісьменнасцю. Гэта асабліва можна ілюстраваць пісьмовымі работамі Заслаўскай 5-й групы.

Вось чаму на выпрацоўку ў вучняў больш-менш чоткага выразнага і прыгожага почарка неабходна звярнуць максімум увагі. Асабліва гэта трэба прадугледзіць у малодшых групах, дзе афармляецца почарк вучняў.

Настаўніку трэба арыентавацца ў сваёй рабоце па навучанню арфаграфічна правільнаму пісьму на больш-менш аднастайныя групы вучняў, інакш кажучы на такіх, што ў сваіх пісьмовых работах робяць аднолькавыя памылкі.

Цяжкасць, якая стаіць перад настаўнікам у гэтай галіне, заключаецца ў тым, што яму прыходзіцца мець справу з вучнямі розных тыпаў памяці. Адны вучні, напрыклад, лепш засвайваюць арфаграфічныя навыкі шляхам зрокавай памяці, другія—шляхам маторна-рухавых практыкаванняў і т. д. У адпаведнасці з гэтым трэба для той або іншай групы дзяцей падбіраць найбольш падыходзячыя прыёмы навучання арфаграфіі, або, займаючыся адразу з усёй групай, настаўнік павінен карыстацца некалькімі спосабамі.

У пытаннях навучання правапісу надзвычай важна не дапускаць неправільнага пісьма. Важна не толькі выправіць ужо зробленую памылку, але і прадугледзіць і папярэдзіць яе магчымасць. Усякая арфаграфічная памылка вучня, вольная або нявольная, незалежна ад прычыны яе ўтварэння, мае адмоўны ўплыў: разбурае навык рукі, паслабляе памяць зрока. Натуральна, узнікае пытанне аб папераджальных мерах пры навучанні правапісу.

Школьная практыка не выпрацавала яшчэ ўсіх мер папярэджання, ды і некаторыя памылкі прадугледзіць немагчыма. Нельга зараней ведаць, хто з вучняў, калі, у якім слове і якую зробіць памылку. Можна папярэдзіць тыповыя памылкі вучняў на тое або іншае правіла. Папярэджанне памылак павінна дапамагаць развіццю арфаграфічнай пільнасці. У час пісьма вучань павінен трымаць у памяці зрокавы вобраз таго або іншага слова і як-бы спісваць яго з гэтага мысленага вобраза. Толькі пры такой выразнасці зрокавых успамінаў данае слова будзе напісана правільна. Як-жа папярэджваць арфаграфічныя памылкі?

Адным са спосабаў перасцярогі вучняў ад памылак з'яўляецца папераджальная дыктоўка.

Другі спосаб,—выпісванне настаўнікам на дошку слоў, незразумелых дзецям, або цяжкіх у сэнсе правапіса.

Пры трэцім прыёме даецца вучням права запытваць настаўніка, як пішацца тое, або іншае слова, кожны раз, калі для іх невядома яго напісанне.

На класнай дошцы або сцяне вывешваюцца асобныя табліцы са словамі асабліва цяжкімі для напісання.

Можна скарыстоўваць друкаваныя арфаграфічныя слоўнікі, якія змяшчаюць у сабе спіс найбольш практыкуемых слоў у больш цяжкіх формах. Таксама раіцца складанне вучнямі слоўнікаў, куды кожны запісвае ўсе знойдзеныя цяжкія для напісання словы, па ўказанню настаўніка, і тыя словы, у якіх кожны часцей усяго робіць памылкі.

Кожны з адзначаных прыёмаў, узяты асобна, не можа быць прызнан абсалютнай папераджальнай мерай; але ўжываючы іх разам, можна ў большай або меншай ступені дасягаць мэты.

Але як бы мы не імкнуліся пазбегчы памылак у вучнёўскіх работах, яны, вядома, у значна меншай меры, сустракацца будуць. Адсюль вельмі важна настаўніку ўясніць сапраўдныя прычыны ўтварэння памылак. Толькі тады можна будзе правільна іх класіфікаваць, даваць належнае тлумачэнне і ажыццяўляць метадычна правільны прынцып выпраўлення. Кожная тыповая памылка павінна быць абгаворана ў класе і ўвязана з новым відам практыкавання па правапісу.

Навучаць вучняў арфаграфіі—гэта значыць даваць ім добра арганізаваную практыку ў арфаграфічна правільным пісьме. Трэба памятаць, што без вядомага мінімума вольнага, зусім самастойнага пісання, вучні не змогуць аўладаць навыкамі пісьма.

## Расстаноўка знакаў прыпынку

Вывучэнне знакаў прыпынку не можа быць аддзелена ад вывучэння граматыкі; навыкі ўжывання знакаў прыпынку даюцца вучням у сувязі з граматычнымі ведамі. Парадак паведамлення правіл аб расстаноўцы знакаў прыпынку знаходзіцца ў поўнай залежнасці ад сістэмы, у якой размяркоўваюцца граматычныя веды.

Вучні павінны спачатку разабрацца з простым сказам, а потым—са складаным, таму і правілы на знакі прыпынку належыць групаваць такім чынам:

а) знакі прыпынку, якія могуць сустрэцца ў простым сказе, і

б) знакі прыпынку ў складаным сказе.

Да першага раздзела адносяцца: кропка, пытальнік, клічнік і коска; да другога—коска, кропка з коскай і двукроп'е. Знакі прыпынку, якія адносяцца да простага сказа, могуць сустрэцца і ў складаным; але ад гэтага не парушыцца ні навуковы, ні школьны інтарэс і гэта не дрэнна, калі вучань будзе ведаць рознае прызначэнне аднаго і таго-ж знака прыпынка ў розны час. Знакі першага раздзела падзяляюцца на дзве групы: а) знакі, якія могуць паказаць канчатак сказа, і б) знакі, сустракаемыя ў сярэдзіне сказа.

Першае месца ў другім раздзеле займаюць правілы аб знаках прыпынку, сустракаемых у сказах з аднароднымі членамі; сказы з аднароднымі членамі па сваёй структуры прадстаўляюць самы лёгкі від, а таму і правілы ў такіх выпадках могуць быць засвоены вучнямі без вялікіх цяжкасцяй. Далей ідзе правіла аб аддзяленні галоўнага сказа ад другаступеннага (коска і кропка з коскай). Пасля гэтага вучні павінны азнаёміцца са знакамі прыпынку для вылучэння пабочных слоў і сказаў.

Правіла аб расстаноўцы двукроп'я належыць аднесці на самы канец, бо яно вымагае ад вучняў поўнага развіцця патрэбнага для поўнага разумення лагічных адносін паміж думкамі.

*Табліца № 9.*

**Расстаноўка знакаў прыпынку**

(у %).

| Назва знакаў прыпынку | IV група | V група | VII група |
|---|---|---|---|
| 1. Пытальнік і клічнік . . . . . . . . | 50,3 | 35,2 | — |
| 2. Коска . . . . . . . . . . . . . . . | 78,5 | 73,8 | 54 |
| 3. Двукроп'е і двукоссі . . . . . . . | 47,5 | 44 | — |

З данай табліцы відаць, што слабое месца VII групы ў расстаноўцы знакаў прыпынку—гэта пастаноўка коскі ў складаным сказе. Досыць нізкі процант засваення правіл на клічнік і пытальнік заўважаецца у IV і V групах.

Такое недастатковае засваенне правіл на расстаноўку знакаў прыпынку сведчыць, што настаўнікі мала звяртаюць увагі на стылістычныя навыкі вучняў, слаба падкрэсліваюць інтанацыйнасць сказаў. Згодна праграмы нават у IV групах, вучні павінны засвоіць паўзы, інтанацыю сказаў і мастацкасць чытання. Прыведзеная-ж вышэй табліца сведчыць аб тым, што вучні не ўладаюць мастацкасцю чытання, недастаткова ўяўляюць асаблівасці сказаў па іх інтанацыі.

Вышэй было адзначана, што пісьмовыя практыкаванні, якія служаць для выпрацоўкі навыка і ведаў правільнай расстаноўкі пры пісьме знакаў прыпынку, цесна звязваюцца з граматычнымі ведамі. На лекцыях граматыкі, шляхам нагляданння над адпаведным матэрыялам, вучні засвойваюць граматычныя паняцці: пасля гэтага даюцца належныя правілы, а потым ужо вядуцца і пісьмовыя практыкаванні для замацавання паведамляемага правіла. Нагляданні над прыкладамі, служачыя для ўтварэння таго або іншага граматычнага паняцця, ёсць самая важная частка работы на граматычнай лекцыі. Нагляданне дае матэрыял для ўтварэння

граматычнага паняцця, дае магчымасць уявіць азначэнне разглядаемага правіла, зразумець і засвоіць яго. Вучань уважліва разглядае тут даныя яму сказы, азначае іх узаемныя адносіны, знаходзіць і формы, якія служаць для выражэння гэтых адносін.

Азначэнні і правілы, якія паведамлены вучню раней часу, застаюцца мёртвым механічным грузам; яны засланяюць сабою ўжо здабытыя веды, уводзяць вучня ў блытаніну, ствараючы ілюзію, быццам ён ужо ўсё ведае пра той або іншы граматычны закон. У такіх выпадках вучань фармальна правіла ведае, а прыстасаваць яго да справы не ўмее. Тэрмін, правіла, азначэнне— дапамагаюць вучню замацаваць веды і прымяніць іх тады, калі будуць выкладзены пасля цэлага рада нагляданняў і засвоены зусім свядома, а не механічна.

Часта вучню дагматычна, без належнага нагляданьня, даюць правіла, падобна наступнаму: «Перад «а», «але», «які» ставіцца коска». Калі вучні будуць кіравацца толькі такімі правіламі пры расстаноўцы на пісьме знакаў, то гэтыя механічныя бессвядомыя навыкі будуць мець мала каштоўнасці. Вучні павінны вучыцца расстаўляць знакі прыпынку, не кіруючыся якімісці прыкметамі, а на падставе разумення ўнутранай сувязі паміж членамі сказа і цэлымі сказамі.

Пасля ўсведамлення вучнямі правіла вядуцца практыкаванні. Вучні ў даным выпадку самастойна азначаюць змест і форму думак, і адносіны паміж імі, на падставе чаго расстаўляюць знакі прыпынку. Калі вучань выконвае сваё заданне, настаўнік правярае, наколькі вучань разумее даныя адносіны і формы, і ў выпадку патрэбы дамагае яму. Калі для высвятлення значэння таго або іншага граматычнага тэрміна можа быць дастаткова двух-трох прыкладаў, то для таго, каб замацаваць у вучняў новаздабытыя веды, трэба правесці рад практыкаванняў. Мала таго, што вучань пасля некаторага асазнання дойдзе да ўяўлення данага матэрыяла, зможа разабраць сказы, іх узаемныя адносіны, формы і інш., трэба, каб ён хутка, доўга не думаючы, умеў развязаць даныя задачы, асвоіўся са справай настолькі, каб веды перайшлі ў пастаянны і цвёрды навык.

Пры азнаямленні з кожным асобным правілам настаўнік звязвае яго з другімі, ранейшымі. Так, напрыклад, асвоіўшы правіла аб клічніку для вылучэння зваротка, вучань прыпамінае выпадкі пастаноўкі клічніка ў клічным сказе. Пасля паведамлення правіла аб ужыванні коскі для падзела незалежных сказаў, вучань прыпамінае і ранейшыя выпадкі пастаноўкі коскі ў сказе з аднароднымі членамі, для вылучэння зваротка і інш. Гэтае паўтарэнне дасць магчымасць вучню лепш разабрацца з рознымі выпадкамі ўжывання таго або іншага знака прыпынку.

Паўтарэнне пройдзенага аб знаках прыпынку павінна праводзіцца ў звязку з паўтарэннем пройдзенага з граматыкі; паўтараючы правіла аб знаках прыпынку, вучні паўтараюць і тыя

формы, якія служаць для выражэння таго або іншага рода сказаў.

Зручным матэрыялам для практыкаванняў на знакі прыпынку могуць з'явіцца акрамя дыктоўкі і іншыя пісьмовыя практыкаванні—граматычныя, лагічныя і асабліва—практыкаванні ў звязным укладанні мысляй. Пачынаючы з першых гадоў навучання вучань паступова павінен прывучыцца да ўмелага карыстання на пісьме знакамі прыпынку для выражэння сваіх уласных думак, пры дыктоўцы і т. д.

## Значымыя часткі мовы

Слова, якое мае пэўнае значэнне, не прадстаўляе сабою простае механічнае злучэнне гукаў. Яно распадаецца на часткі, якія заключаюць у сабе ўказанне на асобныя бакі ў значэнні слова, з'яўляюцца значымымі. Трэба з вучнямі раскрыць у слове гэтыя асобныя значымыя часткі: корань, устаўку (суфікс), прыстаўку і канчатак (флексію). Гэтыя часткі ў слове маюць пэўнае значэнне і надаюць яму адпаведны характар. На практыцы-ж данае правіла нават вучнямі сёмых груп засвоена слаба. Цэлы рад вучняў не разумеюць сутнасці асновы і іншых частак слова.

Пры рабоце ў школе на даную тэму трэба прывучаць вучняў вылучаць у слове даныя часткі не зразу, а па парадку: з пачатку ў слове вылучаецца корань і канчатак, а потым устаўка і прыстаўка. Прыклады падбіраюцца з жывой гутаркі вучняў і літаратурнага матэрыяла. Лепш, калі прыклады будуць брацца са звязнай мовы, а не ў выглядзе асобных, адарваных з мовы слоў. У заключэнне можна з вучнямі выпрацаваць схему па прыкладу ніжэй прыведзенай для раскладання слова на сустаўныя часткі.

| Аснова слова | | | Канчатак |
|---|---|---|---|
| Прыстаўка | Корань | Устаўка | |
| на | столь | нік | а |
| над | строй | к | а |

Граматычны аналіз слоў з боку пабудовы іх будзе дапамагаць абагачэнню і ўдасканаленню слоўніка вучня.

Тут-жа карысна прывесці работу па нагляданню над тым, якія словаўтворныя формы атрымаліся пасля кастрычніка, напрыклад—з устаўкамі «нік»—«калгаснік»—«ударнік» і інш.

## Агульныя заўвагі аб выкладанні граматыкі

Прадметам граматычнага навучання служыць слова ў яго сінтаксічных і марфалагічных адносінах. Граматыка вывучае формы слоў і іх сэнсавае значэнне, адшуквае адносіны паміж мыслямі і словам, разважаннем і сказам. Прывучаючы вучня наглядаць над мовай, вызначаць формы і іх значэнне, развіваючы на гэтым матэрыяле развяжальныя здольнасці вучняў,—граматычнае навучанне дапамагае вучню разбірацца з адцягнутымі думкамі. У гэтым і заключаецца адукацыйнае значэнне граматыкі, тут-жа і ляжаць і цяжкасці засваення вучнямі граматычных ведаў.

Граматычнае навучанне з першага крока павінна ставіць сваёй мэтай вывучэнне мовы, яе правіл, законаў і форм. Для правільнай пастаноўкі граматычнага навучання трэба, раней усяго, дакладна вызначыць задачы курса граматыкі ў пачатковай і сярэдняй школе, выбраць адпаведны прадмету і здольнасцям вучняў, метад навучання, выпрацаваць праграму размеркавання граматычных ведаў у курсе пачатковай і сярэдняй школы.

Увядзенне граматыкі ў праграму пачатковай школы звязана, у асноўным, з арфаграфічнымі меркаваннямі. Але граматыка далёка не ахапляе сабой усіх арфаграфічных правіл. Ёсць правілы, якія не абгрунтоўваюцца граматыкай, напрыклад пісанне «е»—перад націскам, галосных пасля зацвярдзелых і інш.

Граматычныя веды, апроч іншага, з'яўляюцца каштоўнейшым матэрыялам для развіцця развяжальных здольнасцяй вучня. Граматычныя правілы канцэнтруюць увагу вучняў на формах чалавечай мовы, растлумачваюць іх унутраны сэнс і значэнне, прывучаюць вучняў уважліва адносіцца да слова.

Такім чынам, не механічнае завучванне граматычных і арфаграфічных правіл, а вывучэнне даступных разуменню вучня форм мовы, засваенне граматычных паняццяў, складае задачу навучання. Зразумела, што здавальняючае вырашэнне гэтай задачы прывядзе і да дасягнення практычных мэт; правільна і толкова засвоеныя граматычныя веды значна дапамогуць вучню ў засваенні арфаграфіі.

Для таго, каб пазнаёміць з унутраным сэнсам слоў, сказаў і іншых форм, дабіцца свядомага асазнання вучнямі адцягненых граматычных правіл,—трэба адшукоўваць, адпаведны прадмету і здольнасцям вучняў, метад навучання граматыцы, знайсці адпаведныя практыкаванні, размеркаваць граматычныя правілы і азначэнні ў такой паступовасці, каб вучню лёгка было зразумець і засвоіць даваемыя яму веды.

## Метад паведамлення граматычных ведаў

Граматычныя законы і правілы з'яўляюцца вынікам шматгадовых нагляданняў над мовай. Для таго, каб вучань свядома засвоіў веды па мове, яго трэба ўмела падвесці да граматычных

законаў. Трэба даць вучню рад падводзячых практыкаванняў і тады рабіць належны вывад. Да граматычных ведаў праз свядомы і дакладны аналіз,—вось першае і асноўнае правіла методыкі граматыкі.

Аналіз, пад кіраўніцтвам настаўніка, літаратурных форм, узораў і жывой мовы прывядзе вучняў да ўразумення патрэбнага азначэння і правіла; для таго, каб замацаваць гэтае правіла, патрэбны належныя практыкаванні. Апошнія павінны састаяць у прыстасаванні агульнага паняцця і правіла да новых прыкладаў, растлумачэнні прыватнага агульным, распазнаванні і азначэнні форм і самастойным падборы прыкладаў, утварэнні і пабудове форм—па пэўнаму запатрабаванню ці ўзору.

Шляхам практыкаванняў вучань, такім чынам, зноў прыводзіцца да прыватных і рэальных фактаў мовы і праз гэта замацоўваюцца засвоеныя вучнем веды. Практыкаванне, як і аналіз, складае асноўную форму заняткаў граматычнага навучання ў пачатковай школе.

З д а б ы т ы я ш л я х а м а н а л і з а в е д ы т р э б а з р а з у - ж у ж ы в а ц ь н а п р а к т ы ц ы: вучыць на ўзорах літаратурнай і жывой мовы як распазнаваць і растлумачваць знаёмыя формы, практыкаваць утварэнне форм па даных ўзорах ды інш.

Аналіз і практыкаванні служаць сродкам высвятлення і замацавання асобных паняццяў і правіл; для высвятлення-ж сувязі паміж гэтымі паняццямі і правіламі, і прывядзення ведаў у належную сістэму, патрэбны т э а р э т ы ч н ы я п а ў т а р э н н і п р о й д з е н а г а.

## Аналіз і вывад

У слове мы маем два бакі: унутраны і надворны; гукавы (літаральны) і змест (сэнс). Гукавая (літаральная) форма служыць для выражэння вядомага зместа. Знаёмячы вучня з пэўнай граматычнай формай, настаўнік кіруе аналізам вучня над літаратурнай і жывой мовай, падводзіць яго да ўсведамлення надворнага і ўнутранага боку вывучаемай формы, а потым ужо павінна ісці самое азначэнне.

Аналіз павінен выпрацаваць тыя прыватныя палажэнні, засваенне якіх патрэбна для ўяўлення вядомага паняцця; усё, што прама не адносіцца да задач данага ўрока, не павінна адцягваць ад галоўнай думкі, ад мэты і тэмы ўрока. Калі разглядаемае граматычнае правіла складанае, калі задачай аналіза з'яўляецца высвятленне некалькіх прыватных палажэнняў, больш менш цяжкіх для засваення, то такую работу трэба падзяліць на дзве часткі (некалькі ўрокаў).

Граматычныя паняцці выпрацоўваюцца пры дапамозе прыкладаў, якія ў час аналіза павінны быць перад вачыма вучняў; гэта аблягчае работу над імі і запамінанне тых вывадаў, якія

здабываюцца шляхам аналіза. Лепш усяго гэтыя прыклады выразна запісваць на класнай дошцы, падкрэсліваючы ў часе аналіза тыя словы і формы, якія патрэбны на даным ўроку.

Выбраныя прыклады павінны быць палітычна вытрыманымі і ўзорнымі, як па зместу, так і па форме. Прыклады павінны быць усім даступныя, без незнаёмых вучням слоў, якія патрабуюць шырокага растлумачэння; усякае тлумачэнне, не маючае належнай сувязі з тэмай урока, адцягвае ўвагу вучняў і перашкаджае праве.

Выбраныя настаўнікам прыклады павінны адпавядаць тэме ўрока. Лік прыкладаў павінен быць зусім дастатковы для таго, каб вучань змог выразна зразумець і засвоіць адпаведнае граматычнае правіла.

Пасля належнага аналіза павінен следваць вывад, які абагульняе ўвесь зроблены аналіз.

Граматычныя азначэнні павінны быць дакладны і маласлоўны, сфармуляваны ў выражэннях даступных разуменню вучняў. Для дакладнага засваення і лепшага замацавання ў памяці, карысна нова паведамлены граматычны тэрмін запісваць на класнай дошцы, каб вучні не каверкалі слова і мелі аб ім правільнае слоўна-выразнае прадстаўленне.

Пераходзячы ад аналіза да абагульнення, азначэння і правіла, вучань мысліць індукцыйна ад прыватнага да агульнага. Пасля паведамлення граматычнага паняцця і вывада правіла, вучань падводзіць прыватны факт пад агульнае правіла.

Практыкаванні, непасрэдна ідучыя за высвятленнем граматычнага паняцця, маюць вельмі важнае значэнне: а) яны пакажуць настаўніку ступень засваення вучнямі нова здабытага паняцця, б) вучань павялічвае колькасць сваіх паняццяў па падставе выведзенага правіла, і в) асабліва важнае значэнне маюць яны для засваення правапіса.

Правільна пастаўленыя граматычныя практыкаванні служаць карысным сродкам дасягнення арфаграфічных мэт. Кожнае арфаграфічнае правіла, кожная граматычная форма, якая прадстаўляе якія-небудзь цяжкасці для пісьма, павінна замацоўвацца адпаведнымі практыкаваннямі.

Абагульняючы вышэйсказанае, можна параіць наступны план урока па граматыцы:

а) Тэарэтычнае паўтарэнне раней здабытых ведаў—для падрыхтоўкі да засваення новага.

б) Аналіз над літаратурнымі ўзорамі і жывой мовай.

в) Абагульненне аналіза, вывад і азначэнне правіла.

г) Практыкаванне для замацавання здабытых ведаў.

д) Тэарэтычнае паўтарэнне для сувязі нова-здабытых ведаў з раней выведзенымі.

Лепшым прыёмам падліка ведаў па граматыцы можа быць граматычны разбор тэкста (пісьмовы і вусны), кожны раз, вядома, у межах пройдзенага.

Лепшым разборам з'яўляецца вусны. Пісьмовы разбор прыяняецца з мэтай вызначэння параўнаўчай дакладнасці ведаў вучняў, вядома, на адным і тым-жа тэксце. Як карысныя прыёмы можна параіць: а) складанне графікаў сінтаксічнага разбора, б) складанне сказаў з дадзеных слоў, в) дапісванне ў сказ незакончаных слоў, з далейшым вусным разборам зробленага. Такая праверка павінна праходзіць кожны раз, тады як канчаецца прапрацоўка якога-небудзь раздзела граматыкі.

У заключэнне трэба падкрэсліць, што свядомае засваенне граматыкі вучнямі мы будзем мець тады, калі настаўнік зможа прыстасоўваць лепшыя з існуючых метадаў выкладання ў сваёй практычнай рабоце.

*Гародкіна*

# Мастацкае расказванне ў школе *)

Мастацкая літаратура займае вялікае месца ў справе комуністычнага выхавання дзетвары. Яна дае падрастаючаму пакаленню знаёмства з навакольным жыццём, пашырае яго кругавід, дае дзецям, у мастацкай форме, пазнаванне рэчаіснасці, навучае іх вобразна выражаць сваю думку. Мастацкая літаратура ўзбагачае дзяцей разуменнем мінулага і сучаснага жыцця.

Дзеці, дзякуючы сваёй эмацыянальнасці, вельмі ўспрыймальны і мастацкая літаратура асабліва ўплывае на іх. Тав. Крупская ў сваім артыкуле: «Счет подрастающих поколений», піша: «В ранней молодости литература распространяется особенно быстро, она волнует, захватывает, угнетает, иногда оскорбляет, возмущает, дает ряд сильнейших переживаний. Она делает жизнь полнее. Эмоциональность молодежи и подростков делает их особо восприимчивыми к литературе».

Але-ж трэба адзначыць, што нашы педагогі, часам недаацэньваюць тыя велізарныя магчымасці, якія дае кніга і наогул мастацкае слова. Папулярызацыя лепшых узораў дзіцячай літаратуры, скарыстанне іх як фактара комуністычнага выхавання дзяцей, у нас зусім недастаткова разгорнута.

Цэлы рад метадаў работы з мастацкай літаратурай, якія папулярызуюць, унетраюць патрэбнасць чытаць кнігу—амаль зусім не прымяняюцца. Адным з гэтых метадаў з'яўляецца м а с т а ц к а е р а с к а з в а н н е.

Мастацкае расказванне з'яўляецца адным з тых метадаў комуністычнага выхавання, якія пашыраюць кругавід дзяцей, даюць цэлы рад ведаў, павышаюць і ўзбагачаюць культуру

*) Распрацавана кансультантам ДВС Гародкінай і зацверджана прэзідыумам ДВС.

мовы. Мастацкая перадача цікавага па зместу, фабульнага літаратурнага твора, аб нашым соцыялістычным будаўніцтве, рэволюцыйнай героіцы,—дасць дзецям эмацыянальную зарадку, выкліча ў іх жаданне быць актыўнымі удзельнікамі соцыялістычнай будоўлі, дапаможа выхаваць нашых дзяцей інтэрнацыяналістамі, зматарамі са старым аджыўшым бытам, за новы соцыялістычны лад.

Расказванне арганізуе і дысцыплінуе дзяцей, прывучае ўважліва слухаць і развівае ў іх актыўную ўвагу.

Расказванне карыстаецца вялікім поспехам, асабліва сярод дзяцей малодшага ўзроста, у якіх тэхніка чытання яшчэ не на вышыні; такія дзеці пры самастойным чытанні больш энергіі трацяць на самую тэхніку чытання, і непасрэдна твор на іх не пакідае цэльнага моцнага ўражання, ад яго застаюцца ўрыўкі.

Не меншае значэнне мае расказванне і для стымулявання дзяцей да чытання жадаемай намі літаратуры. Уздымаецца агульная чытаемасць якраз сярод той групы дзяцей, якая не любіла чытаць да гэтага часу, слуханне мастацкага расказвання выклікае ў іх жаданне і патрэбнасць чытаць. Часта заўважаецца, што дзеці з цікавасцю пачынаюць чытаць той самы твор, які расказваўся.

Ёсць цэлы рад кніжак, вельмі каштоўных па сваёй тэматыцы, якія адказваюць тым мэтам, што мы ставім у справе комуністычнага выхавання дзяцей, але не цалкам падыходзяць да ўсіх узросных груп: занадта «об'емисты», цяжкаваты па мове, не падыходзяць па афармленню (шрыфт) і не могуць самастойна чытацца дзецьмі. Расказчык-жа мае вялікую перавагу, ён можа лепшы літаратурны твор, нават не разлічаны на дзяцей пры належнай апрацоўцы, прыпаднесці дзіцячай аўдыторыі.

У справе пазашкольнай работы і правільнай арганізацыі дасуга дзяцей, расказванне павінна займаць значнае месца, як моцны фактар уздзейнічання на дзяцей.

Часта педагог не толькі не шукае новых метадаў работы для арганізацыі дзіцячага дасуга, але нават не скарыстоўвае тыя магчымасці, якія ёсць, для таго, каб унесці больш рознастайнасці, яркасці, красачнасці ў рабоце з дзецьмі.

Да гэтага часу пераважаючым метадам работы з дзецьмі, як на лекцыях, так і ў пазашкольнай рабоце, з'яўляецца гутарка. Не адмаўляючы, безумоўна, гэты метад работы, трэба адзначыць, што нават спалучэнне гутаркі з мастацкім расказваннем дае больш значныя вынікі. Мастацкае расказванне замацуе атрыманыя дзецьмі веды, увасобіць прыведзеныя факты і матэрыялы з гутаркі ў канкрэтныя літаратурныя мастацкія вобразы.

Выкладчык на лекцыі можа правесці гутарку з дзецьмі, напрыклад пра свята Кастрычніка і пасля гутаркі замацаваць яе мастацкім расказваннем. Такое спалучэнне дапаможа дзецям больш канкрэтна і ярка ўспрыняць героіку барацьбы за Кастрычнік.

Трэба адзначыць, што для самастойнага чытання малодшым дзецям кніжак аб Леніне яшчэ надзвычай мала, а расказчык мае магчымасць скарыстаць агульную літаратуру аб Леніне ўспаміны М. І. Ульянавай, Крупскай і інш. вопытны расказчык можа як след скарыстаць, спалучыць з матэрыялам іншых крыніц і пры належнай апрацоўцы даць цэльнае, яркае, мастацкае апавяданне аб Леніне.

Некаторыя лічаць, што чытка дае больш карысці за расказванне, бо там маеш справу непасрэдна з кніжкай, захоўваецца стыль, мова аўтара і г. д. Думка гэта не зусім правільная. Мы не адмаўляем значэння мастацкіх чытак, але ўсё-ж мастацкае расказванне мае больш пераваг.

Пры расказванні можна літаратурны твор скарачаць, спрашчаць, меняць некаторыя месцы і падаць іх у больш даступнай форме. Уся ўвага слухача, пры расказванні, прыкавана да расказчыка, у той час, калі пры чытцы, увага дзяцей рассейваецца, бо разказчык не цалкам абернут да аўдыторыі, і звяртаецца да яе праз кнігу, што недастаткова садзейнічае канцэнтрацыі іх увагі вакол расказчыка. Недаацэнка мастацкага расказвання тлумачыцца яшчэ і тым, што многія лічаць неабходным для таго, каб умець расказваць, наяўнасць артыстычных здольнасцяй. Гэта думка ў корні неправільна. К о ж н ы п е д а г о г м о ж а і п а в і н е н б ы ц ь р а с к а з ч ы к а м, п р ы н а л е ж н а й р а б о ц е н а д с а б о й.

Кожны расказчык павінен загадзя добра прадумаць і распрацаваць вызначаны ім матэрыял для расказвання. Пры выбары матэрыяла неабходна ўлічваць наступныя моманты: мэту расказвання, узрост дзяцей, іх агульнае развіццё і ўзровень ведаў.

Неабходна матэрыял прапрацаваць так, каб ён падыходзіў для расказвання; пазбягаць лішніх падрабязнасцяй і апісанняў, якія толькі могуць загрузіць апавяданне, а не дапамагчы цэльнасці, яркасці і ўспрыйманню апошняга. Для расказвання неабходна браць літаратурныя творы, якія сваімі вобразамі выклікаюць патрэбныя нам рэакцыі дзяцей. Больш удзячнымі для расказвання з'яўляюцца тыя літаратурныя творы, у якіх адбіваюцца нарастанні падзей. Твор, выбраны для расказвання, павінен быць дынамічным, колькасць дзейнічаючых асоб—абмежаванай. Кожны з дзейнічаючых асоб павінен быць чотка, ярка абмалёван.

Што можна скарыстоўваць для расказвання. Багаты рознастайны матэрыял для расказвання даюць піонерскія часопісі і газеты. Літаратурны матэрыял змешчаны там даступны толькі старэйшым вучням, але для расказвання можна знайсці многа матэрыяла і для малодшых дзяцей на тэмы—аб школе, піонераргагізацыі і г. д., якія ў дзіцячай літаратуры вельмі слаба адлюстраваны.

Надзвычай удзячным матэрыялам для расказвання з'яўляюцца біяграфіі нашых правадыроў і вялікіх вучоных. Расказ-

ванне біяграфій і асобных момантаў з жыцця лепшых большэвікоў, змагароў за пролетарскую рэволюцыю, дасць нашым дзецям моцную эмацыянальную зарадку. Мастацкае расказванне пра гэтых людзей, якія ўсё свае жыццё і сілы аддалі на змаганне за справу пролетарыята, расказванне аб тым, як працуюць гэтыя людзі цяпер, будуючы соцыялістычнае грамадства—паслужыць для нашага падрастаючага пакалення прыкладам таго, як трэба змагацца з класавым ворагам і быць энтузіястам нашай вялікай соцыялістычнай будоўлі.

Вельмі ўдзячным матэрыялам для расказвання з'яўляюцца і біяграфіі вучоных. Прыклады жыцця такога вучонага, як напрыклад Мічурын, пакажуць дзецям надзвычайную моц чалавечага розума, які падпарадкоўвае сілы прыроды на карысць грамадства, і нават мяняе твар прыроды, дадуць дзецям разуменне значэння навукі, вынаходства і г. д. Расказваючы біяграфію вучоных, неабходна ў даступнай форме даць разуменне дзецям, што сапраўдны росквіт навукі магчым толькі ў нас, у краіне будуючагася соцыялізма.

Невычарпальнай крыніцай для расказвання з'яўляюцца творы такіх пісьменнікаў, як М. Горкі, Серафімовіч, Чарот, некаторыя творы Лынькова, Коласа і інш. Не ўсе творы гэтых пісьменнікаў можна даць цалкам для самастойнага чытання дзецям I-га канцэнтра, але папулярызаваць іх сярод дзетвары неабходна, скарыстоўваючы іх у першую чаргу для расказвання.

Расказванне гэтых твораў дае дзецям малюнкі сапраўдных высока-якасных літаратурных узораў, дае цэлы рад вобразаў сучаснасці і мінулага, развівае і ўзнімае ў нашых дзяцей запатрабаванні да літаратуры, абагачаючы і развіваючы іх мову. Такі, напрыклад, твор як «Бронецягнік» Ус. Іванова дае паказ героікі грамадзянскай вайны, выклікае ў дзяцей эмоцыі бадзёрасці і пашаны да тых змагароў, што сваёй барацьбой завявалі ўладу пролетарыяту. Ён заражае дзяцей і выклікае ў іх жаданне быць падобнымі да гэтых герояў.

Гэты твор, нават у апрацоўцы для юнацтва, цалкам даступен для самастойнага чытання дзецям VI і VII-й груп, але такі ўрывак, як сцэна з амерыканцам, мы можам расказваць і V-й групе, пры ўмове належнай яго апрацоўкі.

Гэты мастацкі ўрывак мае амаль зусім самастойны характар і дае надзвычай удзячны матэрыял для расказвання. З яго відаць, што працоўныя ўсіх нацыянальнасцяй не гледзячы на розныя мовы, заўсёды зразумеюць адзін другога, бо ў іх адна агульная мэта і імкненні—барацьба супроць капіталізма, за новы комуністычны лад. Надзвычай моцна гэты ўрывак паказвае, як імя Леніна з'яўляецца інтэрнацыянальным словам, па якім пазнаюць адзін аднаго ўсе працоўныя.

Нельга абыйсці пытанне скарыстання вясёлага, смешнага, літаратурнага матэрыяла для мастацкага расказвання.

У нас ёсць тэндэнцыя даваць дзецям толькі сур'ёзныя творы,

якія выклікаюць глыбокія мыслі, пачуцці і г. д.; мы не ўлічваем таго, што вясёлая кніжка можа прынесці не менш карысці. Вясёлая кніжка, мастацкая сатыра, выклікае здаровы смех дзяцей, выяўляе адмоўныя бакі нашай рэчаіснасці. Удзячным матэрыялам у гэтым сэнсе з'яўляецца народная казка. Казку наогул трэба скарыстоўваць для расказвання, але не трэба ўжываць так званыя «волшебныя» казкі, якія прыносяць шкоду сваёй нездаровай фантастыкай, выклікаюць пачуцці жаху ў дзяцей, даюць ідэалістычныя, класава-варожыя ўстаноўкі аб рэчаіснасці. Трэба вельмі асцярожна выбіраць казкі і таму, што большасць іх прасякнуты буржуазнай чужой нам ідэалогіяй.

Неабходна падкрэсліць значэнне мастацкага расказвання не толькі ў пазашкольнай рабоце, але і ў час лекцый, для замацавання атрыманых дзецьмі ведаў.

Лекцыя па геаграфіі можа быць надзвычай цікава праведзена, калі настаўнік замацуе яе мастацкім расказваннем, напрыклад, у V-й групе, пры вывучэнні Аўстраліі, можна скарыстаць кніжку Я. Маўра «У краіне райскай птушкі», ды іншы літаратурны матэрыял. Не менш удзячнымі для замацавання ведаў па геаграфіі з'яўляюцца нарысы ў «Комсомольскай праўдзе» пра нашы вопыты ў соц. будаўніцтве, розныя экспедыцыі і г. д. Тое-ж самае можна сказаць і адносна другіх дысцыплін (прыродазнаўства, грамадазнаўства і інш.).

Выкладчыку грамадазнаўства можна скарыстаць шмат літаратурных твораў, якія памогуць больш глыбока раскрыць, канкрэтызаваць і пашырыць веды па выкладаемай ім дысцыпліне, напрыклад,—Круі «Паляўнікі за мікробамі», Гольдзін—«Карысныя мікробы», Бахараў—«У майстэрні раслін» і т. д.

Некаторыя расказчыкі, прачытаўшы твор, запамінаюць сюжэт, вобразы і сваімі словамі перадаюць гэта дзецям. Другія чытаюць некалькі раз твор для таго, каб добра яго запомніць, нават паўтараюць у такім выглядзе, як збіраюцца падаць слухачам. Бывае і так, што расказчык апрацоўвае выбраны ім твор, запісвае і завучвае ў такім выглядзе, як будзе расказваць.

Нельга ўказаць які з метадаў з'яўляецца лепшым. Кожны педагог у працэсе работы выбірае той метад, які ён лічыць больш мэтазгодным. Якім бы метадам настаўнік не карыстаўся, матэрыял выбраны для расказвання павінен быць грунтоўна прапрацаван, каб не было перабояў, забыўчывасці і паўтарэнняў. Для гэтага расказчык папярэдне павінен распрацаваць план расказвання.

Вялікае значэнне набывае голас расказчыка. Расказчык павінен так ауладаць сваім голасам, каб ён дапамагаў дзецям улавіць асноўны напрамак твора, кожнае слова павінна быць чотка, выразна вымаўлена, з належнай інтанацыяй.

Расказчык павінен перадаць апавяданне дзецям з такім майстэрствам, каб выклікаць у іх сімпатыі і спачуванне да ге-

рояў соцыялістычнага будаўніцтва, і, наадварот, непрымірымую ненавісць да класавага ворага.

Ні ў якім разе нельга дапусціць, каб голас расказчыка быў манатонным, аднастайным, бесстаронна перадаючым аднолькава як аб герої ўдарніку, чырвонаармейцу, удзельніку грамадзянскай вайны, так і лодыру, або класаваму ворагу. У часе расказвання нельга злоўжываць сваімі галасавымі магчымасцямі.

У тых месцах, дзе ідзе нарастанне падзей і даходзіць да кульмінацыоннага пункту, патрэбна больш зніжаць голас, каб надаць расказванню іменна такі настрой, каб аўдыторыя адчула як раз гэту напружанасць. Некаторыя памылкова лічаць, што чым гучней будзе гаварыць расказчык, тым атрымаецца больш эфект.

Тэмп расказвання не павінен быць вельмі паспешным, нельга дапускаць глытання слоў і канчаткаў, але не павінен быць і цягучым. У першым выпадку дзеці не паспяваюць сачыць за разгортваннем падзей, а ў другім выпадку можа здарыцца, што дзецям гэта манатоннасць голаса надакучыць, выкліча неўважлівае слуханне, смех, шум, рассеянасць увагі.

У час расказвання трэба скарыстоўваць паўзы. Умела вытрыманыя паўзы надаюць больш эмацыянальнасці расказванню, даюць адпачынак аўдыторыі і расказчыку, асабліва ў больш завостраных месцах, калі неабходна разрадка.

Расказчык не павінен граць як артыст і злоўжываць жэстыкуляцыяй. Ён павінен заўсёды памятаць, што перадае змест твору, дзе трэба па меры магчымасці захоўваць стыль, мову і іншыя асаблівасці, асабліва калі гэтага вымагае спецыфіка твору. Але ў тых выпадках, калі твор у цэлым для вызначанай аўдыторыі не падыходзіць і нічога не страціць ад апрацоўкі, расказчык павінен яго перарабіць для большай даступнасці дзецям.

Пры расказванні трэба як мага менш ужываць цяжкіх, мала даступных слоў, асабліва для дзяцей малодшага ўзросту; для больш старэйшых трэба паступова ўводзіць новыя словы, каб пашыраць моўны запас дзяцей, але загадзя іх паясніць.

Пры правядзенні расказвання неабходна загадзя правесці падрыхтоўчую работу, папярэдзіць аб ім дзяцей. За дзень да расказвання можна вывесіць адпаведныя малюнкі, напрыклад да апавядання «Таня рэволюцыянерка», даюцца малюнкі, аб рабоце падпольнай друкарні, жыцці працоўных да рэволюцыі і т. д.

Пакой, дзе праводзіцца расказванне, павінен быць светлым, чыстым, добра праветраным. У час расказвання нельга дазваляць дзецям уваходзіць і выходзіць. Расказчык павінен заняць месца ў сярэдзіне, і вакол сябе рассадзіць дзяцей, каб яны былі ўвесь час перад вачыма. Для пачынаючых расказчыкаў не раіцца, каб група дзяцей была надта вялікай.

Перад тым, як прыступіць да самага працэса расказвання

расказчык паведамляе дзяцей аб чым ён будзе расказваць, тлумачыць незразумелыя словы і паняцці, якія будуць сустракацца.

Расказванне твору павінна прадаўжацца для малодшых дзяцей (0—1—2 гр.) не больш 15 мінут, для 3—4 групы не больш 25 мінут. Для II-га канцэнтра, расказванне можа прадаўжацца больш, да 35 мінут.

Часта дзеці так захапляюцца апавяданнем, што просяць яшчэ прадаўжаць расказванне, але гэтым не трэба злоўжываць. Лепш заўсёды абмежавацца адным апавяданнем.

Для пачынаючых расказчыкаў пажадана, каб пры іх расказванні прысутнічаў больш вопытны, які фіксуе недахопы расказвання і рэакцыі дзяцей з тым, каб улічыць дэфекты і знішчыць іх у працэсе далейшай работы.

Пасля расказвання трэба з дзецьмі правесці гутарку для выяўлення іх успрымання расказвання, пытанні да якой павінны быць раней падрыхтаваны. Работа па расказванню можа прадаўжацца і далей, дзеці могуць даць зарысоўкі па праслуханых апавяданнях. Некаторыя апавяданні можна апрацаваць сумесна з дзецьмі для інсцэніроўкі і гульні, скарыстоўваць іх у рабоце школы.

Летні час прадстаўляе вялікія магчымасці для расказвання. Побач з усімі мерапрыемствамі па арганізацыі культурнага адпачынка вучняў і піянераў у лагерах і школьных пляцоўках, трэба ўдзяліць месца і расказванню.

Лепшым часам для расказвання з'яўляюцца тыя гадзіны, якія ў рэжыме пляцовак і лагераў адводзяцца для спакойных заняткаў. Месца для расказвання трэба абраць такое, каб не даходзіў шум. Дзеці рассаджваюцца вакол кіраўніка, які знаходзіцца ў цэнтры.

Акрамя скарыстання расказвання ў рабоце на пляцоўках можна ім карыстацца і ў часе экскурсіі.

Асабліва зручным месцам для расказвання з'ўляецца ў лагерах касцёр, які сам па сабе надае многа прыгожасці ўсёй лагернай абстаноўцы.

У часопісу «Важаты» у артыкуле т. Бочына, прыводзіцца цікавы прыклад правядзення мастацкага расказвання ля кастра на тэму аб грамадзянскай вайне. Аўтар піша, што для такога кастра, які ён называе гераічным, трэба выбраць спецыяльнае месца, каб дзеці змаглі жывапісна размясціцца.

Касцёр пачынаецца з невялічкай ваеннай гульні. Яна павінна быць прымітыўнай, каб не стамляць дзяцей і не займаць надта многа часу.

Лагер падзяляецца на «чырвоных» і «сініх». Чырвоныя непрыкметна прабіраюцца да кастра, каб заняць яго. Запалены касцёр азначае перамогу чырвоных, пасля якой усе піонеры займаюць месца вакол кастра.

Дзеці зацягваюць песню, звязаную з тэмай апавядання ў даным выпадку, спеў Далёка-Ўсходніх партызан, паколькі далей

даецца ўрывак з «Разгрома» Фадзеева. Як толькі піонеры скончылі спеў, расказчык займае месца і пачынае расказванне. Яго можна таксама закончыць песняй або гутаркай аб задачах ваеннай работы ў атрадзе.

Такую форму можна скарыстоўваць пры расказванні не толькі на тэму аб грамадзянскай вайне, але і на іншыя тэмы. У кожным асобным выпадку трэба вельмі прадумана падабраць матэрыял, каб спевы, гульня і твор былі ўвязаны.

Увядзеннем такіх элементаў, як спевы, гульня не трэба злоўжываць, імі трэба карыстацца ў тых выпадках, калі неабходна яшчэ больш узмацніць уражанне і даць больш эмацыянальнай зарадкі дзецям.

Кожны педагог, які вядзе расказванне, павінен паставіць сабе мэтай папулярызацыю яго сярод дзяцей. Неабходна ствараць гурткі расказчыкаў з старэйшых дзяцей, у якіх даваць элементарную методыку расказвання і практычна вучыць дзяцей гэтай справе. Гэтыя дзеці могуць з'явіцца арганізатарамі дасуга дзяцей у часе вялікага перапынка і ў выходныя дні. Уся работа ў гэтым напрамку павінна праводзіцца ў кантакце з педагогам літаратарам.

## Кнігі, якія можна скарыстаць для расказвання

### „Жыццё працоўных і іх дзяцей да Кастрычніка"

**Вярэйская**—Таня рэволюцыянерка
**М. Горкі**—Дзяцінства. Маці (асобныя ўрыўкі).
**Галавач**—Свежы вецер (урыўкі).
**Гутман**—Няўлоўная друкарня (асобныя ўрыўкі).
**Кудзеллі**—Маё першае Мая.
**Замойскі**—Барская плётка.
**Серафімовіч**—Працавіты юнак (асобныя апавяданні).
**Салтыкоў-Шчэдрын**—Мама і Ваня.
**Чэхов**—Ванька. Спать хочется.

### Кастрычнік, грамадзянская вайна і Чырвоная армія

**Алейнікаў**—Баявыя дні.
**Гайдар**—Школа жыцця (урыўкі).
**Гаотны**—Камандзір першай коннай.
**Забалоцкі**—Чырвоныя і сінія.
**Іваноў**—Бронецягнік (асобныя ўрыўкі).
**Кожевников**—Продавец счастья.
**Лынькоў**—Андрэй лятун.
**Фадзееў**—Разгром (асобныя ўрыўкі).
**Фурманаў**—Чапаеў (асобныя ўрыўкі).

### Соцыялістычнае будаўніцтва

**Галавач**—Сполох на загонах (асобныя ўрыўкі)
**Гандар**—Дальние страны.
**Злобин**—Здесь дан старт.
**Ільин**—Апавяданне аб вялікім плане.
**Кажэўнікаў**—Тажык (асобныя ўрыўкі).

Маўр—Аповесць будучых дзён (асобныя ўрыўкі).
Никитич—Кібітка. Школа.
Стебнецкий—Школа в тундре.
Якімовіч—Перамога (асобныя ўрыўкі).

## Аб Леніне

Ульянава—Дзіцячыя, школьныя гады Ільіча. Успаміны пра Ільіча.
Крупская—Воспоминания о Ленине.
„ —Как отдыхал Ленин.

## Жыццё і змаганне працоўных у краінах капітала

Вейткаў—Дзеці змагання.
Горкі—Сказка об Италии.
Гюго—Гаўрош.
„ —Козэта.
Дзітрых—Праз граніцы.
Зборнік—Як памёр Дзёмка.
Лондон—Забаставаў (скарыстаць асобныя апавяданні).
Маўр—Слёзы Тубі.
Серебрякова—Рыкша.
Эрэнбург—Трубка коммунара.
Хрэстаматыя рэволюцыйнай літаратуры Заходняй Беларусі (скарыстаць асобныя апавяданні).

## Антырэлігійная

Гершэнзак—Культурныя дзікуны.
Серафимович—Две бойких матери.
Ляшко—Бабкіна бредня.
Пероўскі—Цуды і мошчы (і асобныя апавяданні).
Гашэк—Тайна споведзі (са зборніка „Як памёр Дзенко“).

## Прыродазнаўства, краязнаўства, геаграфія

Арсеньев—Дерсу. Узала.
Бахараў—У майстэрні раслін.
Біанкі—Мышанё Пік.
Дураў—Птушкі артысты.
Крук—Паляўнічыя на мікробаў.
Лебедзеў—Наступ на полюс.
Маўр—Палескія робінзоны.
Энгель—Нансен.
Якаўлеў—Жизнь Роальда Амундсена.

Даны спіс з'яўляецца толькі прыкладным, ён не вычэрпвае ўсяго, што можна скарыстаць з літаратурнай творчасці для расказвання.

Акрамя кніжак трэба шырока скарыстоўваць літаратурны матэрыял, які змяшчаецца ў газетах і часопісах.

*М. Таўміна*

# Палепшым санітарна-гігіенічныя ўмовы школы

Справа аздараўлення маладога падрастаючага пакалення з'яўляецца аднэй з актуальнейшых задач школы. Значэнне гэтага пытання асабліва ўзрастае зараз, у сувязі з усеагульным навучаннем, якое ахапляе ўсю дзетвару, пачынаючы з 7—8-гадовага ўзроста. Сямігодкі зараз перарастаюць у дзесяцігодкі, такім чынам павялічваецца і тэрмін прабывання вучня ў школе да 10—11 год.

Нам патрэбна выхаваць фізічна здаровую змену; вось чаму з кожным годам усё больш і больш удзеляецца ўвагі аздараўленню вучняў, пытанням паляпшэння санітарна-гігіенічных умоў школы.

У галіне аздараўлення падрастаючага пакалення шмат чаго праароблена, але-ж гэта яшчэ далёка не ўсё. Патрэбна штодзённая сістэматычная работа ў гэтым напрамку, у якую павінны быць уцягнуты не толькі школьны ўрач і настаўнік, але таксама і самі вучні, асабліва дзіцячыя санкамісіі, бацькі і грамадскасць.

Будаўніцтва новых школ у нас пашыраецца з кожным годам, павялічваецца колькасць новых школьных будынкаў. Так, з 1917 па 1927 г. было пабудавана па Саюзу ўсяго 5 тысяч школ, за наступныя 3 гады (1927—1930 гг.) колькасць школьных будынкаў павялічылася на 17 593, а ў 1930—1932 гг. пабудавана яшчэ звыш 20 тысяч новых школьных будынкаў.

Побач са спецыяльна пабудаванымі для школ будынкамі ёсць шмат памяшканняў, якія толькі прыстасаваны пад школы з жылых кватэр, клубаў і т. д.

Санітарна-гігіенічнае становішча школы залежыць не толькі ад школьнага будынка. У некаторых школах, якія змяшчаюцца ў прыстасаваных будынках, санітарнае становішча можа быць не горшым чым у школах, што маюць спецыяльны будынак, але не праводзяць у штодзённым жыцці рад неабходных санітарна-гігіенічных мерапрыемстваў.

Трэба памятаць, што ў кожнай школе, нават і пры пэўных неспрыяючых умовах, можна паставіць на належную вышыню санітарна-гігіенічны бок, пры належнай зацікаўленасці і энергіі педагагічнага калектыва.

У гэтай рабоце ў першую чаргу павінны прыняць удзел школьны ўрач, загадчык школы, настаўнікі і дзетсанкамісія. Але аднымі сваімі сіламі без актыўнага ўдзелу бацькоў, прадпрыемства, да якога прымацавана школа, прафорганаў і наогул грамадскасці яны не ўсё змогуць зрабіць.

Барацьбу за паляпшэнне санітарна-гігіенічных умоў школы нельга праводзіць толькі як часову кампанію. Яе неабходна праводзіць штодзённа, дабіцца таго, каб санітарна-гігіенічныя звычкі пранізалі-б усё жыццё вучня ня толькі ў школе, але і паза ёй. Набываючы гігіенічныя звычкі і ўносячы іх у сям'ю, вучань тым самым павышае культурны ўзровень як свой, так і бацькоў, сваёй сям'і, што мае вялікае аздараўляючае і выхаваўчае значэнне.

У кожнай школе абавязкова павінны быць акрамя правіл унутранага распарадку, цвёрдага расклада заняткаў, правілы ўборкі школы.

Пастановы СНК, НКА і НКАЗ аб унутраным распарадку школы завастраюць пытанне аб аздараўленні вучняў і паляпшэнні санітарнага становішча школ. У бягучым навучальным годзе выкананне гэтай задачы палягчаецца тым, што на рамонт школьных будынкаў адпушчаны значныя сродкі, заказана мэбля для многіх школ, многія вучні будуць забяспечаны гарачымі снеданнямі, выдзелена шмат абутку, галёш, верхняга адзення для дзяцей і г. д.

Спынімся зараз на асобных момантах і разбярэм, як можна ажыццявіць асобныя санітарна-гігіенічныя мерапрыемствы.

## Школьны вучастак

Пры кожнай школе неабходна мець двор або хаця-б невялікую пляцоўку, дзе вучні маглі-б праводзіць вольны час і перапынкі, арганізсўваць гульні на свежым паветры, займацца фізвыхам і т. д. У тых школах, дзе няма свайго двара, трэба па магчымасці дабіцца права карыстання суседнімі дварамі або гарадскімі садамі і паркамі.

Неабходна, па-першае, зрабіць добрую ачыстку школьнага двара, там, дзе магчыма, агарадзіць яго, вясной пасадзіць кветкі або дрэвы. На двары павінна быць пляцоўка для спартыўных гульняў—валейбола і інш.; узімку можна зрабіць горку для катання на каньках і санках.

### Школьны будынак

У многіх школах жывуць зусім пабочныя жыхары. Трэба весці самую настойлівую барацьбу за іх высяленне, бо акрамя таго, што займаюць частку школьнай плошчы, яны яшчэ нярэдка бываюць рассаднікамі антысанітарыі.

Далёка не ва ўсіх школах мы маем раздзявальні, якія можна ўсюды зрабіць,—знайсці адпаведнае месца ў вуглу, пад лесніцай, абгарадзіць частку калідораў або зрабіць невялікую прыбудоўку. Вешалкі могуць зрабіць і самі дзеці ў школьнай май-

стэрні, у гэтым могуць дапамагчы і бацькі вучняў. Пажадана, каб кожны вучань меў свой асобны нумар на вешалцы.

Вучні ні ў якім разе не павінны ўваходзіць у клас у верхняй вопратцы, бо такім чынам яны заносяць шмат пылу і бруду; апроч таго, гэта садзейнічае псаванню паветра, асабліва ў вільготнае надвор'е, змяншаецца колькасць адлюстраванага святла ў тых выпадках, калі вопратку вешаюць на сцяне, і прамога святла, калі яе вешаюць на вокны. З верхняй вопраткай могуць заносіцца і заразныя хваробы.

Часта ў школах няма ўмывальнікаў, гэтым самым немагчыма ажыццявіць такое элементарнае санітарна-гігіенічнае мерапрыемства, як мыццё рук перад снеданнем і т. д.

Сцены класных пакояў павінны быць атынкаваны і афарбаваны клейнай фарбай у светлы колер (белы ці светла-шэры), а на вышыні 1—1,5 метраў ад падлогі афарбаваны цёмнай маслянай фарбай. Фарбаваць сцены цалкам у цёмную фарбу нельга, бо яны тады будуць паглынаць шмат святла. Нельга аклейваць сцены шпалерамі, бо іх немагчыма мыць, акрамя гэтага, у шпалерах могуць завесціся паразіты.

Лозунгі і плакаты на сценах лепш за ўсё прымацоўваць кнопкамі і рэгулярна абнаўляць. Плакаты часта забываюць зняць са сцен, яны застаюцца вісець, калі ўжо зусім непатрэбны і з'яўляюцца толькі рассаднікамі пылу. Столь павінна быць выбелена.

## Вентыляцыя

Вельмі важнае значэнне мае ў школах чыстае паветра. Без змены паветра нельга абыйсціся ні ў адной школе, нават там, дзе ёсць дастатковая плошча і аб'ём пакояў.

Нават там, дзе маецца штучная вентыляцыя, патрэбна яшчэ і натуральная праз форткі або фрамугі. Трэба памятаць, што спёртае паветра ў класе з'яўляецца адной з прычын бледнасці, малакроўя і розных хвароб дзяцей.

Калі ў класе форткі няма, яе неабходна прарэзаць. Лепш, аднак, зрабіць не фортку, а фрамугу, памерам у $^1/_4$ або $^1/_3$ вакна. Фрамугу трэба зрабіць такім чынам, каб унутраная частка адчынялася ўверх, а надворная—ўніз, тады паветра, уваходзячае ў клас, будзе раней награвацца.

Заняткі трэба праводзіць пры адчыненай фортцы. У дождж і снег можна завесіць фортку марлей. Узімку трэба абавязкова адну фортку або палову акна пакінуць незаклеенай, каб можна было праветрываць клас.

Неабходна, каб на кожным перапынку вучні выходзілі ў калідор, а дзяжурныя ў гэты час адчынялі форткі ў класах. Там, дзе магчыма, трэба зрабіць скразное праветрыванне, якое значна лепш ад звычайнага. У лабараторыях і ўборных неабходна выцяжная вентыляцыя.

## Асвятленне

Не менш важным з'яўляецца і пытанне асвятлення школы. Трэба каб плошча ўсіх вакон (шыб) была роўна 1/5 усёй плошчы класа (светлавы каэфіцыент). Калі светлавая плошча малая, можна пры рамонце прарэзаць яшчэ адно вакно.

Святло як правіла павінна падаць злева, але ў некаторых школах яно падае і з правага боку. Гэта дае цень ад галоў, тулава і рук вучняў, перашкаджае чытанню і асабліва правільнаму пісьму, а тым самым псуе зрок.

Трэба сачыць за чыстатой шыб, пры забруджанні якіх частка святла прападае марна. Каб вокны не замярзалі ўзімку, можна класці паміж рамамі хлорысты кальцый. Серную кіслату не рэкамендуецца ставіць, бо могуць быць няшчасныя выпадкі (апаленне вучняў).

На вячэрніх занятках павінна быць электрычнае асвятленне, лепш за ўсё рассеяны адлюстраваны свет з калпакамі. Нельга вешаць у класе адну вялікую лампу, бо для большасці вучняў будзе неправільнае асвятленне, лепш узяць некалькі меншых ламп. Сіла святла павінна раўняцца прыблізна 8—10 свячэй на 1 кв. метр. Лампу трэба вешаць вышэй, каб праменні свету падалі амаль вертыкальна.

Пры асвятленні газай трэба вешаць лампы вышэй, бо ад іх вельмі награваецца галава, і бываюць галаўныя болі. Не трэба ўжываць плоскіх кнотаў, бо яны вельмі псуюць паветра.

У майстэрнях асвятленне павінна быць яшчэ большым— 12—14 св. на 1 кв. метр. Пажадана, каб над кожным варштатам па магчымасці была лампа.

## Ацяпленне

Не меншай увагі патрабуе і ацяпленне школы. Лепш за ўсё мець цэнтральнае паравое або вадзяное ацяпленне, але-ж у большасці школ мы маем звычайныя печкі.

Трэба сачыць за тым, каб пры апале печаў не зачыняліся раней часу юшкі, каб не было чада, які вельмі шкодзен для здароўя і перашкаджае нармальным заняткам. Больш за ўсё чадзяць жалезныя печкі, а таму мэтазгодна замяніць іх цагельнымі.

Печы павінны быць выпалены да прыхода дзяцей у школу і трымацца ў належнай чыстаце. Калі будуюцца новыя печы, трэба рабіць іх гладкімі, каб было лёгка ачысціць ад пылу, асабліва ў верхняй частцы.

Тэмпература ва ўсім школьным памяшканні павінна быць больш-менш роўнамернай, без рэзкіх пераходаў. Прыблізна, тэмпература класа павінна складаць 16—18 ° па Цэльсію. У калідорах, дзе дзеці знаходзяцца ў руху, тэмпература можа быць трохі ніжэйшай.

Пажадана, каб у кожным класным пакоі быў тэрмометр.

## Прыбіральні

Прыбіральні па некаторых школах з'яўляюцца прычынай атручанага паветра, бо не заўсёды яны пабудаваны як патрэбна і не заўсёды трымаюцца ў належнай чыстаце.

Лепш за ўсё мець цёплыя прыбіральні ў памяшканні з належнай выцяжной вентыляцыяй. У тых школах, дзе няма цёплых прыбіральняў, можна іх будаваць на дварэ, але-ж там павінна быць добрая непранікальная выграбная яма. Прыбіральні будуюцца асобна для хлопчыкаў і дзяўчат. Неабходна сачыць за чыстатой прыбіральняў, добра чысціць іх, каб яны не з'яўляліся крыніцамі заразы. Лепш за ўсё паліваць іх 5—10-проц. растворам свежа-рашчыненай хлорнай вапны. Таксама добра насыпаць парашок торфу, які зьнішчае дрэнны пах.

## Мэбля

Асаблівую ўвагу патрэбна ўдзяліць школьнай мэблі і правільнай пасадцы вучняў.

Школьная мэбля павінна адпавядаць узросту дзяцей і іх росту. У гэтым годзе камісія пры НКА БССР займалася гэтым пытаннем. Быў здан заказ на сталы і скамейкі, згодна распрацаваных памераў і, такім чынам, зараз школы БССР будуць часткова забяспечаны мэбляй па росту вучняў.

Часта ў школах вучань сам выбірае сабе месца па свайму жаданню. Гэта, безумоўна, неправільна: рассадзіць вучняў павінен настаўнік з дапамогай урача. Вельмі пажадана, каб школьны ўрач або настаўнік вымераў рост дзяцей і потым рассадзіў іх па росту. На пярэдніх партах павінны сядзець дзеці меншага роста, а таксама тыя, што дрэнна бачаць, або чуюць.

Патрэбна, каб вучань сядзеў за сталом сярэдняй вышыні. Калі стол занадта высокі, вучань вымушан значна набліжаць да сябе кнігу і сшытак, што псуе зрок, і акрамя таго, ён высока падымае правае плячо пры пісьме, што вядзе да скрыўлення хрыбетніка. Калі стол занадта нізкі, вучню прыходзіцца вельмі згінацца, што зноў такі шкодна для вачэй і вядзе таксама да скрыўлення хрыбетніка.

Асабліва прыходзіцца сачыць за тым, каб лаўка не была на далёкай адлегласці ад стала. Край лаўкі павінен заходзіць за край стала на 2—5 см.

Неправільная пасадка вучняў выклікае скрыўленне хрыбетніка ў бок (сколіоз) або назад (кіфоз) і псуе зрок. Скрыўленне хрыбетніка ў сваю чаргу адбіваецца на ўнутраных органах—вядзе да павярхоўнага дыхання, і недастатковай вентыляцыі лёгкіх.

Парта павінна быць такой шырыні, каб на ёй свабодна зьмяшчаліся бёдры вучня. Ногі пры сядзенні пад роўным кутом павінны кранацца падлогі або падножкі стала. Спіна вучня павінна мець апору ў спінцы крэсла або парты. Вышыня стала павінна

быць такой, каб пры рабоце седзячы, край дошкі стала знаходзіўся прыблізна на ўзроўні ніжняга края грудзіны.

Пры пасадцы вучань павінен трымаць галаву прама, не згінацца вельмі ў адзін бск; трэба каб тулава не нахілялася занадта ўперад, бо ад гэтага будзе прыціскацца грудная каморка. Калі вучань навучыцца правільна сядзець у школе, ён таксама будзе сядзець і дома, і такім чынам змяншаецца, безумоўна, колькасць сколіозаў і кіфозаў па віне школы.

У сувязі з пасадкай неабходна закрануць пытанне і аб пісьме вучняў. Рад гігіеністаў пасля многіх доследаў прышлі да вывіка, што прамое пісьмо лепш за ўскоснае, бо, пры прамым пісьме прыходзіцца менш нагінацца ў правы бок, вучні сядзяць больш роўна і патрэбна меншая затрата зроку.

Шматлікія доследы ўстанавілі, што блізарукасць ці «міонія» значна павялічваецца ў школьным узросце, асабліва ў старэйшых класах. Гэта тлумачыцца, галоўным чынам, недастатковым асвятленнем і неправільнай пасадкай вучняў.

Неабходна, каб вучні, якія дрэнна бачаць, сядзелі на бліжэйшых партах, бо часта непаспяховасць дзяцей тлумачыцца тым, што яны не могуць з дальніх парт убачыць тое, што напісана на дошцы, і рад тлумачэнняў для іх губляецца. Вельмі пажадана, каб у пачатку году ва ўсіх вучняў быў правераи зрок і слух. Калі няма магчымасці гэта зрабіць, настаўніку патрэбна апытаць бацькоў і саміх вучняў, як бачаць і чуюць дзеці.

Не малое значэнне для зроку мае і класная дашка. Яна павінна быць густа чорнага колеру, матавая, але-ж не паліраваная, бо інакш будзе адлюстраванне, якое перашкаджае дзецям чытаць напісанае. Выціраць дашку патрэбна абавязкова вільготнай анучкай.

Акрамя дошкі і сталоў для настаўнікаў неабходна яшчэ мець у класе шафы—для кніг і іншых прылад, у майстэрні шафу для інструмантаў. У фізічным і прыродазнаўчым габінетах — шафу для прылад і рэактываў.

## Гарачыя снеданні

Адным з важнейшых мерапрыемстваў аздараўлення школьніка з'яўляюцца гарачыя снеданні ў школе. Пасля 3-х урокаў кожнаму вучню неабходна даць невялікі снеданак, лепей гарачы.

Пажадана, каб пры школах былі асобныя кухні, дзе варыцца снеданне або абед, калі-ж такой кухні няма, можна прывозіць гатовы абед са сталоўкі або якім-небудзь іншым чынам зрабіць снеданне.

У школе патрэбна для снедання вылучыць асобны пакой, а калі яго няма, то можна выкарыстаць залу. Для сталоўкі і кухні можна выкарыстаць паўпадвальныя памяшканні, калі ніяк нельга знайсці другога месца.

Неабходна, каб снеданне атрымлівалі ўсе вучні, незалежна ад магчымасці аплаты. Задача комсодаў школы знайсці сродкі для таго, каб забяспечыць гарачым снеданнем усіх дзяцей.

Трэба наладзіць пастаянны санітарны нагляд над кухняй і сталоўкай, сачыць за свежасцю і добраякаснасцю прадуктаў і чыстатой памяшкання. Кожны вучань павінен мець сваю асобную пасуду, якую патрэбна абавязкова мыць гарачай вадой.

Не трэба гаварыць аб тым, што самы блізкі ўдзел у арганізацыі харчавання дзяцей павінны прымаць школьны ўрач і загадчык школы.

За апошнія гады мы маем шэраг дасягненняў у гэтай галіне. Значна пашыраецца з кожным годам ахоп вучняў гарачымі снеданнямі, па многіх школах мы маем добра пабудаваныя кухні і сталоўкі.

У прэсе паведамлялася, што ў 1933—34 навучальным годзе ўсе вучні гарадскіх і калгасных школ БССР будуць поўнасцю забяспечаны гарачымі снеданнямі. Прадукты для школ забраніраваны Наркамснабам з цэнтралізаванага фонда.

Гаворачы аб харчаванні дзяцей у школе, нельга не спыніцца і на забеспячэнні вучняў гатаванай вадой для піцця. Да гэтага году далёка не ва ўсіх школах меліся бакі з гатаванай вадой. У некаторых школах, дзе ёсць бакі, яны стаяць без скарыстання ў куту, а вучні п'юць сырую ваду. Гэта, безумоўна, недапушчальна. Пры кожнай школе абавязкова павінен быць бак з гатаванай вадой, пры ім некалькі шклянак альбо кружак (лепш эмаляваных) для піцця.

Трэба, каб вучні прызвычаіліся піць гатаваную ваду і паласкаць кружку.

Ваду нельга чэрпаць кружкамі з бака або вядра, а таму неабходна, каб у баку быў зроблен крант. Вядро ці бак павінны быць шчыльна прыкрыты вечкам. Самыя бакі для гатаванай вады неабходна рэгулярна мыць.

Ваду можна гатаваць у спецыяльных кіпяцільніках або самаварах, трэба толькі сачыць за тым, каб быў дастатковы запас гатаванай вады для ўсей школы.

Калі пры школе няма вадаправода, і вада прывозіцца ў бочках, трэба сачыць, каб бочкі ці кадкі былі шчыльна прыкрыты вечкам і мелі кранты.

## Падтрыманне чыстаты ў памяшканні

Вельмі важнае значэнне мае належная ўборка памяшкання. Па школах павінны быць вывешаны правілы ўборкі, якія патрэбна акуратна выконваць.

Уборку трэба праводзіць вільготным спосабам уранку, да прыхода дзяцей, калі пыл ужо за-ноч асеў. Лепш за ўсё падмятаць падлогі пры адчыненых вокнах, калі паляцца печы.

Нельга пыл змятаць са сцен і мэблі, яго патрэбна здымаць вільготнай анучкай. Падлогі добра змазваць пылазвязваючым маслам, якое паглынае пыл, напрыклад, флурыдам. Перад мазкай падлогу трэба вымыць і даць ёй высахнуць. Змазаную падлогу штодзённа праціраюць жорсткай шчоткай. Пыл затрымліваецца маслам. Кожныя 2—3 месяцы патрэбна зноў добра вымыць і змазаць падлогу.

Пры ўваходзе ў школу павінны быць скрабкі і маты для ачысткі ног ад бруду. У кожнай школе павінны быць плявацельніцы, каб вучні не плявалі і не сморкаліся на падлогу. Плевацельніцы патрэбна добра вымываць, напаўняць іх дэзінфецыруючым рошчынам або апілкамі. У кожным класе павінна быць скрынка для смецця (апошняе лепш за ўсё спальваць).

## Асабовая гігіена

Школа павінна прышчапіць вучням цэлы рад гігіенічных звычак, як у школьным, так і ў пазашкольным жыцці. Трэба, каб гэтыя звычкі сталі для вучня неабходнасцю, каб ён іх свядома пераносіў у свой хатні быт і тым самым быў-бы праваднікам санітарнай культуры. Вучань павінен сачыць за чыстатой цела, вопраткі, абутку і школьных прылад, сістэматычна наведваць лазню.

Выкананне правіл асабовай гігіены павінны штодзенна правяраць настаўнік, урач, і дзіцячая санкамісія. Апошняя правярае чыстату вушэй, шыі, рук, пазногцяў кожнага вучня, сочыць за падтрыманнем чыстаты ў класе, вядзе барацьбу з курэннем і г. д.

Шмат чаго могуць даць лекцыі ўрача з дыяпазытывамі, санітарныя суды і пастаноўкі. Патрэбна наладзіць сістэматычны выпуск санітарнай насценгазэты, арганізаваць дошкі і куткі здароўя, праводзіць заняткі па аказанню першай дапамогі. Пры кожнай школе павінна быць невялічкая аптэчка і санбібліятэчка.

## Рэжым дня

Аздараўленне дзяцей цесна звязана з унутраным рэжымам школы, аб якім маецца спэцыяльная пастанова НКА і НКАЗ. У ёй даецца тыповы распарадак школьных заняткаў і нормы нагрузкі вучняў усімі відамі вучэбна-вытворчай і грамадскай працы.

Пры складанні расклада ўрокаў і ўстанаўленні рэжыма мы павінны заўсёды лічыцца з узрастнымі асаблівасцямі дзяцей.

Працягласць перапынкаў павінна быць не менш 10 мінут, а вялікі перапынак—30 мінут. Перапынкі павінны быць выкарыстаны так, каб вучань за гэты час мог адпачыць, а клас добра праветрываўся. Лепш за ўсё калі вучні будуць мець магчымасць

праводзіць перапынкі на свежым паветры. Пры складанні расклада трэба першыя гадзіны займаць прадметамі, якія патрабуюць больш напружанай увагі і памяці і т. д.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на ўпарадкаванне грамадскай нагрузкі школьніка. Да гэтага часу некаторыя вучні перагружаны грамадскай працай, няма роўнамернага ахопа ёй вучняў. Зараз у гэтай галіне прыдзецца зрабіць карэнны пералом. Безумоўна, і пры размеркаванні грамадскай работы павінны быць улічаны як узросныя, так і індывідуальныя асаблівасці вучня.

Школьныя майстэрні, дзе вучні займаюцца вытворчым навучаннем, павінны быць добра абсталяваны, для іх патрэбна адвесці адпаведныя памяшканні (не ў сутарэнні), у іх павінна быць дастатковае асвятленне, ацяпленне і вентыляцыя. Акрамя гэтага патрэбна сачыць, каб вучні не зморваліся, не працавалі за станкамі для дарослых, не карысталіся іх інструмантамі.

Гаворачы аб школьным рэжыме, нельга не застанавіцца, у кароткіх рысах, на аздараўленні пазашкольнага жыцця вучня. Кожны настаўнік павінен ведаць умовы хатняга жыцця вучняў, умовы іх хатняй нагрузкі, сну.

Патрэбна арганізаваць дасуг вучняў, уносячы туды рад аздараўляючых момантаў (катанне на лыжах, каньках, экскурсіі і т. д.)

## Барацьба з заразнымі хваробамі

Вельмі важным пытаннем з'яўляецца барацьба з заразнымі хваробамі, якія часта перашкаджаюць нармальнай рабоце школы. Сярод дзяцей школьнага ўзроста даволі часта сустракаюцца такія хваробы, як шкарлатына, адзёр, дыфтэрыя, коклюш, свінка, ветранка, дызентэрыя і інш.

У кожнай школе павінны быць пастановы НКАЗ па барацьбе з заразнымі хваробамі, тэрміны ізаляцыі хворых вучняў. У выпадках неабходнасці, напрыклад, пры шкарлятыне, робіцца дызенфекцыя класа альбо ўсёй школы і пасля гэтага ўборка памяшкання.

Неабходна весці шырокую растлумачальную работу з бацькамі аб папярэджанні заразных хвароб, аб барацьбе з вашывасцю, скуранымі хваробамі і г. д.

Патрэбна працяглая сістэматычная работа з бацькамі, якія павінны своечасова паведамляць школу аб захворванні дзяцей. Але калі бацькі не паведамілі школу, сам настаўнік павінен даведацца аб прычыне неяўкі вучня.

Асабліва важнае значэнне маюць прафілактычныя прышчэпкі. Некаторыя з іх, як, напрыклад, супроць натуральнай воспы, ужо так увайшлі ў жыццё, што без даведкі аб зробленай прышчэпцы, вучні не прымаюцца ў школу. У гэтым годзе ўжо праводзіцца абавязковая супроцьдыфтэрыйная прышчэпка для ўноў паступаючых у школы.

Калі настаўнік або дзеткамісія заўважваюць, што вучань хворы, яго патрэбна зараз-жа даслаць да ўрача, абавязкова паведаміць аб гэтым школьнага ўрача для прыняцця неабходных мер.

Калі вучань хварэе на якую-небудзь заразную хваробу, як шкарлатына, дыфтэрыя, трахома, кароста, стрыгун і г. д. яго патрэбна не дапускаць у школу без дазволу ўрача.

Для ажыццяўлення указаных у гэтым артыкуле мерапрыемстваў, неабходна каб увесь школьны калектыў і грамадскасць былі зацікаўлены у аздараўленні вучняў.

Справа паляпшэння санітарна-гігіенічных умоў школы, справа аздараўлення падрастаючага пакалення павінна быць пастаўлена на належную вышыню. Толькі агульнымі намаганнямі: органаў АНА, усяго школьнага калектыва, урача, настаўнікаў, дзетсанкамісіі, піянэратрада з удзелам бацькоў, пры шырокім прыцягненні трамадскасці, гэта задача будзе выканана з поспехам.

---

*Д-р Ю. Сегаль*

# „Цяжкія" дзеці ў масавай школе

Пастановы ЦК УсеКП(б) аб школе ад 5/IX 1931 г. і 25/VIII 1932 г. азначаюць карэнны паварот у будаўніцтве палітэхнічнай школы, якая павінна выхоўваць ўсебакова развітых, добра падрыхтаваных дзяцей, актыўных барацьбітоў за перамогу комунізма.

Побач з цэлым радам момантаў, ад якіх залежыць правільная пастаноўка работы ў школе, значнае месца займае камплектаванне школьных груп і выдзяленне з іх так званых «цяжкіх дзяцей». Пытанні барацьбы са школьнай непаспяховасцю, за веды і свядомую дысцыпліну не могуць быць паспяхова вырашаны без правільнай пастаноўкі і навуковага абгрунтавання праблемы «цяжкага дзяцінства», выкрыцця класава-варожых, ідэалістычных і механістычных тэорый у гэтым напрамку.

Барацьба з «цяжкім дзяцінствам» павінна весціся шляхам прафілактыкі-папярэджання гэтай з'явы, а таксама і перавыхавання «цяжкіх» дзяцей, ператварэння іх у свядомых і актыўных будаўнікоў соцыялізма. Гэтаму спрыяе агульная барацьба за ўздым культурнага і эканамічнага ўзроўня працоўных мас, палітыка партыі, накіраваная да канчатковай ліквідацыі рэштак капіталізма і стварэння бескласавага соцыялістычнага грамадства, соцстрахаванне, дзіцячыя дамы, ахматмлад і іншыя мерапрыемствы, якія вядуць да палепшання соцыяльна-бытавых ўмоў працоўных і з'яўляюцца магутным фактарам у справе аздараўлення нервова-псіхічнага стана дзіцячай масы.

Але ў гэтай справе яшчэ патрэбна актыўная напружаная работа настаўніцтва, бацькоў і ўсіх зацікаўленых устаноў. Толькі агульнымі намаганнямі можна будзе рэальна дабіцца змяншэння колькасці і паступовай ліквідацыі «цяжкага» дзяцінства.

Важнае месца сярод псіха-гігіенічных мерапрыемстваў займаюць правільная арганізацыя рэжыма дня вучняў і захаванне мінімума санітарна-гігіенічных патрабаванняў у масавай школе. Вялікае значэнне мае правільная арганізацыя самой вучобы, у сэнсе, напрыклад, чаргавання ўрокаў па фізкультуры і вытворчаму навучанню з тэарэтычнымі заняткамі, рацыянальнага размяшчэння матэрыяла і яго выкладання настаўнікам. Вельмі важна не дапускаць стамлення вучняў, трэба, каб матэрыял, які ім даецца, адпавядаў узростным асаблівасцям групы, быў зразумелым і цікавым. Не малую ролю адыгрывае і правільная арганізацыя дзіцячага дасуга—перапынка, выходнага дня і інш. Гэтыя мерапрыемствы прадугледжаны адпаведнымі пастановамі партыі і ўрада, барацьба за іх рэалізацыю з'яўляецца барацьбой за ўзняццё нервова-псіхічнага здароўя дзяцей.

У нармальнай масавай школе мы павінны стварыць умовы, якія папярэджваюць цяжкае дзяцінства і таксама перавыхоўваюць тых цяжкіх дзяцей, якія могуць знаходзіцца сярод вучняў. Для астатняй масы цяжкіх дзяцей патрабуюцца дыферэнцыяваныя ўстановы выхаваўчага і лячэбна-выхаваўчага тыпа, якія павінны адпавядаць асаблівасцям дзяцей і даваць ім магчымасць атрымаць неабходны запас ведаў. Усе гэтыя мерапрыемствы павінны забяспечыць значнае зніжэнне процанта цяжкавыхоўваемасці сярод дзяцей ужо ў бліжэйшую пяцігодку.

У групу «цяжкіх» вучняў педагог звычайна залічвае тых дзяцей, якія не атрымліваюць у школе неабходнага запаса ведаў і сваімі паводзінамі перашкаджаюць нармальнай працы калектыва. Гэта—дзеці, якія парушаюць дысцыпліну ў школе, з'яўляюцца сістэматычнымі дэзарганізатарамі і зрыўшчыкамі заняткаў і ўсяго школьнага рэжыма, цяжка паддаюцца выхаваўчым мерапрыемствам масавай школы. З другога боку, да катэгорыі цяжкіх настаўнік часта адносіць і кволых, пасыўных, індыферэнтных дзяцей, якія не ўцягваюцца ў школьнае жыццё, не цікавяцца заняткамі, і амаль ні ў чым не праяўляюць актыўнасці. Значнае месца сярод цяжкавыхоўваемых займаюць дзеці непаспяваючыя, да якіх могуць адносіцца як дэзарганізатары—узбуджаныя дзеці, так і кволыя—пасыўныя. Непаспяваючыя дзеці не могуць «угнацца» за праграмай групы, хутка адстаюць, перастаюць цікавіцца заняткамі і ўся іх актыўнасць накіроўваецца па неправільнаму шляху.

Тэрмін—«цяжкае дзяцінства» ўключае ў сабе некалькі зусім разнародных груп дзяцей, кожная з якіх мае свае асаблівасці і для правільнага ўздзейнічання патрабуе адпаведнага і спецыфічнага падыхода. Частка дзяцей пры асабліва ўважлівых адносінах педагога, індывідуальным умелым падыходзе і іншых

мерах, аб якіх мы будзем гаварыць ніжэй, можа заставацца ў школе і нават з цягам часу ліквідаваць сваю «цяжкасць». Але-ж ёсць і такія дзеці, для якіх умовы работы ў нармальнай школе зусім не падыходзяць, ім патрэбны асаблівыя ўмовы і метады навучання. Апошняя група дзяцей патрабуе выдзялення з масавай школы і своечасовага накіравання ў спецыяльную ўстанову. Своечасовае распазнанне і накіраванне цяжкіх дзяцей мае вялікае значэнне як для далейшага развіцця самога вучня, так і для нармальнай работы групы і настаўніка.

Але выдзяленне цяжкага дзіцяці справа зусім не простая, яна патрабуе ад педагога доўгага наглядання, вывучэння, глыбокага і ўважлівага азнаямлення з усімі бакамі жыцця і паводзін вучня. Настаўнік, які на працягу навучальнага года ўваходзіць у кантакт з вучнем, наглядае і вывучае яго, можа даць аб ім грунтоўныя, правільныя весткі, на падставе якіх педалог альбо ўрач-псіханеўролаг, пасля спецыяльнага даследвання вучня, можа даць сваю параду, і ў выпадку патрэбы накіраваць ў спецыяльную ўстанову.

У сучасны момант у БССР колькасць спецыялістаў-педалогаў і псіханеўролагаў зусім недастатковая; трэба лічыцца з тым, што вельмі часта адказнасць пры вызначэнні цяжка-выхоўваемых кладзецца на настаўніка. Самое вызначэнне цяжкавыхоўваемых не можа быць зроблена раптоўна; яно патрабуе сталага, сур'ёзнага вывучэння кожнага цяжкавыхоўваемага самым настаўнікам у працэсе штодзённай педагагічнай работы. Вось чаму кожнаму педагогу трэба мець неабходны мінімум ведаў аб цяжкім дзяцінстве.

На працягу другой пяцігодкі НКА сумесна з НК Аховы Здароўя намячае разгарнуць сетку ўстаноў для цяжкіх дзяцей, якая задаволіць запатрабаванні ў іх па БССР. Таксама будзе значна павялічана колькасць педолагаў і псіханеўролагаў, і разгорнута сетка педалагічных габінетаў пры дзіцячых дыспансерах і школах.

У літаратуры дагэтуль няма адзінай класіфікацыі цяжкага дзяцінства. Гэта залежыць як ад складанасці самога пытання, так і недастатковай яго вывучанасці. Мы зараз не застановімся на разглядзе розных класіфікацый і іх ацэнцы. Укажам толькі асноўныя групы цяжкага дзяцінства з тым, каб па магчымасці сцісла ахапіць усе рознастайныя формы праяў цяжкіх дзяцей.

У апошні час амаль усе аўтары (Гурэвіч, Ленц) разглядаюць дзве асноўныя групы цяжкіх дзяцей. 1-ая група—дзеці, цяжкавыхоўваемасць якіх залежыць ад дрэннага ўплыва акаляючага асяроддзя, а не ад стана здароўя, II-ая група—дзеці, цяжкавыхоўваемасць якіх залежыць ад асаблівасцяй іх арганізма, стана здароўя, нервовасці.

На справе ў кожным асобным выпадку ёсць узаемапранікненне абодвух фактараў унутранога і надворнага. Калі ўсё-ж мы разглядаем паасобку гэтыя дзве групы, то перш за ўсё

адзначаем галоўную—першаістую прычыну, без якой не было-б захварэння і адначасова ўлічваем рад другіх фактараў другараднага характара, якія маюць значэнне ў развіцці і цяжкасці захварэння.

У першую групу ўваходзяць дзеці педагагічна і сацыяльна запушчаныя. Педагагічна запушчаныя,—гэта дзеці, якія не своечасова пачалі вучыцца і не атрымалі ў свой час дастатковых ведаў і навыкаў, педагагічная запушчанасць часта камбінуецца з соцыяльнай запушчанасцю або саматычнай слабасцю вучняў. Яны часта з'яўляюцца пераросткамі ў данай групе і не хутка ўцягваюцца ў школьную работу. Але-ж з цягам часу такія вучні, пры ўважлівым індывідуальным падыходзе з боку настаўніка, могуць выраўняцца з ўсёй групай. Для пераросткаў мэтазгодна адчыніць спецыяльныя школы або групы пры масавых школах.

Соцыяльна-запушчаныя дзеці часта знаходзяцца пад уплывам дэкласаванага асяроддзя з цяжкімі бытавымі ўмовамі (п'янства, бойкі, крадзеж, хуліганства). Гэта—пераважна дзеці бездагляднына, або наадварот, разбэшчаныя няправільным выхаваннем у сям'і. Цяжкімі для выхавання ў совецкай школе з'яўляюцца і дзеці, атрымаўшыя ў сям'і класава-варожыя ўстаноўкі і пераносячыя іх у школьнае асяроддзе. Сваімі паводзінамі дзеці гэтай катэгорыі перашкаджаюць рабоце школы, парушаюць дысцыпліну, не выконваюць сваіх абавязкаў і, вельмі часта дрэнна ўплываюць на іншых неўстойлівых дзяцей.

Прыклады, якія бачаць цяжкавыхоўваемыя ў сваім асяроддзі,—у тым ліку такія ўчынкі як крадзёж, п'янства, бойкі, лаянку і раннія сексуальныя праявы,—яны часта пераносяць ў школу. Але не заўсёды такія дзеці патрабуюць выключэння з нармальнай масавай школы. Педагог, які ўважліва наглядае за вучнем, вывучае яго нахілы і сацыяльна-бытавое асяроддзе, можа ўскрыць прычыны ненармальных паводзін і ўздзейнічаць на вучня так, каб уплыў школы перамог уплыў сямейнага асяроддзя. Трэба зацікавіць вучня жыццём і работай школы, уважліва сачыць за ім, уцягнуць у соцспаборніцтва, ударніцтва.

Часта на дэзарганізатараў мае дадатны ўплыў праца ў школьных майстэрнях. Велізарную выхаваўчую ролю адыгрывае піонерарганізацыя. Часта ўцягненне ў грамадскую работу, стымуляванне ініцыятывы і актыўнасці ўздымае аўтарытэт вучня ў вачох астатніх дзяцей, дапамагае цяжкавыхоўваемаму пайсці па правільнаму шляху і адрывае ад ўплыва нездаровага асяроддзя. Удзел у грамадскай рабоце можа ўзняць свядомасць вучня і накіраваць у бок правільнай класавай мэтаімкнёнасці.

Для таго, каб знішчыць уплыў дрэннага асяроддзя на цяжкавыхоўваемых, трэба звярнуць асаблівую ўвагу на пазашкольную работу, наладзіць рацыянальнае скарыстанне вольнага часа. Азнаёміўшыся з бытавым асяроддзем вучня, шляхам наведвання яго дома і вызава бацькоў, настаўнік павінен гутарыць з апошнімі па пытаннях выхавання і па магчымасці прыняць меры да

таго, каб захаваць вучня ад ўплыва разлажыўшайся сям'і або таварышоў. У выпадку алкагалізма бацькоў можна праз урача накіраваць іх на лячэнне да псіха-неўролата. Соцыяльна запушчаныя дзеці, якія не могуць заставацца ў масавай школе, павінны накіроўвацца ў спецыяльныя школы для цяжка-выхоўваемых.

Прыводзім прыклады з матэрыяла педалагічнай кансультацыі Навукова-даследчага інстытута Комвыхавання.

І-шы выпадак. Вучань ІІ-га класа, 11 год. Бацька—чарнарабочы, матка—хатняя гаспадыня, рэлігійная, абое—малапісьменныя. Кватэрныя ўмовы дрэнныя, спіць разам з братам. Бацька—алкаголік, у п'яным стане скандаліць, б'е жонку і дзяцей. Хлопчык таксама п'е і курыць. У школе—дэзарганізатар, не цікавіцца заняткамі, паспяховасць дрэнная, часта ўцякае з лекцый, б'е іншых дзяцей і дрэнна ўплывае на іх. Мае дрэнных таварышоў. Крадзе грошы ў бацькоў, купляе на іх гарэлку і цукеркі, прыходзіць дадому п'яны. З боку спадчыннасці адзначаецца алкагалізм бацькі.

Даныя агляда: фізічнае развіццё сярэдняе, невялікія сляды рахіта. Дрэнна развіт тлушчавы слой. Пры гутарцы з вучнем выяўляецца яго добрая арыентыроўка ў акружаючым асяроддзі і наогул жыцці; у палітычных пытаннях, якія адпавядаюць яго ўзросту, не разбіраецца, на пытанні тэхнічнага характара адказвае здавальняюча.

Дыягназ: «Сацыяльна запушчаны, накіраваць у школу для цяжка выхоўваемых».

Да групы соцыяльна запушчаных некаторыя аўтары адносяць дзяцей беспрытульных. З гэтым нельга згадзіцца, бо беспрытульныя не прадстаўляюць сабой аднароднай групы па сваіх педалагічных асаблівасцях. Сярод беспрытульных сустракаюцца як зусім нармальныя дзеці, так і соцыяльна-запушчаныя, а таксама значны процант разумова-адсталых, неўропцікаў, псіхапатаў і іншых. Але асаблівасці соцыяльна-бытавога асяроддзя, ранняе пазбаўленне сям'і і догляда ў перыяд роста і развіцця дзіцяці, несвоечасовы ўступ у самастойнае жыццё і ўплыў вуліцы накладваюць асаблівы адбітак на беспрытульных дзяцей і даюць падставу аб'яднаць іх у асобную групу.

Соцыяльная запушчанасць характэрна для большасці гэтых дзяцей, але ў кожным асобным выпадку могуць быць і іншыя асаблівасці, якія патрэбна выявіць для правільнай дыягностыкі і характарыстыкі дзіцяці.

Работа з такімі дзецьмі прадстаўляе шырокае поле для праяўлення педагагічнай ініцыятывы, дзе ўмелы падыход настаўніка і затрачаная ім энергія нярэдка кампенсуюцца добрымі вынікамі.

Другую групу цяжка выхоўваемых складаюць дзеці, якія маюць дэфекты з боку агульнага або нервовага стану. Сюды ўваходзяць дзеці хворыя, або фізічна слабыя, для якіх рэжым

масавай школы з'яўляецца цяжкім. Яны па хваробе часта прапушчаюць лекцыі, хутка зморваюцца на занятках і з гэтай прычыны часта з'яўляюцца дэзарганізатарамі і непаспяваючымі. Для такіх дзяцей павінны быць арганізаваны спецыяльныя школы і групы—лясныя школы, школы з працяглым днём, школы на свежым паветры і інш. У выдзяленні такіх дзяцей павінен дапамагчы школьны ўрач. Калі няма магчымасці вылучыць гэтых дзяцей у адпаведныя ўстановы, то яны могуць застацца і ў нармальнай школе, пры ўмове індывідуальнага падыхода з боку настаўніка, больш уважлівай дазіроўцы заняткаў па фізкультуры, палітэхнічнай працы ў майстэрнях і адпаведнага лячэння. У гэтую групу дзяцей уваходзяць хворыя туберкулёзам, бронхадэнітам, хранічнымі катарамі страўніка, і г. д. Вось прыклад:

Дзіцяці 7 год, бацька—служачы з сярэдняй адукацыяй. Апэтыт дрэнны. Дзяўчынка паслухмяная, вельмі пасіўная. Працуе павольна, неакуратна, не паспявае за групай. Часта позніцца ў школу. Спадчыннасць: бацька хварэе туберкулёзам, матка нервовая. Дзіця перанесла шмат інфекцыйных хвароб,—адзёр, коклюш, шкарлатыну, ветранку, запаленне лёгкіх, зараз хварэе туберкулёзным бронхадэнітам. Тлушчавы слой дрэнны. Інтэлектуальнае развіццё адпавядае ўзросту. Дыягназ: «Саматычна аслабленая, патрабуе ўзмоцненага харчавання».

Непаспяховасць вучня можа выклікацца паніжаным зрокам ці слухам, пры якіх вучань шмат чаго з тлумачэнняў настаўніка пакідае міма ўвагі. Пры ўважлівым падыходзе з боку настаўніка і школьнага ўрача, вельмі лёгка ліквідаваць непаспяховасць, пасадзіўшы вучня бліжэй, каб ён добра бачыў і чуў, аказаўшы яму патрэбную лячэбную дапамогу.

Дзеці са значнымі парушэннямі органаў зрока і слуха патрабуюць зусім асаблівага выхаваўчага падыхода. Для такіх дзяцей ёсць асобныя ўстановы: школы для сляпых і глуханямых дзяцей. Зараз распрацоўваецца пытанне аб сумесным навучанні дзяцей, якія маюць значныя парушэнні органаў зроку і слуха, з нармальнымі дзецьмі.

Асабліва вялікі процант сярод непаспяваючых складаюць разумова адсталыя—дзеці з паніжаным разумовым развіццём. Часта такія дзеці ўжо з ранняга дзяцінства праяўляюць свой недахоп, позна пачынаюць хадзіць і гаварыць (на 3-м, 4-м годзе). У вялікім процанце разумовая адсталасць залежыць ад спадчыннасці і ўроджанасці. Разумова адсталыя дзеці нараджаюцца ад бацькоў алкаголікаў, сіфілітыкаў, або псіхічна і нервова хворых. Разумовая адсталасць выклікаецца часта і перанесенымі інфекцыйнымі захворваннямі самога дзіцяці, запаленнем мазга, моцнымі траўмамі і інш.

Разумова-адсталыя дзеці (олігофрэны) падзяляюцца на тры групы па ступені цяжкасці і адсталасці. Самая цяжкая ступень—ідыоты, якія амаль зусім не навучаюцца гаварыць, маюць

вельмі бедны запас уяўленняў, дрэнна адрозніваюць нават блізкіх людзей, адзначаюцца вельмі нязграбнымі і некаардынаванымі рухамі. Такія выпадкі патрабуюць лекава-выхаваўчых мерапрыемстваў, з імі настаўніку мець спраґу не прыходзіцца.

Другая ступень разумовай адсталасці—гэта імбецыльнасць. Імбецылы ўжо здольны да некаторага навучання, але-ж і іх магчымасці развіцця невялікія. Дзеці імбецылы павінны навучацца ў спецыяльных школах, дзе галоўная ўвага павінна быць накіравана на набыццё элементарных навыкаў. У некаторых выпадках з імі можна праводзіць пачатковае навучанне. Для імбецылаў можна арганізаваць групы пры дапаможных школах.

Апошнюю трэцюю ступень разумовай адсталасці складаюць дэбілы, якія часцей могуць сустракацца ў школе. Гэтыя дзеці могуць вучыцца, але веды ім даюцца цяжка. Дэбілы не могуць адолець вучобы разам з усімі дзецьмі ў групе, заўсёды з'яўляюцца непаспяваючымі і ў вялікім процанце запаўняюць рады другагоднікаў. Тлумачэнні настаўнікаў для іх незразумелы, дзеці не зацікаўлены імі і часта робяць дэзарганізуючыя ўчынкі, парушаюць дысцыпліну. Зусім не рэдкай з'яўляецца аднабаковасць здольнасцяй у дэбілаў, напрыклад, дзеці добра ўладаюць чытаннем, а навучыцца пісаць ніяк не могуць, або не дрэнна спраўляюцца з лічэннем, а чытанне даецца з вялікай цяжкасцю. Для гэтай групы дзяцей патрэбны спецыяльныя дапаможныя школы, або дапаможныя групы пры масавых школах, з асаблівай сістэмай навучання і метадамі выкладання, прыстасаванымі да таго, каб забяспечыць неабходны аб'ём ведаў, пры ўліку асаблівасцяй разумовага развіцця дзяцей.

Вельмі ўважліва трэба падыходзіць да выдзялення са школы разумова адсталых дзяцей ва ўзросце 7—8 год. Іншы час у пачатку навучання ў школе, і нармальныя дзеці не лёгка прыстасоўваюцца да новых умоў, і першы час могуць зрабіць уражанне разумова-адсталых, але потым паступова ўцягваюцца ў работу школы і выраўніваюцца з усёй групай.

Падаем для прыклада разумовай адсталасці наступны выпадак:

Хлопчык 8 год, вучань I класа. Хлопчык два гады быў у дзетсадзе. Яго часта б'юць за тое, што дрэнна есць, абманвае, сваволіць, не рыхтуе ўрокаў. Спадчыннасць: бацька алкаголік і вельмі нервовы, матка спакойная. Дзіця мае затрымку ў развіцці. У раннім дзяцінстве давалі віно, наліўку. Быў раздражальны, плаксівы, успыльчывы. Даныя агляда: Астэнік з выразнымі слядамі рахіта, мае павялічаныя лімфатычныя залозы і лёгкую ўзбуджальнасць нервовай сістэмы.

Педагагічная характарыстыка: дысцыплінаванасць сярэдняя, Няздольны, патрабуе індывідуальнага падыхода. Працуе толькі па дакладных паказаннях. Неакуратны, нецярплівы, вельмі слаба запамінае, мае дрэнную паспяховасць. Не арыентуецца ў часе. Не можа раcказаць аб тым, што бачыў у кіно. Любіць гуляць

з малодшымі дзецьмі. Вельмі дрэнна разбіраецца ў акружаючым. За год вучобы не навучыўся чытаць, у пісанні толькі капіруе, прачытаць напісанае не можа. Лічыць зусім не ўмее. У час заняткаў зусім бязудзельны, усё пытаецца ці скора можна будзе ісці дадому.

Д ы я г н а з: «Разумова адсталы. Накіраваць у дапаможную школу».

Цяжкімі для выхавання ва ўмовах масавай школы з'яўляюцца дзеці неўроцікі. Развіццё гэтых дзяцей можа працякаць нармальна і дзеці захворваюць пад уплывам неспрыяючых сітуацый у жыцці, але наглядаюцца выпадкі, калі нервовасць праяўляецца з самага ранняга дзяцінства (канстытуцыйная нервовасць). У такім выпадку таксама маюць значэнне факты акружаючага асяроддзя, якія могуць паглыбляць або змяншаць праявы гэтага захварэння.

Дзеці гэтай групы па свайму разумоваму развіццю, здольнасцях і пасняховасці могуць не толькі не адставаць, але і ісці ўперадзе групы; дзякуючы асаблівасцям нервовай сістэмы, яны цяжка прыстасоўваюцца да школьнага рэжыма, парушаюць дысцыпліну і часам сваімі ўчынкамі дэзарганізуюць работу школы.

У дзяцей неўроцікаў наглядаецца хуткая стомленасць, зніжаная працаздольнасць, недастатковая ўвага і імкненні да змены ўражанняў. Адсюль зацікаўленасць жыццём вуліцы, кіно, імкненне ўхіляцца ад заняткаў, патрабуючых сістэматычнай працы і ўвагі. Часта ў неўроцікаў наглядаецца зніжаны апетыт, дрэнны сон, павышаная сексуальнасць, ананізм і начное нетрыманне мачы. Нярэдка заіканне у дзіцяці стаіць у сувязі з неўратычнымі з'явамі. У неўроцікаў бываюць беспадстаўныя жахі і трывогі. Дзеці баяцца, што настаўнік іх запытае і яны не змогуць адказаць, часта правяраюць ці правільна напісан урок, ці не забылі дома сшыткі і кнігі, увесь час знаходзяцца ў руху і непакоі. Уплыў неспрыяючых умоў надворнага асяроддзя можа весці к развіццю больш цяжка выразных неўратычных становішч, нават гістэрыі.

У неўроцікаў нярэдка бывае неўпэўненасць у саміх сабе. Але дзякуючы таму, што яны большай часткай нармальна развіты і маюць добрыя здольнасці, педагог можа падтрымаць дзіця перад самім сабой і ўсім класам, памагчы яму вызваліцца ад цяжкіх перажыванняў і сазнання сваёй непаўнацэннасці. Павышаная чуллівасць да акаляючага і хваравітая ўражлівасць характэрна для дзяцей неўроцікаў і гэта настаўніку трэба ведаць, каб стварыць ім умовы, дзе менш было-б канфліктаў і крыўд, якія могуць выбіваць дзяцей з калеі на доўгі час.

Нерэдка ў дзяцей неўрапатаў наглядаецца так званыя «прыпадкі»—прыступы моцнага ўзбуджэння, пры якіх яны кідаюцца на пол, стукаюць нагамі, плачуць, крычаць, але ўвесь час не трацяць прытомнасці. Гэтыя прыпадкі заўсёды выклікаюцца якім-небудзь надворным раздражальным момантам, канфліктам, або

іншы раз прад'яўленымі да дзіцяці, параўнальна занадта высокімі, запатрабаваннямі і г. д. Прыпадкі заўсёды можна спыніць, калі правільна, чула і рашуча рэагаваць на іх. Не трэба ніколі паказваць дзіцяці, што гэтыя праявы робяць уражанне і палохаюць акружаючых, інакш яно можа гэтыя «прыпадкі» ператварыць у сродак для дасягнення пажаданай мэты і будзе рэагаваць імі на неспрыяючыя для яго сітуацыі.

Дзеці гэтай групы патрабуюць спецыяльных лекавых мерапрыемстваў і павінны накіроўвацца да псіханеўролага. Вельмі добра ўплывае на гэтых дзяцей прабыванне ў школе—санаторыі для псіханеўроцікаў. На жаль, у нас у БССР адпаведнага тыпа ўстаноў дагэтуль няма і ў цяжкіх выпадках дзеці пападаюць у школу для цяжка-выхоўваемых, а часцей зусім застаюцца пазашколай.

Ёсць дзеці псіхопаты, у якіх асаблівасці паводзін залежаць ад анамаліі характара. Гэта вельмі складаная група, якая асабліва ў адносінах да дзіцячага матэрыяла мала вывучана. У апошнія гады найбольш распаўсюджаная класіфікацыя псіхапатаў падзяляе іх на асобныя групы адпаведна некаторым псіхічным захворванням. Большае або меншае праяўленне псіхапатычных рысаў характара залежыць ад умоў асяроддзя, якое акружае вучня. І ў гэтым моманце захоўваецца магчымасць дадатнага выхаваўчага ўплыва на псіхапатычных дзяцей. У дзяцей-псіхапатаў назіраецца рад паталагічных асаблівасцяй характара. Ёсць групы, якія характарызуюцца частымі зменамі настроя, ад вясёлага актыўнага настроя яны лёгка пераходзяць у стан прыгнечанасці (цыклоідныя псіхопаты). Некаторыя дзеці праяўляюць упартасць, педантычнасць, лёгка раздражаюцца і не рэдка праяўляюць жорсткасць у адносінах да сваіх блізкіх і таварышоў. Часта гэта жорсткасць у асабліва выразнай форме выяўляецца ў адносінах да жывёл. Такім дзецям уласціва жаданне кіраваць, быць важакамі і яны лёгка могуць уплываць на іншых дзяцей у дрэнны бок, калі не будзе на гэта своечасовай і адпаведнай увагі з боку настаўніка (эпілептоідныя псіхапаты). Побач з гэтымі казіраюцца дзеці замкнутыя, так званыя «адзіночкі», якія прымаюць вельмі малы ўдзел у жыцці калектыва. Гэтыя дзеці жывуць у палоне сваіх фантазій, яны не рэдка трымаюць сябе незвычайна, у іх сустракаюцца дзіўныя ўчынкі (шызоідныя псіхопаты) і інш.

Сярод псіхапатаў прафесар Ленц выдзяляе асобную групу дзяцей, якія з'яўляюцца вельмі неўстойлівымі; яны надзвычай лёгка паддаюцца дрэннаму ўплыву. Для такіх характэрна іх канфліктнасць, афектыўнасць, паталагічная хлусня, нахільнасць да бадзяння, ненармальныя палавыя ўзбуджэнні і г. д. Як раз гэтая група найбольш частая сярод дзяцей.

Вось прыклад: К.—хлопчык 8 год, вучань 1 класа. Умовы жыцця сярэднія. Хлопчык брудны, вопратка рваная. Быў у дзетсадзе, адкуль часта ўцякаў. Бацька часта б'е хлопчыка

за яго ўпартасць. Два месяцы не хадзіў у школу—не хацеў. Не рыхтуе ўрокаў, не ведае нават, што задаюць на дом. Любіць майстраваць. Узаемаадносіны паміж бацькамі дрэнныя. Хлопчык збівае малодшага брата, б'е матку, зусім яе не слухае. Калі злуецца, б'е вокны і дзверы, рве вопратку. Матка яго называе «шкоднікам». Злы, упарты, настойлівы. Акцябронак, але ў атрад не ходзіць. Мае сувязь з беспрытульнымі. Маніць крадзе. У школе дэзарганізатар, не зацікаўлен вучобай, зрывае заняткі, збівае дзяцей. Пры жаданні мог бы працаваць. Працуе церпяліва, самастойна. Школьная паспяховасць дрэнная.

Спадчыннасць: Алкагалізм з боку маткі і бацькі. Брат бацькі—эпілептык. Бацька хворы туберкулёзам, неўрастэнік. Матка нервовая, злая, упартая. Развіццё хлопчыка нармальнае. Хварэў на адзёр, плеўрыт. У раннім дзяцінстве адзначаны канвульсіі, займаўся ананізмам.

Медагляд: Невялікія сляды рахіта. Фізічнае развіццё сярэдняе.

Дыягназ: Псіхапатыя, падлягае пераводу ў школу для цяжкавыхоўваемых.

У адносінах да дзяцей гэтых груп павінен быць асабліва асцярожны падыход пры вырашэнні пытання аб іх спецыяльным накіраванні. Справа ў тым, што асяроддзе мае вялікі ўплыў на гэтую групу дзяцей і адпаведным індывідуальным падыходам да вучня настаўнік можа зрабіць многае. Настаўнік павінен улічыць і фактары акружаючага асяроддзя вучня, асаблівасці яго характара. Вывучаючы зацікаўленасць вучня і накіроўваючы яе па правільнаму шляху, ён можа садзейнічаць выпраўленню дзіцяці, зніжэнню паталагічных рысаў яго характара. Часта, асабліва пры неўрозах, корні неправільных паводзін крыюцца ў ненармальных сямейных адносінах (дрэнныя ўзаемаадносіны бацькоў, звязаныя з цяжкімі перажываннямі дзіцяці, сямейныя сцэны, сведкам якіх з'яўляецца дзіця і т. д.). У такіх выпадках настаўнік сваім чулым падыходам можа ўздзейнічаць і на дзіця і на бацькоў.

Выхаваўчая работа педагога з псіхапатычным вучнем, пры ўліку яго зацікаўленасці і асаблівасцяй характара можа даць чоткі карысны кірунак усёй яго дзейнасці. Энергія вучня, якая ідзе на хуліганскія ўчынкі, бойкі, жаданне кіраваць дзецьмі і т. д., можа быць пераключана і выкарыстана для грамадска-карыснай работы. Палітэхнічная праца ў майстэрні садзейнічае выпрацоўцы дысцыплінаванасці і прызвычайвае да сістэматычнай работы. Піонерарганізацыя і дзіцячае самакіраванне (пры ўдзеле настаўніка) могуць дапамагчы пераключэнню энергіі дзіцяці, зацікавіць і ўцягнуць у кола грамадскіх і карысных інтарэсаў. Дзеці з «цяжкіх» могуць стаць «лёгкімі» памоцнікамі ў арганізацыі работы групы. З іх выпрацоўваюцца здольныя важатыя, якія карыстаюцца аўтарытэтам у дзяцей, дзеткоры, культпрацаўнікі і г. д. Сазнанне адказнасці выконваемай работы, добрыя поспехі ў вучобе садзейнічаюць знішчэнню неўпэўненасці ў сабе,

чахаў, трывожнасці і папярэджваюць ад дэзарганізуючых учынкаў. Безумоўна, поспех выхаваўчай работы залежыць як ад настаўніка, так і ад ступені захварэння вучня; у выпадках рэзка выражанай псіхапатыі, або цяжкага нэўроза, мы павінны накіроўваць дзяцей у спецыяльныя школы—санаторыі для псіханеўротыкаў на большы або меншы тэрмін.

Аб дзецях псіхічна-хворых, цяжкіх эпілептыках, шызафрэніках і інш. мы зараз гаварыць не будзем. Гэтыя дзеці павінны быць накіраваны ў адпаведныя лекавыя ўстановы, патрабуюць зусім іншых метадаў выхавання і ў першую чаргу лячэння.

Мы ахапілі тыпы цяжкіх дзяцей, якія найбольш часта сустракаюцца. Прыведзенае падзяленне дзяцей з'яўляецца ў пэўнай ступені ўмоўным. У сапраўднасці мы ў цяжкага дзіцяці можам назіраць складанейшыя варыяцыі, выходзячыя за межы якой-небудзь адной з прыведзеных груп.

Задача настаўніка выдзеліць з групы цяжка-выхоўваемае дзіця і скласці сабе ў рэзультаце ўсебаковага вывучэння яго пэўную думку аб даным вучні. Пастаноўка правільнага дыягназа, аднясенне да той ці іншай групы цяжка-выхоўваемасці і накіраванне ў спецыяльную выхаваўчую ўстанову, павінна быць праведзена пры ўдзеле педалога і ўрача псіханеўролага.

Пры накіраванні настаўнік павінен даслаць педагагічную характарыстыку дзіцяці з усімі заўвагамі і данымі аб вучні, якія яму ўдалося сабраць. Калі-ж вучань не патрабуе спецыяльнага накіравання, настаўнік павінен, параіўшыся са спецыялістам, ужыць усе мажлівыя мерапрыемствы, каб выправіць вучня, падтрымаць і дапамагчы яму ў вучобе, выпрацаваць з яго добрага, дысцыплінаванага і свядомага члена школьнага калектыва.

У заключэнне мы лічым неабходным зазначыць, што вельмі часта настаўнікі перапавялічваюць сапраўдную колькасць цяжкіх дзяцей у групе. Зусім не рэдка дзеці накіроўваюцца да педалога як вельмі цяжкія, а пры аналізе аказваецца, што прычыны «цяжкіх» паводзін вучня зусім не ў якіх-небудзь асаблівасцях яго арганізма, а ў неправільнай арганізацыі педпрацэса. Дэзарганізатарскія ўчынкі, дрэнная паспяховасць і т. д. часта залежаць ад недастатковай зацікаўленасці вучобай і дзеці сваім балаваннем як-бы пратэстуюць супроць выклікаемай шаблоннымі школьнымі заняткамі нуды, адсутнасці стымулаў для развіцця сваіх здольнасцяй. Як толькі такі вучань трапляе да вопытнага настаўніка, што ўмее індывідуальна падыйсці да дзіцяці, уцягнуць яго ў працу, зацікавіць школьным жыццём, — вучань рэзка змяняецца і становіцца часамі нават прыкладам для астатніх.

Нават, калі мы маем сапраўдную «цяжкасць» у паводзінах вучняў, то і тады ад правільнай арганізацыі педпрацэса ў значнай меры залежыць далейшае развіццё вучня. У гэтым выпадку мае важнае значэнне метадалагічна правільная пастаноўка ўсёй

праблемы цяжкага дзяцінства, прычын праходжання і дынамікі развіцця цяжкіх дзяцей.

Памылковая ідэалістычная пастаноўка пытання аб спадчыннасці, якая адбілася ў працах рада аўтараў (Ламбразо, Марэль), павяла да погляда на цяжкіх дзяцей, як асуджаных на дэгенерацыю дзякуючы сваёй біалагічнай непоўнацэннасці. А адсюль недалёка да сцвярджэння таго, што цяжкія дзеці мала могуць развівацца, і таму мерапрыемствы ў адносінах да іх павінны абмяжоўвацца ізаляваннем «каб яны не перашкаджалі працаваць іншым»...

У нашай літаратуры аналагічныя погляды выяўлены ў працах Грыбаедава і яго вучняў. Такі погляд з'яўляецца палітычна шкодным, ён адцягвае перавыхаванне соцыяльна пасіўных і зніжае творчую значымасць соцыялістычнай сістэмы выхавання. Мы павінны імкнуцца да найбольш поўнага развіцця ўсіх псіхафізіалагічных магчымасцяй цяжкіх дзяцей. Сапраўды, практыка выхавання цяжкіх дзяцей паказала магчымасць выхаваўчага ўплыва на іх і пацвердзіла значэнне фактараў надворнага асяроддзя ў развіцці цяжкіх дзяцей.

Некрытычнае, механістычнае прымяненне тэставай методыкі для ацэнкі разумовага развіцця дзяцей павяла да таго, што ў групы разумова адсталых часта траплялі дзеці з замаруджанымі тэмпамі развіцця, або і зусім нармальныя. Гэта павяло да перапавялічэння колькасці разумова адсталых дзяцей.

Мэта і памеры гэтага артыкула не дазваляюць нам больш падрабязна спыніцца на крытычным аглядзе розных буржуазных поглядаў на праблему цяжкага дзяцінства. Толькі ў нас, ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва, гэтая проблема чэрпае са штодзённага акружаючага жыцця мажлівасці навуковага абгрунтавання і практычнага вырашэння. Толькі ў нас мы маем выразнейшыя прыклады перавыхавання цяжкіх дзяцей, ператварэння іх у свядомых людзей, адданых справе соцыялістычнага будаўніцтва.

---

*В. Коран*

# Антырэлігійная прапаганда ў сістэме вясковых палітасветных установ

У ліку задач па соцыялістычнаму перавыхаванню працоўных надзвычайна важнае месца займае антырэлігійная прапаганда барацьба супроць рэлігіі.

XVII партыйная канферэнцыя паставіла задачу на працягу 2-й пяцігодкі знішчыць перажыткі капіталізма ў эканоміцы і сазнанні людзей. Рэлігія з'яўляецца адным з найбольш небяспечных і ўпартых перажыткаў эксплаататарскага лада, барацьба

з ёй складае неад'емную частку масавай работы паліт-асветных устаноў. Першая пяцігодка была перыядам масавага адыхода працоўных ад рэлігіі, магутнага роста бязбожніцтва ў СССР. Колькасць членаў СВБ з 1929 г. па 1932 г. павялічылася на пяць мільёнаў чалавек, больш чым ў 10 раз.

Той-жа самы малюнак мы маем ў БССР. За перыяд пяцігодкі бязбожны рух ў БССР вырас у пяць разоў (апрача арміі юных бязбожнікаў, якая налічвае ў сваіх радах каля 100.000 чалавек). У БССР на працягу 1930, 1931, 1932 гг. па патрабаванню працоўных было закрыта і прыстасавана пад культурныя ўстановы 673 царквы, 456 сінагог, 32 касцёлы і 62 маліцвенныя дамы.

У краіне соцыялізма шпарка адміраюць рэлігійныя звычаі і абрады. Рэлігія выцясняецца поспехамі соцбудаўніцтва, навукай, тэхнікай растучай пролетарскай культуры. Працоўныя масы вызваляюцца ад перажыткаў капіталізма і паспяхова авалодваюць марксісцка-ленінскай тэорыяй.

У выніку ажыццяўлення большэвіцкіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва і ліквідацыі ў асноўным паразітычных класаў, асабліва шпаркімі тэмпамі на працягу першай пяцігодкі і першага года другой пяцігодкі ліквідуецца аснова, якая параджае рэлігійнасць.

Але не гледзячы на гэта мы яшчэ маем значную колькасць насельніцтва, асабліва на вёсцы, якое не вызвалілася ад рэлігійных прадрассудкаў. Вось чаму прапаганда атэізма, шырокая паліт-выхаваўчая і бязбожная работа набывае асабліва важнае значэнне ў справе перавыхавання мас на працягу другой пяцігодкі.

Трэба памятаць, што ўсякае паслабленне антырэлігійнай работы, стаўка на самацёк у тэтай справе з'яўляецца самым махровым апартунізмам, здачай пазіцый класаваму ворагу. Патрэбна весці самую рашучую барацьбу са ўсякімі спробамі паслаблення антырэлігійнай работы.

З рэлігіяй неабходна змагацца таму, што яна служыць эксплаататарскім класам і з'яўляецца тормазам у соцыялістычным будаўніцтве. Яна перашкаджае бязлітаснай барацьбе працоўных супроць класавага ворага. Яна затрымлівае культурны рост працоўных, не дае ім мажлівасці аўладаць навукай і тэхнікай. Рэлігійныя звычкі (п'яныя святы, дзікія абрады: хрышчэнне, абразанне, калдаванне і інш.) прыносяць велізарную шкоду ўсёй народнай гаспадарцы і здароўю працоўных. Рэлігія стаіць на варце прыватнай уласнасці і наогул асноў капіталізма, адцягвае ад задач соцыялістычнага будаўніцтва ўвагу працоўных, размагнічвае і паслабляе іх волю ў барацьбе з класавым ворагам.

Веруючы, у якім моцна заселі рэлігійныя прадрассудкі, не можа быць энтузіястам і паўнацэнным будаўніком соцыялізма.

Класавыя ворагі і іх агентура—папы, ксяндзы, рабіны, сек-

танты ды інш. выкарыстоўваюць рэлігію і яе арганізацыі ў барацьбе супроць дыктатуры пролетарыята: «Усе рэлігіі, усе і ўсякія іхнія рэлігійныя арганізацыі з'яўляюцца нічым іншым, як сродкам буржуазнай рэакцыі» (Ленін). Рэлігія і рэлігійныя арганізацыі ўсіх колераў з'яўляюцца непрымірымым ворагам сусветнага рэволюцыйнага руху. Крыжовы паход на СССР папы Пія XI, рэакцыя супроць працоўных і фашысцкі тэрор за граніцай, якія праводзяцца з благаславення духавенства, яскрава сведчаць, што ўсе рэлігіі і рэлігійныя арганізацыі ёсць органы буржуазнай рэакцыі, служаць справе эксплаатацыі і адурманьвання рабочага класа.

Кожная палітасветная ўстанова, клуб, хата-чытальня, чырвоны куток і ячэйка СВБ павінны праводзіць сістэматычную работу па выкрыццю контррэволюцыйнай сутнасці рэлігіі і выяўленню яе шкоднасці для соцыялістычнага будаўніцтва.

У гэтай рабоце трэба выходзіць з таго, што класавая барацьба ў перыяд другой пяцігодкі не толькі не патухае, а наадварот у звязку з канчатковай ліквідацыяй класаў на некаторых участках соцыялістычнага будаўніцтва ўзмацняецца.

Рэлігія заўсёды была надзейнай зброяй у руках эксплаататарскіх класаў, пры дапамозе якой ворагі працоўных замацоўвалі сваё панаванне. Рэлігія пры дыктатуры пролетарыята ёсць зброя ў руках разгромленых, але да канца не дабітых рэштак капіталістычных элементаў.

Папы і іншыя служкі культа ўсяляк імкнуліся сарваць калектывізацыю, напрыклад, распускалі чуткі аб тым, што таму, хто пашоў у калгас, не мінаваць пакарання боскага і г. д. Класавы вораг у сваіх выступленнях супроць мерапрыемстваў партыі і ўрада на вёсцы часта дзейнічае пад рэлігійным прыкрыццём. Царквы, касцёлы, сінагогі і маліцвенныя дамы з'яўляюцца гнёздамі контррэволюцыі. Пад відам выканання рэлігійных абрадаў, духоўнікі і кулакі праводзяць контррэволюцыйную работу супроць дыктатуры пролетарыята.

Палітасветныя ўстановы праз сваю сістэму агітацыі і прапаганды павінны рашуча выкрываць контррэволюцыйную роль рэлігіі. На канкрэтных прыкладах дзейнасці мясцовых служыцеляў культа, сектанскіх арганізацый і на аснове агульна-гістарычных даных трэба паказаць, як царква і рэлігія змагаліся і змагаюцца супроць Кастрычніцкай рэволюцыі і мерапрыемстваў совецкай улады.

Зараз глыбокую антырэлігійную работу неабходна павесці па лініі соцыялістычнага перавыхавання мас, на іх ўзбраенне марксісцка-ленінскім светапоглядам. Гэта значыць барацьба з рэлігіяй адначасова з выкрыццём контррэволюцыйнай ролі царкоўнікаў, праводзіцца шляхам узмацнення марксісцка-ленінскага выхавання, унядрэння ў масы навукі і тэхнікі, новых форм працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва.

Палітасветныя ўстановы павінны будаваць сваю антырэлігійную прапаганду на аснове матэрыялістычнага тлумачэння з'яў прыроды і грамадства, унядрэння ў масы ведаў па ленінізму, аграноміі, тэхніцы, фізіцы, хіміі і іншых навук у сувязі з іх практычным прымяненнем.

Рэлігія з'яўляецца самым рэакцыйным і шкодным капіталістычным перажыткам, які прыносіць велізарную шкоду соцыялізму. Дапамагчы вызваліцца масам веруючых ад рэлігіі, прыцягнуць іх да актыўнага ўдзелу ў соцыялістычным будаўніцтве з'яўляецца самай адказнай і пачэснай задачай палітасветных устаноў і ячэек СВБ на даны перыяд. Што азначае вызваліць веруючых ад рэлігійных ланцугоў?

Гэта значыць перш за ўсё—ліквідаваць сярод іх непісьменнасць і малапісьменнасць, даць ім магчымасць пазнаваць з'явы праз кнігу, газету і наогул друкаванае слова.

Трэба, далей, уцягнуць іх у розныя гурткі (агра-тэхгурток, палітгурток і інш.), паступова прыцягваючы ў ячэйку СВБ. Неабходна дабіцца ўцягнення іх у актыўны ўдзел ў соцыялістычным будаўніцтве праз унядрэнне соцспаборніцтва і ўдарніцтва, узмацніць інтэрнацыянальна-класавае выхаванне сярод працоўных.

Патрэбна праводзіць шырокае знаёмства з міжнароднымі падзеямі. На фоне гэтых падзей асабліва ярка выступае класавы характар рэлігіі.

Глыбокі эканамічны крызіс капіталізма, як ніколі абвастрыў супярэчнасці паміж групамі імперыялістычных драпежнікаў, давёў да крайняй рысы супярэчнасць паміж працай і капіталам, паміж буржуазіяй і пролетарыятам. Ужо чатыры гады капіталізм б'ецца ў цісках крызіса, шукаючы выхада, духоўнікі ўсіх рэлігій і веравызнанняў «угадваюць» і прадвяшчаюць аб «росквіце» капіталізма, які аднак немінуча ідзе да сваёй гібелі. Страх банкроцтва і гібелі ахапляе ўсё большыя колы капіталістычных класаў, сярод якіх назіраецца ўзмацненне рэлігійных вераванняў.

Зусім іншы малюнак мы маем сярод рабочага класа. Пролетарыят, які асуджан капіталізмам на голад і нэндзу, асазнаў, што выхад з галечы і голада знаходзіцца не ў апеляцыі да бога, а ў непрымірымым класавым змаганні з буржуазіяй, за дыктатуру пролетарыята, у рашучым разрыве і барацьбе з рэлігіяй, за рэволюцыйны пролетарскі светапогляд. Сярод рабочага класа ў капіталістычных краінах мы маем масавы адыход пролетарыята ад рэлігіі.

Гэта неабходна ўлічваць у антырэлігійнай прапагандзе. Трэба ўзмацніць пролетарскую салідарнасць паміж працоўнымі ўсяго света, мацаваць адзінства інтарэсаў рабочых, да якой бы яны нацыі не належылі.

Духоўнікі ўсіх рэлігій вякамі ўкаранялі нянавісць да іншых

нацыянальнасцяй. Пагромы на яўрэяў, разня армян, розныя крыжовыя паходы і інш. усё гэта праводзілася пад сцягам рэлігіі, у імя капітала. Агнём і мячом буржуазія пры дапамозе духавенства заваёўвала сваё панаванне. На штучна распальваемай нацыянальнай варожасці клас эксплаататараў будаваў свой добрабыт і панаванне над цёмнымі адурманенымі рэлігіяй масамі. Класавы вораг і цяпер спрабуе выклікаць нацыянальную варожасць паміж працоўнымі розных нацыянальнасцяй СССР.

Адсюль вынікае неабходнасць руйнуючай барацьбы з нацыяналізмамі розных колераў. Накіроўваючы галоўны агонь супроць беларускага нацдэмакратызма як галоўнай небяспекі на даным этапе ва ўмовах БССР, мы адначасова не павінны паслабляць, а ўзмацніць барацьбу з вялікадзяржаўным шавінізмам і мясцовымі нацыяналізмамі розных колераў.

## Узмацнім работу ячэек СВБ

У адпаведнасці з задачамі антырэлігійнай прапаганды на вёсцы павінна быць перабудавана дзейнасць палітасветных устаноў, нізавых бязбожніцкіх арганізацый, работа якіх не знаходзіцца на належнай вышыні. На самай справе шмат ячэек СВБ і палітасветных устаноў зусім не праводзяць антырэлігійна-выхаваўчай працы сярод сваіх членаў, ужо не гаворачы аб насельніцтве.

Падамо некалькі прыкладаў:

У Люксембургскім с/с, Ельскага раёна, антырэлігійная работа ячэйкай СВБ і домам соцкультуры зусім не праводзіцца. У Мазыршчыне антырэлігійная работа таксама знаходзіцца ў загоне. У Горацкім раёне старшыня калгаса «Ваўкалакі» Кабакоў П. у парадку падрыхтоўкі да сяўбы вылучыў калгаснікаў для адвоза насення да папа для «асвяшчэння». Назаўтра не давяраючы вылучаным калгаснікам сам павёз 7 пудоў жыта папу за 18 клм.

Такія прыклады далёка не рэдкія, іх можна знайсці ў многіх раёнах. Гэта яскрава характарызуе бяздзейнасць ячэек СВБ.

Што з гэтага вынікае? Неабходна звярнуць самую сур'ёзную ўвагу на работу ячэек СВБ, забяспечыць іх жывым, аперацыйным кіраўніцтвам з боку цэнтральнага і раённых Советаў СВБ. Трэба прыцягнуць для работы ў гурткі бязбожнікаў самы шырокі вясковы актыў—настаўнікаў, вучняў, калгаснікаў.

Ячэйка СВБ павінна праводзіць масавую, антырэлігійную прапаганду сярод сваіх членаў і шырокай калгаснай масы (праз гурткі, чыткі, даклады, кіно, літаратуру і г. д.). Побач з выхаваўчай работай ячэйка ўцягвае сваіх членаў у соцыялістычнае будаўніцтва, разгортвае сярод іх соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Адсюль вынікае, што ячэйка павінна перанесці цэнтр цяжару сваёй работы ў масы калгаснікаў, на месца іх штодзённай работы ў вытворчую брыгаду.

## Антырэлігійную прапаганду ў калгасную вытворчую брыгаду

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на выхаваўчую работу ў брыгадзе. Прышоўшы ў калгас, многія сяляне прынеслі з сабой адсталыя звычкі, настроі і рэлігійныя забабоны, якія шкодзяць соцыялістычнаму будаўніцтву.

Рэлігійныя прадрасудкі праяўляюцца ў калгасе вельмі рознастайна. Класавы вораг падхоплівае іх, і скарыстоўвае ў сваіх мэтах супроць мерапрыемстваў партыі і ўрада на вёсцы. Напрыклад, увосень гэтага года ў многіх калгасах Пухавіцкага раёна кулакі распусцілі чуткі аб тым, што тэрмін ўборкі вызначаны ЦК КП(б)Б не рэальны таму, што надвор'е залежыць ад бога. Кулацкае спасыланне на надвор'е прынесла шмат шкоды; некаторыя калгасы чакалі сонца, а збожжа на полі перастойвала і асыпалася.

Можна было-б прывесці не мала падобных прыкладаў, калі кулацкія падпявалы пры дапамозе розных рэлігійных прадрасудкаў падрываюць дысцыпліну калгаснікаў, расслабляюць працоўны энтузіязм у брыгадзе.

Антырэлігійная прапаганда ў брыгадзе павінна праводзіцца на аснове растлумачэння канкрэтных фактаў праяўлення рэлігійных забабонаў у брыгадзе, калгасе. Калгаснікі павінны ўсвядоміць, што рэлігія патрэбна толькі кулаку, нашаму класаваму ворагу.

Кулак выкарыстоўвае рэлігію, як зброю класавай барацьбы. Калі, напрыклад, была апублікавана пастанова партыі аб уборцы, малацьбе і хлебаздачы дзяржаве, кулак растлумачыў яе такім чынам: «Большэвікі спяшаюцца з уборкай хлеба таму, што хутка будзе вайна. Але-ж хлеба сабраць ім не ўдасца, бог паслаў на іх непагоду».

Класавая барацьба, і ў прыватнасці проіскі царкоўнікаў у перыяд пабудовы соцыялізма ў СССР, абвастраюцца не з тэй прычыны, што вораг становіцца мацнейшым, а таму, што мы расцем і ліквідуем апошнія рэшткі капіталістычных класаў.

Брыгада, якая з'яўляецца асноўным звяном калгаснай вытворчасці, павінна стаць цэнтрам інтэрнацыянальна-класавага і антырэлігійнага выхавання калгаснікаў.

## За ўдарныя бязбожныя брыгады

Вопыт антырэлігійнай работы на фабрыках і заводах за мінулыя гады паказаў, што бязбожныя брыгады адыгрываюць велізарную ролю ў справе перавыхавання шырокіх рабочых мас у духу комуністычнай свядомасці, у справе падняцця вытворчасці працы. У соцыялістычнай прамысловасці—на фабрыках, на заводах і новабудоўлях у сучасны момант працуе больш 4000 удар-

ных бязбожных брыгад. Бязбожнікі-ўдарнікі паказалі цуды соцыялістычнага будаўніцтва. Рукамі ўдарнікаў-бязбожнікаў з гонарам выканана першая пяцігодка за 4 гады. Вынікам іх дзейнасці з'яўляюцца буйнейшыя гіганты соцыялістычнай індустрыі. Ударныя бязбожныя брыгады далі рэкордныя паказчыкі працы. Так, напрыклад: «Бязбожнікі-ударнікі Днепрабуда ўстанавілі сусветны рэкорд кладкі бетона і клёпкі турбін, перавысіўшы амерыканскія нормы. Замест 150 клёпак бязбожнікі-ўдарнікі дабіліся 340 клёпак у дзень. Бязбожныя брыгады выканалі клёпку турбіны за 4 дні замест 7 дзён».

Бязбожная ўдарная брыгада на Кузнецкбудзе пабіла сусветны рэкорд кладкі агнеўпора ў коксавых печах, укладваючы 1,3 тоны на чалавека ў змену замест 0,6 т па норме.

«На Чэлябінабудзе бязбожнікі-ўдарнікі, на чале з брыгадзірамі Капралавым і Манахавым паставілі сусветны рэкорд: замест 220 замесаў бетона, далі 500».

Ёсць шмат прыкладаў узорнай работы бязбожных брыгад на прадпрыемствах горада Менска і іншых гарадах БССР.

Акрамя гэтага мы маем не мала прыкладаў ударнай работы бязбожнікаў у калгасах. У калгасных брыгадах людзі перавыхоўваюцца, становяцца ўдарнікамі-бязбожнікамі, перадавікамі соцыялістычнай сельскай гаспадаркі.

За прыкладамі не трэба хадзіць далёка, іх можна знайсці ў кожным раёне БССР. Не мала калгаснікаў, якія парвалі з рэлігіяй, уступілі на шлях заможнага соцыялістычнага жыцця. Вы іх знойдзеце ў Случчыне, і ў Меншчыне, у Віцебшчыне і ў Магілеўшчыне.

Там, дзе няма месца рэлігіі, дзе калгаснікі працуюць аддана і сумленна,—яны няўхільна ідуць да лепшага жыцця, без галечы і нэндзы. Вось чаму важнейшай задачай партыйных, комсомольскіх, прафесійных і палітасветных арганізацый разам з ячэйкамі СВБ з'яўляецца злучэнне антырэлігійнай прапаганды з вытворчай працай у брыгадзе. Формай такога спалучэння з'яўляецца ўдарная бязбожная брыгада.

## Формы і метады антырэлігійнай прапаганды ў палітасветных установах

Барацьбу з рэлігіяй павінен весці не толькі Саюз ваяўнічых бязбожнікаў, але і ўсе іншыя грамадскія і культурна-палітычныя арганізацыі і ўстановы.

У праграме Комінтэрна сказана: «Пролетарская ўлада, дапускаючы свабоду веравызнання і знішчаючы прывілеяванае становішча раней пануючай рэлігіі, вядзе ўсімі сродкамі антырэлігійную прапаганду і перабудоўвае ўсю выхаваўчую і асветную работу на базе навуковага матэрыялістычнага светапогляда». Мацнейшым сродкам антырэлігійнай прапаганды з'яўляецца бязбожная кніга.

Трэба наладзіць прасоўванне ў масы антырэлігійнай і навуковай кнігі перыядычнага бязбожнага друку. Для гэтага палітасветустановы павінны выпісваць у дастатковай колькасці антырэлігійную літаратуру. Але гэтага мала. Для таго, каб літаратура ахвотна разбіралася чытачом, патрэбна праводзіць работу вакол кнігі, газеты, часопіса, зацікавіць імі калгасніка. У кожнай хаце-чытальні павінны быць рэкамендацыйныя спісы бязбожнай літаратуры, спісы з указаннем паасобных артыкулаў або раздзелаў кнігі. Акрамя гэтага патрэбна арганізаваць выстаўкі антырэлігійнай літаратуры, якія пры адпаведнай растлумачальнай рабоце прыцягнуць да сабе чытачоў.

Якія-ж кнігі трэба рэкамендаваць калгаснаму чытачу?—Гэта— кнігі, часопісі і газеты, што напісаны жывой, папулярнай, зразумелай мовай, падаюць жыццёвыя праўдзівыя факты аб нашых дасягненнях у соцыялістычным будаўніцтве, выкрываюць контррэволюцыйную ролю рэлігіі, высвятляюць яе паходжанне і г. д.

Асаблівую ўвагу трэба звярнуць на распаўсюджанне перыядычнага бязбожнага друку. Палітасветустановы павінны самі выпісваць і вербаваць падпісчыкаў на бязбожны перыядычны друк (газета «Бязбожнік», часопісі «Антирелигиозник», «Дэр апікойрэс», «Ваяўнічы бязбожнік»—на польскай мове).

Відамі работы з бязбожнай перыодыкай могуць быць: а) чыткі паасобных артыкулаў і гутаркі па зместу прачытанага, б) выразкі малюнкаў для бязбожнага кутка і г. д.

Палітасветустанова павінна арганізаваць гурток бязбожных карэспандэнтаў. Гурток пасылае карэспандэнцыі аб стане антырэлігійнай прапаганды, аб росце бязбожніцтва, вылазках класавага ворага пад шыльдай рэлігіі ў цэнтральны друк, мясцовую насценгазету.

Кніга сама па сабе мяркуе наяўнасць падрыхтаванага чытача—толькі тады яна дасягне сваей мэты. На самай справе мы маем шмат калгаснікаў, якія без дапамогі не могуць разабрацца ў антырэлігійнай літаратуры.

Вось чаму палітасветныя ўстановы павінны не толькі прасунуць кнігу да чытача, але і навучыць яго разумець прачытанае, карыстацца кнігай. Найбольш адпавядаючай формай антырэлігійнай прапаганды з'яўляецца гурток бязбожніка, які ўзначальваецца вопытным і тэарытычна падрыхтаваным кіраўніком— культасветнікам.

Задачай гуртка з'яўляецца правядзенне планамернай сістэматычнай антырэлігійна-выхаваўчай работы сярод калгаснікаў па пэўнай праграме. Антырэлігійны гурток ў праграму сваёй работы ўключае не толькі агульны падыход да рэлігіі, але і шырокае засваенне прыродазнаўчых і грамадазнаўчых навук. Інакш кажучы, антырэлігійны гурток павінен будаваць сваю работу па выкрыццю рэлігіі, на падставе прыродазнаўства (хімія, біалогія, астраномія) і грамадазнаўства (вучэнне аб класах і класавай барацьбе, гістарычныя даныя аб зараджэнні рэлігіі і г. д.). Гур-

ток бязбожніка павінен дапамагчы калгасніку разабрацца ў тым ці іншым грамадскім пытанні або прыроднай з'яве.

Як арганізаваць працу антырэлігійнага гуртка ў калгасе, пры палітасветустанове? Перш за ўсё неабходна правесці падрыхтоўчую работу па растлумачанню задач гуртка, шырока апавясціць аб ім калгаснікаў і правесці запіс. Колькасць членаў не павінна перавышаць 30 чалавек.

Пры арганізацыі гуртка патрэбна ўлічыць адукацыю і развіццё запісаўшыхся. Улічыўшы падрыхтаванасць і развіццё трэба размясціць адных у групу мацнейшых, а другіх у групу менш падрыхтаваных—гэта дасць мажлівасць пабудаваць работу па прынцыпу паспяховасці. З больш моцнымі матэрыял можна праходзіць значна глыбей. У кожным гуртку абіраецца староста, у абавязак якога ўваходзіць вучот наведвання заняткаў, падрыхтоўка неабходных прылад, дапамога кіраўніку і т. д.

Праграма гуртка павінна складацца не больш, як з 6—10 тэм. Прыкладны план гэтай праграмы складаецца з наступных тэм:

1. Другая пяцігодка і барацьба супроць рэлігіі.
2. Фашызм і рэлігія—аплот сусветнага капітала.
3. Навука і рэлігія аб будове і паходжанні света.
4. Навука і рэлігія аб паходжанні і развіцці раслін, жывёл і чалавека.
5. Марксісцка-ленінскае вучэнне аб нараджэнні рэлігіі.
6. Паходжанне хрысціянства.
7. Сектанства.
8. Як змагацца з рэлігіяй.
9. СВБ і яго работа.

Вось, прыкладна, тыя першапачатковыя тэмы, якія ў гуртку неабходна прапрацаваць кожнаму калгасніку і працоўнаму аднаасобніку. Гэту праграму трэба разлічваць на 60—70 гадзін. Пры наліччы недастатковай падрыхтаванасці слухачоў найбольш адпавядаючым метадам работы з'яўляецца жывая разгорнутая гутарка па вызначанай тэме. Асноўным падручнікам з'яўляецца— «Антирелигиозный стабильный учебник».

Апрача гуртка бязбожніка ёсць яшчэ цэлы рад форм антырэлігійнай работы. З поспехам можа ўжывацца прапаганда атэізма праз кіно.

Ёсць многа кіно-фільм, якія ярка выкрываюць сутнасць і класавы змест рэлігіі на аснове канкрэтных жыццёвых і гістарычных фактаў («Крыж і маўзер» ды інш.). Палітасветныя ўстановы павінны ўмела падбіраць антырэлігійныя фільмы. Дзеля таго каб фільма мела добры поспех і засталася зразумелай масам, неабходна перад пачаткам дэманстрацыі правесці кароткую папулярную гутарку з гледачамі. У часе дэманстрацыі фільмы культпрацаўнік павінен паясняць незразумелыя кадры і малюнкі. Пры дапамозе кіно можна дабіцца значных поспехаў у галіне антырэлігійнага выхавання.

Тое-ж самае можна сказаць і пра скарыстанне радыо. Вялі-

кую ролю адыгрывае таксама самадзейнае мастацтва, якое часта знаходзіцца ў загоне. Праз агітку, прыпеўкі, жывую газету, у мастацкай, лёгка ўспрымаемай форме, можна і неабходна выхоўваць калгасніка і працоўнага аднаасобніка ў антырэлігійным напрамку. Насценны друк, плакаты, лозунгі і лістоўкі,—усе разнастайныя сродкі і формы палітасветработы даюць магчымасць разгарнуць шырока антырэлігійнае выхаванне, паставіць яго на належную вышыню.

Слабасць антырэлігійна-выхаваўчай работы ў значнай меры залежыць ад таго, што ў рабоце ячэек СВБ і палітасветных установ адсутнічае сістэматычнасць, часта пануе бесплановасць, самацёк і кампанейшчына. Пэўнае ажыўленне антырэлігійнай работы звычайна бывае ў дні антырэлігійных кампаній (антывялікодная, антыкалядная).

Нам патрэбна наладзіць сістэматычную, планамерную, антырэлігійную прапаганду, праводзіць яе аперацыйна, штодзённа, а не толькі ў дні рэлігійных свят.

Для правядзення антырэлігійнай работы павінна быць мабілізавана шырокая грамадскасць вёскі. Трэба стварыць бязбожны культасветны актыў, на чале з партыйнымі і комсамольскімі арганізацыямі.

У часе вялікадня, каляд і іншых рэлігійных свят павінна быць разгорнута шырокая мабілізуючая работа супроць прагулаў на вытворчасці, п'янства, разгільдзяйства і паслаблення працоўнай дысцыпліны, як праяў класава-варожай сутнасці рэлігіі. Агітацыя і прапаганда супроць рэлігіі павінны мабілізаваць масы на выкананне гаспадарча-палітычных задач, якія пастаўлены партыяй і ўрадам, на ажыццяўленне планаў соцыялістычнага будаўніцтва.

# КРЫТЫКА І БІБЛІЯГРАФІЯ

**_А. Афанасьеў._ Як рыхтавацца да ўрока.**

**_Ц. Бародзіч._ Методыка чытання і работы з кнігай у пачатковай школе**

Настаўніцтва масавай школы адчувае вострую патрэбу ў навейшай педагагічнай літаратуры, у першую чаргу па пытаннях методыкі выкладання. Улічваючы гэта, НДІ Комвыхавання і школьны сектар НКА за апошні час выдалі серыю папулярных кніжак у дапамогу настаўніку пачатковай школы.

Ліквідаваць «карэнны недахоп» школы і ўзброіць вучняў асновамі навук можна толькі пры ўмове стараннай падрыхтоўкі настаўніка да заняткаў. Апошні, як правіла, павінен перад кожным урокам дэталёва азнаёміцца з матэрыялам, рацыянальна спланаваць час, загадзя падрыхтаваць усе неабходныя дапаможнікі, прадумаць форму і характар урока, каб правесці яго з найбольшай эфектыўнасцю.

На жаль, гэтыя элементарныя ісціны дагэтуль не засвоены часткай настаўніцтва, якая недаацэньвае падрыхтоўку да заняткаў. У выніку,—нізкая якасць урока, які праходзіць аднастайна, па шаблону, без уліка педалагічных асаблівасцяй дзіцяці, недастатковая арыентыроўка настаўніка ў матэрыяле, яго няўменне з найбольшай прадукцыйнасцю скарыстаць вучэбны час, уцягнуць у работу ўсіх вучняў, прывесці іх да правільных, чоткіх і прадуманых вывадаў. Іменна ў гэтым, галоўным чынам, і крыюцца прычыны нізкай паспяховасці па радзе школ.

Брашура Афанасьева «Як рыхтавацца да ўрока» з'яўляецца каштоўным дапаможнікам для пачынаючага настаўніка. У ёй ён знойдзе рад карысных, метадычна абгрунтаваных указанняў аб тым, як палепшыць якасць выкладання, зрабіць яго даступным, цікавым і засваяльным для вучняў, забяспечыць на ўроку працоўную дысцыпліну ды інш.

Ілюструючы свае палажэнні прыкладамі з урокаў у 3-й групе па рускай мове, аўтар паказвае, якую падрыхтоўку трэба правесці настаўніку да заняткаў, абгрунтоўвае неабходнасць тэтай падрыхтоўкі. Ён зводзіць яе ў асноўным да папярэдняга вызначэння: а) аб'ёма матэрыяла, які падлягае прапрацоўцы на кожным канкрэтным уроку ў данай групе, б) метадаў работы з вучнямі на даным канкрэтным матэрыяле, в) вывадаў і рэзультатаў, да якіх павінны прыйсці вучні ў канцы ўрока, г) шляхоў замацавання прапрацаванага матэрыяла.

У большасці выпадкаў крыніцай ведаў і практыкаванняў для настаўнікаў і вучняў з'яўляецца адпаведны падручнік. Падкрэсліваючы надзвычайную важнасць скарыстання падручніка, аўтар, аднак, засцерагае супроць ператварэння яго ў адзіную крыніцу ведаў, супроць тэндэнцыі і рэцэдываў кніжна-слоўнага навучання, рэкамендуе ўвазе школ адпаведны дыдактычны матэрыял і наглядныя дапаможнікі.

Для развіцця самадзейнасці і ініцыятывы вучняў, уцягнення ў работу ўсяго школьнага калектыва, у брашуры раіцца рад прыёмаў, якія актыгізуюць выкладанне. Сюды адносяцца: змена відаў і форм работы на ўроку, элементы ілюстрацыйнасці, экскурсійнага, даследчага і іншых метадаў, драматызацыі і т. д.

Стварэнне працоўнай дысцыпліны ў класе залежыць аднак не толькі ад актывізацыі метадаў выкладання. Яно патрабуе цэлага рада арганізацыйных мерапрыемстваў, важнасць якіх падкрэслівае аўтар: своечасовай падрыхтоўкі ўсіх неабходных дапаможнікаў і прылад, умелага кіраўніцтва паводзінамі вучняў, тактычных паводзін самога настаўніка, сістэматычнага і паслядоўнага перахода ад аднэй часткі ўрока да другой.

Нарэшце, настаўнік даведваецца з брашуры як наладзіць улік паспяховасці вучняў у працэсе ўрока і задаванне ўрокаў на дом.

Брашура Ц. Бародзіча пад гучнай, многаабяцаючай назвай—«Методыка чытання і работы з кнігай у пачатковай школе» з'яўляецца скупой, схематычнай работай і далёка не вычэрпвае сваім зместам пастаўленай мэты.

Аўтар не падае хаця-б у агульных рысах педагагічнага абгрунтавання дзіцячага чытання, без чаго нельга правільна ставіць самы працэс навучання чытанню, выпрацаваць механізм апошняга і наладзіць правільнае скарыстанне кнігі ў пачатковай школе. Трэба ведаць асаблівасці і спецыфіку чытання дзіцяці ў перыяд аўладання граматай і пасля яго.

Недаацэнка ўзростных асаблівасцяй вучняў 1-га канцэнтра прыводзіць аўтара да асобных спрэчных сцвярджэнняў. Так, напрыклад, ён рэкамендуе ў радзе момантаў перад чытаннем твора «...замест уступнай гутаркі настаўніка і ўступнага слова—даваць класную або хатнюю пісьмовую работу (самастойную, І. З.) на тэму твора»..., гэта значыць, механічна пераносіць ў пачатковую школу прыёмы работы з кнігай у 2-м канцэнтры.

Якія творы і якім чынам вывучаць з дзецьмі на памяць, у якой ступені прыцягваць элементы драматызацыі, у якой увязцы з чытаннем знаходзіцца навучанне пісьму і мове, якая роля пазакласнага чытання ды інш.,—вось пытанні, якія ўзнікаюць у практычнага работніка пачатковай школы і застаюцца без адказа.

Агульнымі фразамі абыходзіць аўтар і тое, чым кіравацца пры выбары матэрыяла для чытання, накшталт: «Для пазакласнага чытання трэба падбіраць адпаведную літаратуру» (якую-ж? І. З.). Няма канкрэтных патрабаванняў да дзіцячай кніжкі,

якая, як вядома, павінна дапамагчы выхаваць адукаванага, усебакова развітага будаўніка бяскласавага соцыялістычнага грамадства, пролетарскага інтэрнацыяналіста, прышчапіць вучню навыкі калектывізма і свядомай дысцыпліны, запаліць маладога чытача імкненнем да аўладання ведамі, тэхнікай і т. д. Няма хоць-бы кароткага рэкамендацыйнага спіса дзіцячай літаратуры.

Не гледзячы на зазначаныя недахопы, брашура Бародзіча ўсё-ж можа быць скарыстана настаўнікам пачатковай школы, дасць некаторыя веды аб тым, як дасягнуць выразнасці чытання, аб прыёмах работы над дзелавым артыкулам і мастацкім творам і падрыхтоўцы самога настаўніка да чытання.

*І. Зельцар*

---

# ПРАГРАМЫ ДЛЯ ТЭХНІЧНЫХ ГУРТКОЎ

## ПАЯСНЯЛЬНАЯ ЗАПІСКА

### ДА ПРАГРАМ ТЭХНІЧНАГА СЕКТАРА Ц. Д. Т. С/Г. СТАНЦЫІ

Наша палітэхнічная школа павінна даць дзецям асновы навук, асновы тэхнікі. Задача-ж тэх. гурткоў станцыі і тых, якія арганізоўваюцца пры школах, заключаецца ў тым, каб, палажыўшы ў аснову веды, якія дае школа, накіроўваць інтарэсы дзяцей да тэхнікі, пашыраць іх тэхнічныя веды, даць элементарныя працоўныя навыкі, усім гэтым развіваючы творчыя здольнасці дзяцей.

Выходзячы з гэтага і складзены прыкладзеныя тэхнічныя праграмы для тэхнічных гурткоў.

Дасылаемыя ў раённыя станцыі і школы праекты праграм па радыо, электра, фото, механічнай апрацоўцы металю (гурток юнага канструктара) і дрэва (гурток мадэлявання) разлічаны для працы тэх. лабараторый нашых станцый, якія ў асноўным абслугоўваюць вучняў другога канцэнтра.

Кіраўнікі тэх. гурткоў пры раённых станцыях, школах не павінны механічна перанесці гэтыя праграмы ў свае гурткі, але прыстасоўваць іх да сваіх умоў. Праца гурткоў павінна быць падпарадкавана вучэбна-выхаваўчым задачам школы, будуецца на добраахвотным прынцыпе, выходзячы з інтарэсаў рабят. Асноўны ўпор ва ўсёй працы гурткоў робіцца на развіццё дзіцячай творчай думкі, ініцыятывы, вынаходніцтва і канструктарства, стымуляваць дзяцей да вывучэння навейшых дасягненняў навукі і тэхнікі.

Гурткі падрыхтоўваюць актыў юнтэхаў, які па сканчэнні праграмы пэўнага гуртка скарыстоўваецца пад кіраўніцтвам педагогаў, інструктароў вытворчага навучання для арганізацыі новых гурткоў, абслугоўваючых большую колькасць рабят.

Кожная праграма і тэмы яе вылічаны на пэўны тэрмін. У мэтах замацавання атрыманых ведаў па сканчэнні праграмы пэўнага гуртка альбо тэмы Д. Т. Станцыя раіць праводзіць масавыя формы работы (тэх. баі, тэх. віктарыны), якія папярэдне стала падрыхтоўваюцца. Для кіраўніцтва тэхгурткоў у школах вылучаюцца выкладчыкі фізікі, хіміі, інструктара вытворчага навучання, адначасова прыцягваючы І. Т. Р. і рабочых пэд. прадпрыемстваў.

За кансультацыяй па розных пытаннях зварочвайцеся да метад. сектара Ц.Д.Т.С./Г.С.

Свае заўвагі наконт праграм просім прыслаць ЦДТС, каб іх скарыстаць у далейшым пры іх прапрацоўцы.

Адрас: Менск, Выстаўка, Цэнтральная Дзіцячая Тэхнічная Станцыя.

# Праграма гуртка юнага электратэхніка

Праграма разлічана на 66 гадзін

**Арганізацыйная гутарка—1 гадз.**

1. Мэты і задачы гуртка.
2. Азнаямленне з праграмай работы і планам гуртка.
3. Выбары старасты гуртка і яго намесніка.

*Тэма 1-я.* **Для чаго нам патрэбна электрычная энергія**—2 гадз.

1. Праводзіцца ў форме ўводнай гутаркі, высвятляючы пытанне аб значэнні і ролі электрыфікацыі ўсёй нашай народнай гаспадаркі.
2. Роля Леніна ў справе электрыфікацыі краіны.
3. Нашы электрагіганты: Днепрабуд, Волхаўбуд, Асінбуд і інш.
4. Перспектывы развіцця электрыфікацыі ў нас і застой у капіталістычных краінах.

Наглядныя дапаможнікі: дыяпазітывы, дыяграмы.

*Тэма 2-я.* **Адкуль мы атрымліваем электрычнасць і як мы яе вымераем**—9 гадз.

Хімічная электрычнасць. Гальванічныя элементы. Тыпы іх: Вольты, Лекланшэ, Грэнэ, Бунзена і інш., як элементы, працуючыя з рознымі дэпалярызатарамі. Як элементы пабудаваны? Навошта патрэбен дэпалярызатар? Як элементы працуюць з дэпалярызатарамі і без яго? Электрычны ланцуг. Праваднікі і ізалятары. Ператварэнне эл. энергіі ў інш. віды энергіі—механічную, светавую. Як вымяраецца эл. ток? Што такое «вольт», «ампер»?

Прыклады: гальванаскоп, гальванометр, вольт-амперметр. Злучэнне элементаў раўналежна, паслядоўна і змешана ў батарэі; асвятленне ад элементаў. Пабудова эл. лямпачкі. Уключэнне і злучэнне эл. лямпачак: раўналежна, паслядоўна.

Машынная электрычнасць: дынама-машыны сталага і зменнага тока. Іх галоўныя часткі. Як яны працуюць? Электрычнасць ад цяпла. Тэрмаэлементы. Іх пабудова. Акумулятар—як вытворчы элемент. Яго пабудова. Параўнанне працы акумулятараў з працай элементаў.

Практычная праца:

Згатаўленне і зборка прасцейшых элементаў.

Разборка і аднаўленне старых элементаў. Вопыты з элементамі: накаліванне лямпачак, розныя злучэнні элементаў: вымераючы пры гэтым напруджанне, сілу тока.

Самастойная пабудова вымеральных прылад: гальванометра, вольтметра і амперметра.

Разборка і зборка дынамо-машыны. Вопыты з дынамо-машынай праф. Нэймана: пуск яе, уключэнне нагрузкі, вымярэнне напруджання і сілы тока.

Нагляднае дэталёвае азнаямленне з пабудовай і працай тэрмаэлементаў і акумулятараў, уключэнне апошніх раўналежна, паслядоўна, вымераючы пры гэтым іх напруджанне і сілу тока. Уключэнне ў іх ланцуг нагрузкі.

### *Тэма 3-я.* **Сігналізацыя**—6 гадз.

Магніты натуральныя і штучныя.

Уласцівасць магніта. Компас.

Магнітныя дзеянні тока. Гальванометр.

Эл. магніт. Яго прыстасаванне: эл. званок, эл. будзільнік.

Сігналізацыя ў быту, у ваеннай справе, у прамысловасці і ў транспарце.

Скарыстоўванне эл. магнітаў у прамысловасці, эл. магнітныя пад'ёмнікі, краны, сепаратары, номератары і г. д.

Практычная работа:

Згатаўленне магнітных спектараў. Пабудова эл. магніта. Вопыты з ім.

Састаўленне ланцуга: званок, кнопка-элемент.

Красленне схемы гэтага ланцуга.

Задачы на састаўленне некалькіх падобных ланцугоў з некалькімі званкамі і кнопкамі. Красленне гэтых схем. Знаходжанне і ўстраненне неспраўнасцяй у эл. званку, праводцы. Пабудова (самастойная) эл. званка, сігналізацыі, эл. будзільніка (прыстасаванне званка да «ходзікаў»).

### *Тэма 4 я.* **Сувязь**—9 гадз. Выхад у поле.

Тэлеграф. Яго вынаходніцтва, развіццё. Знаёмства з пабудовай апарата «Морзэ». Прыём і адпраўка тэлеграм. Азбука «Морзэ». Азнаямленне з інш. тыпамі: Бодо, Юзо.

Тэлефон. Яго вынаходніцтва. Пабудова тэлефоннай трубкі. Мікрафон. Як ён пабудаваны? Як працуе? Праца тэлефоннай станцыі. Азнаямленне з аўтаматычным тэлефонам. Значэнне эл. сувязі ў соцыялістычным будаўніцтве і абароне нашай краіны.

Практычная праца:

Згатаўленне мадэлі тэлеграфа «Морзэ», ключа. Праводка тэлеграфнай лініі, яе асаблівасці. Красленне схем-праводак тэлеграфнай лініі. Прыём і перадача тэлеграм мадэлямі.

Разборка і зборка тэлефоннай трубкі. Пабудова простага тэлефона з двух трубак Красленне схемы злучэння і ўключэння

трубак. Пераносныя тэлеграфныя і тэлефонныя станцыі. Прыстасоўванне іх у ваенных іграх. Вывучэнне азбукі «Морзэ». Прыём на слух.

*Тэма 5-я.* **Як правесці і зрабіць электраасвятленне**—12 гадзін.

Як ідзе эл. ток ад эл. станцыі да нашай лямпачкі. Якія і дзе ўжываюцца правады.

Разніца паміж праводкамі электрычнага званка і эл. лямпачкай. Электрамагнітная апаратура (ізалятары, забяспечнікі, патроны, выключацелі, штэпселя і інш.). Як яна пабудавана і як яна працуе. Тэхнічныя правілы праводкі. Праводка знадворная, унутраная. Што рабіць, калі пагасне свет. Што такое кароткае замыканне? Знаходжанне аварыі, пазбаўленне ад яе. Як улічваецца эл. энергія? Праверка лічыльнікам. Вольтава дуга. Яе прымяненне ў кіно, праекцыйным ліхтары, пражэктары. Правілы карыстання электрычным токам. Меры перасцярогі пры карыстанні электрычным токам.

Практычная частка:

Зрашчванне, пайка, ізаляванне правадоў. Зборка і разборка электр. мантажнай апаратуры.

Красленне схем праводкі з захоўваннем умоўных, тэхнічных абазначэнняў. Практычнае састаўленне вучэбных схем на дошках. Просты разлік праводкі эл. асвятлення. Праводка і рамонт эл. асвятлення. Вопыты з эл. лямпамі. Вучот спажывання эл. энергіі лямпамі, разлік кошту і праверка лічыльнікам. Лічыльнік, вопыты з ім: уключэнне пагрузкі. Пабудова лічыльніка. Пабудова вольтавай дугі, вопыты з ёй.

Згатаўленне станка для вольтавай дугі.

УВАГА. Пры вопытах з лямпамі, вольтавай дугой, пражэктарамі, ахоўваць зрок дзяцей.

*Тэма 6-я.* **Як атрымаць і скарыстаць цяпло з электрычнасці**— 8 гадзін

Як электрычны ток награвае праваднікі. Прымяненне цеплавых дзеянняў тока. Награвацельныя прылады ў быту. Іх пабудова, ужыванне, уключэнне, несправнасці, рамонт. Электрацяпло ў прамысловасці (выплаўка металю, здабыча алюмінія). Што такое электразварка.

Цеплавыя электрычныя вымеральныя прылады, іх пабудова. Просты разлік расхода эл. энергіі на награвацельныя прылады. Практычная праца. Пабудова простага кіпяцільніка. Вызначэнне вартасці кіпячэння вады, вызначэнне расхода энергіі. Пераробка простага чайніка ў электрычны. Электрычная печ. Яе разлік, чарцёж. Самадзейны электрычны паяльнік, яго разлік, чарцёж. Выпрабоўванне награвацельных прылад, разлік спажываемай імі энергіі і вызначэнне вартасці іх карыстання.

### *Тэма 7-я.* **Электрычнасць, як рухавік**—12 гадз.

Як пабудован электрычны матор сталага, зменнага тока. Перавага электрычнага рухавіка перад іншымі рухавікамі. Ужыванне эл. рухавіка ў прамысловасці, у сельскай гаспадарцы, у транспарце.

Як зрабіць да яго падводку, уключыць яго, змяніць старану зрашчэння. Просты разлік спажываемай ім эл. энергіі.

Практычная праца:

Разборка, зборка, рамонт эл. рухавіка. Згатаўленне дзейнічаючых мадэляй эл. рухавікоў сталага і зменнага тока, вопыта з імі. Красленне схем уключэння абмотак. Разлік энергіі, ужываемай эл. рухавікамі. Пабудова мадэляй электравоза, трамвая і інш.

### *Тэма 8-я.* **фабрыка эл. энергіі**—7 гадз.

Як вырабляецца эл. энергія на электрычнай станцыі. Як пабудаваны ТЭС і ГЭС. Рухавікі. Лініі передач. Размеркавальныя пабудовы. Гутарка з дыяпазітывамі.

Практычная праца:

Вопыты з дынамо-машынай пастаяннага і пераменнага тока. Пабудова мадэляй дынамо-машын. Мадэлі лініі перадач. Пабудова простых трансфарматараў. Просты разлік. Вопыты з трансфарматарам. Красленне схем уключэння трансфарматара, нагрузкі яго і г. д.

Размеркавальныя пабудовы, аўтаматы ўключэння і выключэння тока. Іх чарцяжы. Экскурсія на электрычную станцыю.

## ЛІТАРАТУРА

1. Фролов Р. Н. проф.—Курс электротехники ч. I, II і III.
2. Выпуск приложения к газете „Радио в деревне"—„Основы электротехники"
3. Серия „для ўмелых рук"—журнал „В мастерской природы".
   1) „Электрификация моего дома"
   2) Катушка Румкорфа
   3) Гальванические элементы
   4) Электрическая машина
   5) Аккумулятары
   6) Электрический телеграф
   7) Гальванотехника
   8) Электрический трамвай.
   9. Электромотор.
4. Основы электрического переменного тока.
   Инж. З. Гинзбург. Библиотека „Радиофронт" ОДС СССР.
5. Гюнтэр—Электратэхніка для ўсіх. Выд. ДВБ.
6. Для ўмелых рук, выд. ДВБ.

## Праграма і план працы

### гуртка лямпавікоў (малодш.) радыё-лабаратор.—26 заняткаў па 2 гадзіны

*Тэма 1-я.* **Арганізацыйны сход гуртка і абгаварэнне праграмы працы гуртка**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Уступная гутарка. Сапастаўленне лямпавага прыёмніка з дэтэктарным, лямпа-дэтэктар замест крышталя. Параўнанне контураў дэтэктарнага і лямпавага прыёмніка. Лямпавы прыёмнік і яго дэталі. Перароўка дэтэктарнага прыёмніка ў лямпавы.

*Тэма 2-я.* **Электрычнасць**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Электрычныя з'явы. Два рады электрычнасці. Рознасць патэнцыялаў. Электрычны ток. Праваднікі і дыэлектрыкі. Крыніцы электрычнасці.

Практычная работа: Дэманстрацыя элементаў і акумулятараў, як крыніц электраэнергіі. Выраб гурткоўцамі элемента тыпа КАМО.

*Тэма 3-я.* **Электрычны ток і магнітныя дзеянні тока**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Супраціўленне. Дзеянні электрычнага тока. Награванне правадніка токам. Магнітныя з'явы. Прыродныя і штучныя магніты. Узаемадзеянне магнітаў. Сталыя магніты. Магнітнае поле катушкі. Катушка з сардэчнікам. Саленоід.

Практычная работа: дэманстраванне магніта, магнітнага спектара. Вопыты з катушкамі Тамсона.

*Тэма 4-я.* **Законы электрычнага тока**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Закон Ома. Электрычныя адзінкі. Матэматычнае выражэнне закона Ома. Супраціўленне праваднікоў. Паслядоўнае ўключэнне супраціўленняў. Рэастат магазін. супраціўленняў.

Практычная работа: Разлік рэастата.

*Тэма 5-я.* **Працяг тэмы**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Падзенне напружання. Патэнцыометр. Паралельнае ўключэнне супраціўленняў.

Практычная работа: Дэманстрацыя падзення напружання.

### *Тэма 6-я.* Магнітная індукцыя. Пераменны ток

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Закон магнітнай індукцыі. Электрычныя машыны, пераменны ток, пульсіруючы ток.

Практычная работа: Вопыты з катушкай Тамсона і пастаянным магнітам.

### *Тэма 7-я.* Працяг тэмы. Пераменны ток. Трансфарматар

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Азнаямленне з дзеяннем пераменнага тока. Выпраўленне пераменнага тока. Трансфарматар. Каэфіцыент трансфармацыі. Катушка Румкорфа.

Практычная работа: Практычная праца з трансфарматарам.

### *Тэма 8-я.* Ёмкасць

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Кандэнсатар. Пераменны кандэнсатар. Злучэнне ёмкасцяй. Кандэнсатар у электрычным ланцугу. Паперы ў кандэнсатары. Слюдзяны кандэнсатар. Мікрафарада. Адзінкі ёмкасці.

Практычная работа: Дэманстрацыя вучэбнага кандэнсатара зменнай ёмкасці. Выраб слюдзянога кандэнсатара пастаяннай ёмкасці. Разборка і (пачынка) рамонт мікрафона.

### *Тэма 9.* Самаіндукцыя

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Катушка самаіндукцыі. Сакцыянаваная катушка. Паслядоўнае і паралельнае ўключэнне самаіндукцыі. Барыометр. Узаемаіндукцыя. Самаіндукцыя электрычнага ланцуга.

Практычная работа: Згатаўленне катушак самаіндукцыі і іх разлік.

### *Тэма 10-я.* Электрычныя хістанні і затухаючыя хістанні

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Электрычныя хістанні. Незатухаючыя і затухаючыя хістанні. Хістальны і амперыядычны контур. Іскравы разрад.

Практычная работа: выбар іскравага разрадніка.

*Тэма-11 я.* **Электрамагнітныя хвалі. І злучэнне электрамагнітнай энергіі**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Распаўсюджванне электрамагнітнага поля. Паглынанне электрамагнітных хваль. Рассеянне электрамагнітнай энергіі. Даўжыня хвалі. Вылучэнне энергіі. Радыеперадача і радыепрыём.

Практычная работа: Работа з прарываецелем і разраднікам Віна і яго выраб.

*Тэма 12-я.* **Вылучэнне электронаў накаленымі целамі. Двух і трохэлектродныя лампы**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Вылучэнне электронаў накаленымі целамі. Залежнасць ізлучэння ад тэмпературы. Ніць накала. Двухэлектродная лампа і трохэлектродная лампа. Характарыстыка трохэлектроднай лампы. Ток сеткі параметра.

Практычная работа: Дэманстрацыя паводзін лампы ў прыёмніках пры змене рэжыму лампы. Разгляд і параўнанне характарыстык розных ламп.

*Тэма 13-я.* **Працяг тэмы. Лампа ў ролі ўзмацніцеля.**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Узмацненне высокай і нізкай частаты. Тыпы ламп. Мікрафонны эфект. Граніца ўзмацнення.

Практычная работа: Дэманстрацыя работы розных тыпаў прыёмнай апаратуры.

*Тэма 14-я.* **Лампа дэтэктар і сетачнае дэтэктыраванне**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Дэтэктыраванне. Характарыстыка дэтэктара. Двухэлектродная лампа дэтэктар. Трохэлектродная лампа ў якасці дэтэктара. Ток і ланцугі сеткі. Блакіроўка ў ланцугу сеткі. Дэтэктыраванне незатухаючых хістанняў.

Практычная работа: Параўнанне лампы дэтэктара з крысталічным дэтэктарам на практыцы.

*Тэма 15-я.* **Рэгенератыўны прыём**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Прынцып рэгенерацыі. Рэгенерацыя і страты ў контуры. Асноўныя плюсы рэгенератара.

Практычная работа: Выбар схемы рэгенератара і дэманстрацыя работы гатовага рэгенератара.

### *Тэма 16-я.* **Працяг. Рэгенератыўны прыём**

Тэарэтычная прапрацоўка: Узнікненне ўласных хістанняў. Прызнак узнікнення хістанняў. Прыём на рэгенератар. Зацягванне абратнай сувязі. Прыём на біеніях. Звыш рэгенератар.

Практычная работа: Дэманстрацыя ўзнікнення ўласных хістанняў у рэгенератары і звязанага з ім змянення аднаго тока. Дэманстрацыя зацягвання абратнай сувязі на прыёмніках.

### *Тэма 17-я.* **Рэгенератыўны прыёмнік і яго работа**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Верныры ў рэгенератары. Уплыў лампы на работу рэгенератара.

Практычная работа: Дэманстрацыя розных схем прыёмнікаў.

### *Тэмы: 18, 19, 20, 21*—**Практыкаванні**

Практычная работа: Пабудова і іспыт рэгенератыўнага прыёмніка.

### *Тэма 22 я.* **Узмацненні на супраціўленнях**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Азнаямленне з тыпамі ўзмацніцеляў і выбары іх схем. Узмацненне па супраціўленнях. Узмацненне высокай і нізкай частаты. Двухкаскадны ўзмацніцель на супраціўленнях.

Практычная работа: Пабудова ўзмацніцеля на супраціўленнях.

### *Тэма 23-я.* **Працяг. Узмацненні на трансфарматарах**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Узмацненне высокай і нізкай частаты на трансфарматарах. Узмацненне нізкай частаты на трансфарматарах. Выбар тыпа трансфарматара. Шунціраванне абмотак.

Практычная работа: Выбар схемы ўзмацніцеля, адборка дэталяў і падрыхтоўка панелі.

### *Тэма 24-я.* **Практыкаванні**

Практычная работа: Пабудова ўзмацніцеля на трансфарматарах.

### *Тэма 25-я.* Гучнагаворачы прыём

Прынцып гучнагаворачага прыёма. Электрамагнітны рэпрадуктар. Электрадынамічны рэпрадуктар. Электрастатычны рэпрадуктар. Рупарныя і дыфузорныя рэпрадуктары. Скажэнні рэпрадуктара. Уздзейнічанне рэпрадуктара на лампы.

Практычная работа: Дэманстрацыя розных сістэм рэпрадуктараў і галоўнага тэлефона пры розных умовах нагрузкі.

### *Тэма 25-я.* Заключная

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Падагульненне работы гуртка. Адказы на пытанні.

## Праграма па радыо-лабараторыі

### гутарка для (пачынаючых) дэтэктарнікаў, разлічаная на 12 заняткаў па 2 гадзіны

### *Тэма 1-я.* Арганізацыйныя заняткі гуртка

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Радыо, як сродак сувязі. Радыо, як моцны сродак у руках пролетарскай дзяржавы ў справе комуністычнага выхавання мас. Значэнне радыо ў абароне краіны. Знаёмства гуртка з праграмай і выбар старасты гуртка.

Практычная праца: Агляд апаратуры і слуханне радыё-перадачы.

### *Тэма 2-я.* Сутнасць прыёма і перадачы

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Сутнасць радыо, перадачы і прыёма. Хваля, кілоцыклы, частата. Распаўсюджванне хваль доўгіх і кароткіх. Антэнная пабудова. Тыпы антэн, матэрыял для антэны.

Практычная работа: Выраб мадэляў антэнных установак.

### *Тэма 3-я.* Дэтэктарны прыёмнік

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Элементарнае паняцце аб дэтэктарным прыёмніку, яго дэталі, умоўныя знакі ў схеме і розніцы ў схемах.

Практычная работа: Выраб схемы прыёмніка і абгаварэнне дэталяў.

*Тэма 4-я.* **Катушкі**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Тыпы катушак у дэтэктарных прыёмніках. Варыометр, яго назначэнне.

Практычная работа: Клейка каркасаў катушак.

*Тэма 5-я.* **Дэтэктар**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: дэтэктар, яго прызначэнне і пабудова. Дзеянне дэтэктара.

Практычная работа: Працяг працы клейкі каркасаў і намоткі катушак.

*Тэма 6-я.* **Плоскі слюдзяны кандэнсатар**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Пабудова слюдзянога кандэнсатара. Кандэнсатары зменнай ёмкасці.

Практычная работа: Працяг работы.

*Тэмы: 7, 8, 9, 10 і 11*—**Мантаж**

Практычная работа: Мантаж дэтэктарнага прыёмніка.

*Тэма 12-я.* **Выпрабоўванне прыёмніка**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Работа і пабудова галоўнага тэлефона. Выпрабоўванне схемы прыёмніка. Хваробы прыёмніка і іх выпраўленне.

Кантрольныя пытанні.

ЛІТАРАТУРА

Сліжэўскі—Радыо-перадача і радыо-прыём.
Часопісі—„Радыо-фронт" „Радыо ўсім".
Справочник радио-любителя.

## Праграма

### гуртка „Юны канструктар"—узрост IV—IX гр.

Гурток «Юны канструктар» павінен з'яўляцца працягам гурткоў па ручной апрацоўцы металу і гуртка па такарнай справе.

Гурток ставіць сабе мэтай даць элементарныя веды па тэхнічнай механіцы і машыназнаўству; на аснове механічнага краслення канструкцыя і гатунак найпрасцейшых нерухомых і рухомых мадэляў. Для найлепшага азнаямлення з усім вучэбным

матэрыялам трэба выкарыстаць, акрамя практычных прац— наглядныя працы з «канструктарам» № 1—2—3—4.

### *Тэма 1-я.* **Уводная гутарка**—2 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Сутнасць тэхнікі. Роля вынаходніцтва ў соцыялістычным будаўніцтве. «Мекано», як адзін з прасцейшых відаў канструкцыі. Задачы гурткоў, арганізацыйныя пытанні.

### *Тэма 2-я.* **Першая работа з канструктарам**—4 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Самадзейная свабодная работа вучняў з розных матэрыялаў па адвольным выбары.

Практычная работа: 1. Сані. 2. Насілкі. 3. Каток для палявых работ. 4. Козлікі. 5. Піла для рэзкі халоднага металу. 6. Качэлі. 7. Плуг «культыватар».

Літаратура: Канструктар № 1.

### *Тэма 3-я.* **Прасцейшыя віды машын**—6 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Зрабіць параўнанне рухаючай сілы ветра, вады і пары. Разгледжванне перадатачнага механізма ў ветраным і вадзяным млыне. Прынцып механічнай перадачы. Перадача пры дапамозе некалькіх шківаў. Апоры для валаў муфты.

Практычная работа: 1. Ветраны млынок. 2. Такарны станок па дрэву. 3. Пераходны мост. 4. Паваротны кран. 5. Грузавую цялежку. 6. Матальны станок і г. д.

Літаратура: Канструктар № 1—2.

### *Тэма 4-я.* **Асноўныя часткі машыны і іх прызначэнне**—10 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы: Даць канкрэтнае паняцце як працуе веласіпед, малатарка, каленчаты вал, крывашып, зубчатая, ланцужная, насавая, чэрвятая, фракцыонныя перадачы.

Практычная работа: 1. Веласіпед. 2. Падсоўны аўтомобіль. 3. Паваротны кран. 4. Рухомы паваротны кран. 5. Падвесна-канатная дарога. 6. Дрэзіна. 7. Лесапільная рама. 8. Паравая машына і г. д.

Літаратура: Канструктар № 3.

Практычныя навыкі: набыць навыкі працы з канструктарам, умець адшукоўваць адпаведныя дэталі і месца іх прызначэння. Акрамя работы з канструктарам трэба рабіць мадэлі самастойна (з featureрознага матэрыяла) як-та: жалеза, медзі, алюмінія і г. д.

Метад распрацоўкі: Уводная гутарка па тэме. Даць указанні як патрэбна карыстацца і адшукоўваць дэталі. Змены, якія можна ўнесці ў дануюмадэль—пераканструкцыю.

*Тэма 4-я.* **Машыны, станкі**—10 гадз.

Тэарэтычная распрацоўка тэмы: на матэрыяле канструктара даць вучням паняцце аб машыне. Паказаць, як складаная машына выконвае некалькі працэсаў. Тры асноўныя часткі машыны: рухавік, перадатачны механізм, рабочая машына. Перадача зубчатай рэйкай. Перадача крывашыпам, шатуном і махавіком.

Практычная работа:
1. Свідравальны станок.
2. Строгальны станок.
3. Такарны станок.
4. Фрэзерны станок.
5. Паветраны падаючы молат.
6. Жалезначыгунны мост.
7. Пад'ёмны мост.
8. Ліцейны пасоўны маставы кран.
9. Рулявыя сцапленні з трактарам.

Практычныя навыкі:
Набыць навыкі працы з канструктарам і ўмець адшукоўваць адпаведныя дэталі і месцы іх прызначэння. Усю працу з канструктарам спалучыць з мадэляваннем машын—самастойна. Скласці чарцёж і самастойна зрабіць мадэль з таго ці іншага матэрыяла.

Літаратура: Канструктар № 4.

## Разгледжванне галіны тэхнікі—тэхніка машынабудаўніцтва

*Тэма 1-я.* **Машыны, рухавікі вадзяныя і паравыя**—46 гадз.

Тэарэтычная распрацоўка тэмы: Прызначэнне іх. Віды і выкарыстоўванне прыроднай энергіі. Як, напрыклад, паравая машына і турбіна ператварае цяглавую энергію ў механічную работу.

Сутнасць дзеяння паравой машыны. Падзел і віды паравых машын. Пабудова паравых цыліндраў і поршняў. Перадатачны механізм. Парараземркаванне. Пабудова халадзільнікаў. Вымярэнне магутнасці. Паняцце аб к. к. д.

Сутнасць і дзеянне паравой турбіны. Падзел іх. Актыўны і рэактыўны прынцыпы іх дзеяння. Сучасныя актыўныя турбіны.

Практычная работа:
1. Мадэль паравой машыны (вертыкальная).
2. Мадэль паравой машыны (гарызантальная).
3. Мадэль паравой турбіны.
4. Матор сціснутага паветра.

Практычныя навыкі:
Умець начарціць агульны выгляд мадэлі, а таксама кожную дэталь данай мадэлі паасобку. Умець размячаць, паяць, вытачыць неабходныя дэталі больш простыя. Умець аглядаць і пускаць ў ход даную рухавую мадэль.

### ЛІТАРАТУРА

Пастков—„Модели паровых машин“ и турбин.
Журнал „Знание и сила“ за 1933 г. № 5/6.

Метад распрацоўкі:
Уводная гутарка па тэме. Чарцёж мадэлі па паасобных дэталях. Выраб дэталяй і іх зборка, згодна чарцяжа. Пуск у ход мадэлі. Заключная гутарка.

## Праграма

### фото-гуртка для Д. Т. С|Г. ст. і школ

### *Тэма 1-я.* Што такое фотографія і яе значэнне ў соцбудаўніцтве—2 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы:
Агульная, уступная гутарка па пытаннях—што такое фотографія. Кароткі гістарычны агляд.

### *Тэма 2-я.* Фото-оптыка—2 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы:
1. Закон оптыкі і оптычнае шкло.
2. Падвойна выпуклая лінза, як працейшы від аб'ектыва.
3. Фокусная адлегласць.
4. Недахопы аб'ектыва.
5. Кут гледжання і кут ізабражэння.
6. Тыпы аб'ектаў.

Практычная работа:
1. Оптыка з падвойна выпуклай лінзай.
2. Практычнае ўстанаўленне фокуснай адлегласці і святлосіла аб'ектыва.
3. Практычнае азначэнне поля зроку і поля ізабражэння.

### *Тэма 3-я.* **Як зрабіць здымак**—18 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы:
1. Устаноўка фото-апарата на штатыву.
2. Зарадка касет.
3. Наводка на фокус (рэзкасць).
4. Экспозіцыя.
5. Хуткія (моментальныя) здымкі.
6. Здымкі пры ўспышцы магнія.
7. Здымкі пры электра-святле.
8. Здымкі з натуры.
9. Здымкі самадзельным апаратам.

Практычная работа:
Паўтарэнне на практыцы.

### *Тэма 4-я.* **Праяўленне пластынак, узмацненне і паслабленне негатываў**—18 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы:
1. Рэцэпт праяўлення і замацавання.
2. Тэхніка праяўлення.
3. Класіфікацыя негатываў.
4. Рэцэпты ўзмацнення і паслаблення.

Практычная работа:
1. Складанне праявіцеля.
2. Вывешванне і вымерванне матэрый.
3. Практычная работа па праяўленні.
4. Складанне раствораў узмацніцеля, паслабіцеля і работа з імі (6 гадз.).

### *Тэма 5-я.* **Друкаванне з негатыва і афарбоўка з друкавання**

Тэарэтычная прапрацоўка тэмы:
1. Працэсы з нагляданнем і друкаваннем дзённых папер, фіксаванне.
2. Працэсы праяўлення: брома-срэбных і хлёрна-бромна-срэбнай паперы.
3. Абмалёўка пазітываў (2 гадз.).

Практычная работа:
Практыка друкавання на бромістых і хлорна-бромістых паперах (8 гадз.).

### *Тэма 6-я.* **Як самому пабудаваць фото-апарат**

Тэарэтычная прапрацоўка:
1. Прынцыпы пабудовы.
2. Галоўныя часткі: аб'ектыў, затвор, камера, шкло, відашукацель і касета (2 гадз.).
3. Разлік самадзельнага апарата.

Практычная работа:

1. Знаёмства з апаратам розных канструкцый.
2. Чарчэнне самадзельнага апарата дзеля яго пабудовы (4 гадз.).

*Тэма 7-я.* **Павялічэнне**—4 гадз.

Тэарэтычная прапрацоўка: як зрабіць павелічэнне і як ім карыстацца.

Практычная работа: павелічэнне дзённым і электрычным святлом.

*Тэма 8-я.* **Экскурсіі**

Тэарэтычная прапрацоўка:

На працягу курса зрабіць экскурсію ў фотографію і лабараторыю.

**Грамадская праца**

Арганізацыя фото-гурткоў пры школах, удзел у школьных насценгазетах і ў насцендруку шэфствуючых над школамі прыемстваў.

ЛІТАРАТУРА

1. „Рабочая кніга па фотографіі"—Яшрольд-Раворка, Мархі і Іванов.
2. „Фото-любитель"—Васільев.
3. „Фото-кружок за работай"—Балцінскі.
4. „Фото-кружок и работа в нем"—Бунімовіч.
5. „Фото-лаборатория на службе тех. пропаганды"—Бунімовіч.
6. „Что и как фотографировать рабкору"—Вастронін.
7. „Двадцать уроков по фотографии"-Мікулін.
8. „Самодельный фото-аппарат"—Отто--Маўзэр.
9. „Самодельный фото-аппарат"—Албычов.

## Праграма мадэльнага гуртка

Праграма разлічана на дзяцей 5, 6 і 7 гадоў навучання і мае на мэце падрыхтаваць з дзяцей тэхнічны дзіцячы актыў, які-б потым самастойна мог кіраваць пабудовай прасцейшых мадэляў у школьных тэхнічных гуртках.

Метад распрацоўкі даных тэм павінен у асноўным складацца з наступных момантаў:

1. Тэарытычная ўводная гутарка па тэме.
2. Чарцёж мадэлі і яе дэталяў.
3. Выраб дэталяў і зборка іх згодна чарцяжоў.

4. Выпрабоўванне мадэлі.

5. Заключная гутарка, якая абгрунтоўвае работу пабудаваных гуртком мадэляў.

## Разглядваемая галіна тэхнікі. Энергія, яе крыніцы і іх скарыстоўванне

### *Тэма 1-я.* Уводная гутарка—2 гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме: Сутнасць тэхнікі. Неабходнасць і значэнне аўладання тэхнікай для соцыялістычнага будаўніцтва. Задачы тэх. прапаганды. Задачы гурткоў. ...ст і план работы. Арганізацыйныя пытанні.

ЛІТАРАТУРА

1. Ханчин—Арганізацыя тэх. прапаганды сярод дзяцей.
2. Бухарин. О техпропаганде и ее организации.

### *Тэма 2-я.* Сіла ветра і падаючай вады—15 гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме: Паняцце аб энергіі. ...гія і работа. Выкарыстоўванне сілы ветра — ветраны ...вік. Прынцып яго работы. Недахопы сучасных ветра-руха...оў і праблема ўдасканаленага рухавіка. Ветраны руха... ЦАГІ.

...іла падаючай вады. Магутнасць крыніц вадзяной энергіі ...Р і прынцыпы яе скарыстоўвання. Вадзяныя колы, ніжнія, ...эднія і верхнебо... ...ыя.

Вадзяныя турбіны. Прынцыпы іх работы. Ужыванне на буй...ных электрастанцыях.

Практычная работа:

1. Прасцейшы ветраны рухавік.
2. Ветра-рухавік з рулём.
3. Вынгротар.

Мадэлі:

1. Падліўнога вадзянога кола.
2. Наліўнога кола.
3. Прасцейшай вадзяной турбіны.

Практычныя навыкі—умець начарціць прасцейшы ветраны рухавік, зрабіць прапелер і ручку рухавіка. Умець вырэзаць лобзікам руль ветрака. Умець зрабіць 2 паўцыліндры для вынгротара. Умець начарціць і зрабіць прасцейшую мадэль вадзянога кола.

ЛІТАРАТУРА

1. П. Албычоў—Тэхніку ў школы.
2. М. Ивановский—Вихрь-моторы.
3. Ц. Д. Т. С—Подвижная техн. хрестоматия.
4. М. Панкоў—Мадэлі вадзяных і паравых рухавікоў.

*Тэма 3-я.* **Крыніцы цеплавой энергіі і цеплавыя рухавікі**—14 гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме. Розныя крыніцы цеплавой энергіі ў прыродзе і іх утварэнне. Месца і спосабы іх скарыстоўвання. Паравая машына, турбіна, рухавік нутранога згарання—прынцыпы іх работы.

Практычная работа:

1. Прасцейшая мадэль паравой турбіны.
2. Сабраць з канструктара мадэлі паравой машыны.

Практычныя навыкі:

Набыць навыкі працы з канструктарамі—наборам «Мекано» і піонер.

ЛІТАРАТУРА

1. Фрыд—Владычица мира—энергия.
2. М Ивановский—Вихрь-моторы.

*Тэма 4-я.* **Энергетыка будучыні**—**6** гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме: Паняцці аб непасрэдным скарыстоўванні сонечнай энергіі, яе велічыні, аб значэнні гэтага віда энергіі для будучыні, аб скарыстоўванні нутраной цеплаты зямлі, энергіі прыліваў і адліваў, энергіі арктычнага холада.

Практычная работа:

Мадэлі сонечнага рухавіка з лупы.

ЛІТАРАТУРА

1. Г. Гюнтэр—Энергетыка будучыні.
2. М. Ивановский—Вихрь-моторы.

Разгледжванне галіны тэхнікі: тэхніка транспарта.

*Тэма 5-я.* **Сухаземны транспарт**—40 гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме. Транспарт і народная гаспадарка. Прызначэнне транспарта і яго віды. Аўтотранспарт і яго значэнне для соцбудаўніцтва. Аўтогіганты СССР. Аўтамабіль і яго асноўныя часткі.

Ракетны аўтамабіль, як навейшае дасягненне тэхнікі. Ракетны рухавік—яго прынцып работы. Навейшае прымяненне і ўжыванне яго. Праблема скарыстоўвання ракетнага рухавіка для палёта ў стратосферу.

Практычная работа. Мадэлі.

1. Грузавік «Форд».
2. Аўто-самаход (з рэзінавым рухавіком).
3. Пэдальны аўтамабіль.

рактычныя навыкі: Элементы праекцыйнага чар-
я. Умець зрабіць неабходныя часткі для аўтомобіля з дрэ-
калеза, фанеры.

ЛІТАРАТУРА


. Сучасны аўто.
. Леонтьев і Баранов—Сделай сам.
. Ал. Абрамов і В. Галицин—Сделай сам конвеер.
. Як пабудаваць педальны аўтомобіль (дадатак да часопісі „Знание—сила"
5. Перельман—Ракетой на луну.


### *Тэма 6-я.* **Водны транспарт**—30 гадз.

Тэарэтычныя веды па тэме. Віды воднага транс-
арта: рэчны, морскі—лодкі, судны, цеплаходы—форма пабу-
овы і прынцып рухання.

Значэнне воднага транспарта для соц. будаўніцтва.

Практычная работа. Мадэлі.

1. Парусныя лодкі.
2. Лодкі з рэзінавым рухавіком.
3. З рэактыўным рухавіком.
4. З ветраным рухавіком.

Практычныя навыкі. Паглыбленне папярэдне атры-
аных навыкаў і некаторыя навыкі працы з бляхай (пайка).

ЛІТАРАТУРА


Д. Т. С-Г. Станцыя. Падвіжная тэхнічная хрэстаматыя.


Адказны рэдактар М. Лозбень.

# ЗМЕСТ



цена 1 руб. 1964 г.

---